УДК 342(075.8)
ББК 67.3я73
Д79

*Аўтары:*
**Т.І. Доўнар, У.М. Сатолін, Я.А. Юхо**
*Рэдакцыйная калегія:*
**Т.І. Доўнар, У.М. Сатолін, Г.А. Шумак, Я.А. Юхо**

**Доўнар Т.І.**

Д79 Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / Т.І. Доўнар, У.М. Сатолін, Я.А. Юхо; Рэдкалегія Т.І. Доўнар і інш.– Мн.: Тэсей, 2003.– 352 с.: ил.

ISBN 985-463-080-3.

Кніга ўяўляе сабой перавыданне аднаго з лепшых помнікаў прававой культуры беларускага народа – Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 г., выдадзенага «Императорским Московским обществом истории и древностей Российских» у 1855 г. Змяшчае прычыны і передумовы прыняцця Статута, яго характарыстыкі, значэнне і ролю ў развіцці права; каментарыі да артыкулаў Статута, а таксама тлумачальны слоўнік шэрага старажытных прававых тэрмінаў і слоў.

Кніга разлічана на навукоўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў і ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны.

**УДК 342(075.8)**
**ББК 67.3я73**

На форзацы: Нясвіж (Orda Napoleon. Album widoków historycznych naszego kraju. Warszawa: Fajans, 1873—1883. 122 il. Ser. IV).

На фронціспісе: Старонка Статута Вялікага княства Літоўскага (Statut Wielkiego Xięstwa Litewskiego... Wilno, 1619 (Druk. Leona Mamonicza).

*У выданні выкарыстаны ілюстрацыі з фонду Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь*

**ISBN 985-463-080-3**

# УСТУП

Навука гісторыі дзяржавы і права Беларусі атрымала свае самастойнае значэнне толькі ў другой палове XX ст., хаця яе карані хаваюцца ў глыбіні стагоддзяў. Адным з першых заснавальнікаў гэтай навукі быў славуты беларускі асветнік і першадрукар Францыск Скарына. У стварэнні і развіцці прававой навукі Беларусі ўдзельнічалі шматлікія вучоныя, грамадска-палітычныя дзеячы і юрысты-практыкі, большасць імёнаў якіх засталася невядомай. Яны складалі і рэдагавалі прывілеі, граматы, дагаворы, уставы, статуты, канстытуцыі і іншыя нарматыўныя акты.

Нашы продкі стварылі ў XVI ст. адну з самых дасканалых у Еўропе сістэм права, якая павінна была забяспечыць рэфармаванне грамадскага ладу і пераход ад феадальнага бяспраўнага самавольства да прававой дзяржавы.

У гэтай справе ганаровае месца належыць Статуту Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) 1566 г., азнаямленне са зместам якога неабходна для больш яснага разумення ўласнай культурна-прававой спадчыны, вызначэння свайго месца ў сусветным грамадстве і для выпрацоўкі нацыянальнага светапогляду. Да апошняга часу азнаямленне са Статутам 1566 г. было складанай справай, бо ён быў надрукаваны на беларускай мове невялікай колькасцю экземпляраў толькі адзін раз у 1855 г. Зараз на Беларусі ў многіх гарадах і навучальных установах няма ніводнага экземпляра гэтага дасканалага для свайго часу закона.

Дадзеная кніга з'яўляецца перавыданнем тэкста таго Статута 1566 г., які быў выдадзены ў 1855 г. «Императорским Московским обществом истории и древностей Российских» з прыкладзенай да яго прадмовай сакратара таварыства І. Бяляева. Рэдакцыйная калегія захавала нязменным тэкст таго выдання, зрабіла толькі нязначныя выпраўленні яўных памылак друку, пра што адзначана ў каментарыях. Кніга ўтрымлівае каментарыі да артыкулаў Статута, а таксама тлумачальны слоўнік старажытных тэрмінаў і слоў.

Уводны артыкул да гэтага выдання напісаны Я.А. Юхо.

Каментарыі да Статута падрыхтавалі: Я.А. Юхо (да прывілеяў, што змешчаны пры Статуце, і раздзелаў 1—4); У.М. Сатолін (да раздзелаў 5, 6); Т.І. Доўнар (да раздзелаў 7—14).

Тлумачальны слоўнік падрыхтавалі Т.І. Доўнар і Я.А. Юхо (асобныя артыкулы — Ю.П. Доўнар, У.М. Сатолін).



**Жыгімонт I, кароль польскі**

Iroby królów polskich w Krakowie w kościele katedralnym na zamku / Wyd. A. Irabowski. Kraków: Druk i naklad I. Czecha, 1835. S.34

# Частка 1




## татут Вялікага княства Літоўскага 1566 года – самы дасканалы ў Еўропе тагачасны звод законаў

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына;*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай.*

**Янка Купала**

Прававая культура беларускага народа фарміравалася на працягу многіх вякоў. Яе вытокі бяруць пачатак у старажытным дзяржаўным ладзе і ў звычаёвым праве. Разам з тым, з XII—XIII стст. пачынаецца развіццё пісанага права ў выглядзе міжнародных дагавораў, пагадненняў народа з князямі і асобных грамат-прывілеяў.

Выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 г. азначала новы ўздым у развіцці беларускага права. У ім разумна былі спалучаны новыя тэарэтычныя распрацоўкі мясцовага права з практычнай дзейнасцю дзяржаўнай адміністрацыі і судоў. Разам з тым, у ім былі выкарыстаны і тэарэтычныя распрацоўкі рымскага і заходнееўрапейскага права. Складальнікі Статута прыдалі яго нормам аднастайную форму, распрацавалі зразумелую для большасці насельніцтва прававую тэрміналогію, што спрыяла ўмацаванню і павелічэнню павагі да закону. Статут забяспечваў асабістыя, маёмасныя і палітычныя правы не толькі шляхты, але і гараджан. У артыкуле 2 раздзела 3 было запісана, што вялікі князь (гаспадар) абяцае ад імя свайго і нашчадкаў усіх князёў, паноў, шляхту, рыцарства, мяшчан і ўсіх людзей простых (паспалітых) захоўваць пры свабодах і вольнасцях хрысціянскіх. Пры гэтым яны, як людзі вольныя і як павялося са старажытных часоў, могуць свабодна выбіраць сабе паноў, гаспадароў і вялікіх князёў. Зразумела, што на практыцы ні мяшчане, ні «людзі паспалітыя» не ўдзельнічалі ў выбарах вялікага князя і не маглі карыстацца поўнаю свабодаю і вольнасцю. Аднак уключэнне ў Статут такога артыкула вызначала яго дэмакратычны і гуманістычны характар.

Гуманістычнае значэнне Статута 1566 г. вызначалася таксама артыкулам 13 трэцяга раздзела, у якім было запісана: «Тежъ узычаемъ и уфаляемъ вѣчными часы, абы княжата и панове хоруговные шляхты и кождый человѣкъ рыцерскій и всякого стану того панства на-

шого Великого Князства Литовского мѣли вольность и моцъ выѣхати и выйти съ тыхъ земль нашихъ Великаго Князства Литовского... для наукъ у письмѣ цвиченя учынковъ рыцерскихъ и лѣпшаго счастья своего, и тежъ будучы неспособного здоровья своего для лекарствъ до всякихъ сторонъ и земль, кромѣ земль непріятелей нашихъ...» Па Статуту 1529 г., свабодна выязджаць за межы дзяржавы мелі права толькі «княжата и панове хоруговные, шляхта и бояре», але не людзі «всякого стану» (разд. 3, арт. 8).

Статут заканадаўча аформіў парадак утварэння і дзейнасці новых па сутнасці і па форме земскіх і падкаморскіх, выбарных, не залежных ад мясцовай адміністрацыі судоў. Ён абмежаваў судовае самавольства ваяводаў, старастаў і іншых службовых асоб дзяржаўнага апарата, прыдаў больш павагі прафесійным юрыстам-суддзям і адвакатам (пракуратарам). У Статуце 1566 г. упершыню вызначаны пачаткі заканадаўчага замацавання тэорыі падзелу ўладаў, прычым трэба адзначыць, што прававая практыка апераджала тэорыю.

Статутам 1566 г. карысталіся на Беларусі і Літве да 1589 г., г.зн. да ўвядзення ў дзеянне Статута 1588 г., а на Правабярэжнай Украіне, якая ў 1569 г. была далучана да Польшчы, ён дзейнічаў больш за 260 гадоў. Па звестках В. Раўдзелюнаса, зараз вядома 58 рукапісных тэкстаў (спісаў) Статута 1566 г.: 13 на старабеларускай мове, 40 — на польскай і 5 на лацінскай мове. Беларускі тэкст Статута ўпершыню быў надрукаваны ў Маскве ў 1855 г. у невялікай колькасці экземпляраў. У 1900 г. у Кракаве ён быў апублікаваны на польскай і лацінскай мовах*.

Прававая сістэма, што існавала на тэрыторыі старажытнай Беларусі, утварылася на аснове звычаёвага права, якое выпрацоўвалася практычнай дзейнасцю ўсяго народа. Юрыдычную фармулёўку яно атрымоўвала ў пастановах народных сходаў-соймаў, вечаў і копных судоў. На выпрацоўку звычаёвага права грунтоўны ўплыў аказвалі язычкія жрацы-крэвы і службовыя асобы дзяржаўнага апарата: князі, ваяводы, пасаднікі, тысяцкія, цівуны і іншыя. З пачаткам хрысціянства на развіццё права істотнае ўздзеянне аказала праваслаўнае і каталіцкае духавенства, а ў другой палове XVI ст.— і розныя рэфармацыйныя дзеячы.

У старажытнасці звычаёвае права рэгулявала ўсё праваадносіны ў грамадскім жыцці, структуру і кампетэнцыю органаў дзяржаўнай ула-

* Bardach J. Statuty litewskie a prawo rzymskie. Warszawa, 1999. S. 8.

ды, правы і абавязкі класаў і сацыяльных груп насельніцтва, сямейныя, зямельныя, цывільныя, крымінальныя, судова-працэсуальныя і іншыя праваадносіны. Яно ж вызначала форму ўлады, парадак уступлення на княжацкі трон і пазбаўленне яго. Уступленне на княжацкі трон афармлялася дагаворам з князем пры запрашэнні яго з «чужой» зямлі або граматай, калі ён уступаў на трон па спадчыннаму праву.

Звычаёвае права рэгулявала дзейнасць копных судоў, у сувязі з чым склалася адмысловая галіна — копнае права. Творцам звычаёвага права быў увесь народ, які выпрацаваў і назапасіў прававыя нормы на ўсе выпадкі грамадскага жыцця. Гэтыя прававыя нормы паслужылі асновай і пры складанні Статутаў, дагавораў, грамат, прывілеяў, соймавых пастаноў і іншых пісаных прававых актаў.

Адным з першых славутых помнікаў пісанага беларускага (крывіцкага) права быў дагавор 1229 г. Смаленскага, Віцебскага і Полацкага княстваў з Рыгай і Гоцкім берагам (узбярэжжам Балтыйскага мора). Дагавор замацаваў прававыя адносіны, што забяспечвалі мірныя добрасуседскія адносіны ў гандлёва-эканамічных і ў дзяржаўна-палітычных сувязях. У ім вызначаліся меры цывільнай і крымінальнай адказнасці за правапарушэнні, рэгуляваўся парадак заключэння і выканання дагавораў куплі-продажу, пазыкі, перавозкі і інш., прадугледжваўся працэсуальны парадак разгляду судовых спраў, рэгламентавалася прававое становішча замежных купцоў і іншых асоб. Усе палажэнні дагавора грунтаваліся на ўзаемнасці і раўнапраўі бакоў, што сведчыць аб падабенстве эканамічнага і палітычнага становішча, а таксама аб пастаянных і ўстойлівых сувязях беларускіх княстваў з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі.

Дагаворныя адносіны старажытных беларускіх княстваў з Рыгай і Лівоніяй пацвярджаліся і ў наступныя гады. Так, у дагаворы 1263 г., заключаным у інтарэсах Полацкага і Віцебскага княстваў полацкім князем Гердзеням (бацькам Віценя) з Лівонскім магістрам, зацвярджаліся мірныя адносіны і забяспечваўся свабодны гандаль, акрэслівалася дзяржаўная мяжа паміж удзельнікамі дагавору. У 1309 г. была выдадзена новая дагаворная грамата аб мірных адносінах Полацкай дзяржавы з Рыгай. У ёй звяртае на сябе ўвагу тое, што ад імя Полацкага княства піша не князь, а полацкі епіскап, які замяшчаў князя Віценя на час яго ад'езду з Полацка, бо Віцень быў адначасова і вялікім князем Літоўскім. У гэтай жа грамаце ёсць наступны запіс: «А ныне есмь оуведал; любовь ваша правая с сыном моім с Вітенем»*. Значнай увагі заслугоўвае дагавор вялікага князя

* Полоцкие грамоты / Сост. А.Л. Хорошкевич. Ч. 1. М., 1977. С. 37.

Літоўскага Гедзіміна з Лівонскім ордэнам, заключаны ў 1338 г. аб міры і граніцах «са згоды епіскапа Полацка, караля і горада Полацка і караля Віцебска і горада Віцебска»*. Міжнародныя дагаворы мелі важнае значэнне ў развіцці пісанага права, бо яны дапамагалі развіваць сваё права з улікам норм замежнага права.

Першакрыніцамі ў развіцці пісанага права былі агульназемскія, абласныя, гарадскія і валасныя граматы-прывілеі. Асаблівае значэнне мелі агульназемскія прывілеі 1447, 1492 і 1564 гг., у якіх былі выкладзены нормы канстытуцыйнага права і асноўныя прынцыпы грамадзянскага, крымінальнага, судовага і працэсуальнага права.

Першым кодэксам крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права на нашай зямлі з'яўляўся Судзебнік, які быў выдадзены 29 лютага 1468 г. вялікім князем Літоўскім Андрэем Казімірам Ягайлавічам і складаўся з 25 артыкулаў. Выданнем Судзебніка быў пакладзены пачатак новаму этапу ў развіцці прававвой тэорыі і практыкі па сістэматызацыі і кадыфікацыі права. У яго аснову было пакладзена мясцовае беларускае звычаёвае права ў спалучэнні з новымі нормамі, выпрацаванымі судовай і адміністрацыйнай практыкай у адпаведнасці з новымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі жыцця. З яго выданнем пачынаецца новы этап у развіцці беларускай прававой культуры, што завяршыўся выданнем трох статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг.

Праца па падрыхтоўцы першага Статута 1529 г. вялася на працягу некалькіх гадоў у першай чвэрці XVI ст. Першы варыянт праекта Статута быў падрыхтаваны ў 1522 г., але ён не быў зацверджаны і праца над ім працягвалася яшчэ сем гадоў.

Хто ўдзельнічаў у яго падрыхтоўцы, цяпер устанавіць з абсалютнай дакладнасцю немагчыма, але ёсць падставы сцвярджаць, што ў яго падрыхтоўцы прымалі ўдзел славуты беларускі вучоны, доктар многіх навук, у тым ліку і доктар права, наш першадрукар і асветнік Францыск Скарына, а таксама ваявода Віленскі, канцлер Вялікага княства Літоўскага, стараста Барысаўскі і Мозырскі, уладальнік маёнткаў на Міншчыне і Магілёўшчыне, граф на Мураваных Геранёнах (у Ашмянскім павеце, зараз Іўеўскі раён, Гродзенская вобласць) — Альбрэхт Войцэх Гаштальд. Асноўныя палажэнні Статута абмяркоўваліся з вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам Казіміравічам, якому належыць гонар зацвярджэння Статута. З гэтай нагоды была нават напісана «Пахвала Жыгімонту», у якой ён называўся «Вялікім Жыгімонтам», бо ён пераўзышоў усіх вялікіх

* Послания Гедемина. Вильнюс, 1966. С. 194.

князёў і каралёў, таму што ён «нас навучыў справядлівасць чыніці»*.

У Статуце 1529 г. былі сістэматызаваны і выкладзены ў пэўным парадку нормы канстытуцыйнага, вайсковага, грамадзянскага (цывільнага), зямельнага, шлюбна-сямейнага, судова-працэсуальнага, крымінальнага і іншых галін права, што рабіла яго першым зводам законаў у Еўропе. Выданне Статута 1529 г. было велізарным якасным скачком у развіцці прававой культуры беларускага народа. Статут быў складзены на аснове мясцовага права і напісаны на беларускай мове з захаваннем літаратурнага стылю, лексікі і дзяржаўна-прававой тэрміналогіі таго часу.

Выданне Статута 1529 г. вывела нашу краіну на адно з першых месцаў у свеце па развіццю права і прававой культуры. Разам з тым, Статут 1529 г. з'явіўся прававой асновай для далейшага развіцця заканадаўства, ён быў галоўнай крыніцай пры падрыхтоўцы яшчэ больш дасканалага Статута 1566 г.

Змены, што адбыліся ў сацыяльна-палітычным жыцці дзяржавы ў 40—50-х гадах XVI ст., асабліва пасля правядзеня аграрнай рэформы 1557 г., патрабавалі далейшага ўдасканалення права. Яго недахопы адчуваў і сам урад, таму неаднойчы дапаўняў Статут 1529 г. Але гэтага было мала. У лістападзе 1551 г. вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, адказваючы на просьбы дэпутатаў сойма, вырашыў са згоды паноў рады ўтварыць камісію з дзесяці асоб (пяць католікаў і пяць праваслаўных) для перагляду і ўдасканалення заканадаўства. Перад імі ставілася задача «сесь статут добра обачити и развážити и выразумети то, чого бы потреба была прибавити альбо убавити, альбо отменити;— то они мают достаточне списати и на другом прышлом сойме маюць перед его королевскою милостью и теж перед их милостью паны радами и перед всими нами оказати»**.

З гэтай першапачатковай камісіі вядомыя толькі католікі: Ян Даманеўскі — біскуп жамойцкі, Станіслаў Габрыяловіч — віленскі канонік, Аўгусцін Ратондус Мялецкі — віленскі войт, Павел Астравіцкі — віленскі суддзя, Марцін Валодкавіч — земскі пісар. Імёны астатніх удзельнікаў камісіі невядомыя. Невядома ўвогуле, ці былі яны прызначаны і што гэта камісія зрабіла, бо з тэкста Бельскага прывілея 1564 г. вынікае, што праект Статута рыхтавала іншая камісія: «Якож за волею и допущеньем нашим, а позволеньем рад наших обраны на то были через них же самих и с посродку тых же станов

* Zbiór praw Litewskich. Poznań, 1841. S. 92—95.

** Русская историческая библиотека. Т. XXX. Юрьев, 1914. С. 184.

особы певные рады наши, маршалкове, врадники земскiе, хоружiе и иные особы ряду и народу шляхецкого... и докторы прав чужоземских». У лісце Аўгусціна Ротондуса да кардынала Станіслава Гозія ад 5 сакавіка 1566 г. з вялікім жалем гаворыцца, што ў Статут былі ўключаны нормы, якія не адпавядалі інтарэсам каталіцкай царквы, сярод якіх «адно шкоднае права, катораму мы, каталікі, ніякім спосабам не маглі перашкодзіць не так перакананы, як адкінуты вялікай сілаю супраціўнікаў... Заключаецца яно ў тым, што можна кожнаму прысягаць згодна са сваёй верай, нават не датыкаючыся вобраза ўкрыжаванага... Пры ўкладанні тых праў я меў вельмі многа ўпартых спрэчак з ерэтыкамі, якія складалі амаль большую частку сярод складальнікаў гэтага права... Многія, і то сярод вялікіх імён, заяўлялі, што лаціна для іх непатрэбная і шкодная і што ўсялякае зло было прынесена ў Літву гэтаю моваю»*. Са зместу гэтага ліста можна зрабіць наступныя высновы: пры складанні Статута 1566 г. галоўная роля належала прадстаўнікам «вялікіх імёнаў», якія былі не каталікамі, не праваслаўнымі, а «ерэтыкамі», г.зн. пратэстантамі (кальвіністамі). Гэта былі Мікалай Радзівіл Чорны і Астафій Валовіч. Прыхільнікі каталіцкай царквы дамагаліся ўключыць у Статут нормы, якія б забяспечвалі інтарэсы каталіцкага духавенства, і выдаць яго, апрача беларускай мовы, адначасова на лацінскай, але іх дамаганні былі адхілены «вялікай сілаю».

Галоўным кіраўніком камісіі па складанню Статута 1566 г. да часу сваёй смерці, г.зн. да 29 траўня 1565 г., быў выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч, ваявода віленскі, канцлер Вялікага княства Літоўскага, маршалак земскі, стараста берасцейскі і ковенскі Мікалай Янавіч Радзівіл Чорны. Ён займаўся падрыхтоўкай і іншых прававых актаў, такіх, напрыклад, як «Устава на валокі» 1557 г., згодна з якой упарадкоўваліся дзяржаўныя маёнткі (фальваркі) і ўводзілася новая падатковая сістэма адносна сялянскіх гаспадарак, у аснову якой быў пакладзены надзел сялянскай зямлі ў адну валоку (21 гектар). Ён жа быў удзельнікам правядзення адміністрацыйна-судовай рэформы ў дзяржаве ў 1564—1566 гг. Дзякуючы яго намаганням на Беларусі пашыралася кнігадрукаванне, былі ўтвораны друкарні ў Нясвіжы і Бярэсці. Але самай выдатнай яго справай была падрыхтоўка Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 г.

Другім удзельнікам падрыхтоўкі праекта Статута 1566 г. быў маршалак дворны, пісар (потым падканцлер), стараста магілёўскі Астафій Валовіч. Ён быў высокаадукаваным дзяржаўным дзеячам, у маладосці вучыўся ў замежным універсітэце, актыўна праводзіў па-

* Bardach J. Statuty litewskie a prawo rzymskie. S. 44—46.

літыку свабоды веравызнання і абароны дзяржаўнага суверэнітэту Вялікага княства Літоўскага, што праявілася і ў Статуце 1566 г.

У камісіі пад кіраўніцтвам Мікалая Радзівіла Чорнага прымалі ўдзел два «докторы прав чужоземских»: Пётр Раізій — «гішпан з Арагона» — і Аўгусцін Ратондус Мялецкі з Вільні. Іншыя ўдзельнікі камісіі па падрыхтоўцы Статута, такія, як «врадники земские, хоружие и иные особы ряду и народу шляхетского», засталіся невядомымі.

Той факт, што праект Статута абмяркоўваўся на агульных соймах, пачынаючы з 1561 г., сведчыць аб актыўным удзеле і іншых асоб у яго падрыхтоўцы. Канчаткова Статут быў ухвалены на Бельскім сойме 1564 г. і павінен быць уведзены ў дзеянне з 11 лістапада 1564 г., але потым было абʼяўлена, што частка яго артыкулаў уводзіцца ў дзеянне з 26 студзеня 1566 г. Канчаткова ён быў уведзены ў дзеянне пастановай Віленскага сойма 1 сакавіка 1566 г. Выдадзены ён быў з дадаткам да яго прывілеяў 1563, 1564, 1565 гг., а таксама з соймавай пастановай 1566 г. аб папраўцы артыкулаў Статута.

Агульназемскі прывілей 1563 г. меў на мэце не дапусціць міжусобнай вайны паміж рознымі канфесіямі хрысціянства. Асабліва ў гэтым былі зацікаўлены кальвіністы і іх вядучыя дзеячы — Мікалай Янавіч Радзівіл Чорны, Мікалай Юрʼевіч Радзівіл Руды, Астафій Багдановіч Валовіч. Гэтым прывілеем адмяняліся дыскрымінацыйныя артыкулы Гарадзельскага прывілея 1413 г., пасля чаго ўсе хрысціяне, як каталікі, так і праваслаўныя, кальвіністы або іншыя пратэстанты, маглі карыстацца аднолькава правамі шляхты. У гэтым прывілеі было запісана: «**Ижъ отъ того часу, не только тые панове шляхта и бояре або потомкове ихъ всихъ земль нашихъ того панства всего нашого дарованья привильевъ и наданье всѣх вольностей и справъ земскихъ уживати и съ нимъ се веселити мають, которые суть подданы Римскому костелу и которихъ тежь продкове клейносты и гербы в Коронѣ Польской приймовали; але тежъ и вси иные стану рыцерского шляхецкого, якъ Литовского такъ и Руского народу одно бы были вѣры Хрестіянское, и тежъ которіе продкове клейнотовъ або ли гербовъ съ Коруны Польской не брали, однако и заровно того всего вѣчными часы уживати и тыхъ вольностей веселитись, яко передъ тымъ здавна и до того часу тыхъ всихъ вольностей стану рыцерского и шляхецкого обоего народу якъ Литовского такъ и Руского уживали и съ того се веселили**».

Прывілей ад 1 ліпеня 1564 г., выдадзены на Бельскім сойме, меў важнае канстытуцыйнае значэне. Апрача таго, што ім зацвярджаўся Статут, ён уводзіў у жыццё новы прынцып адасаблення судовай улады ад адміністрацыі. Згодна з гэтым прывілеем, ваяводы, старас-

ты і іншыя службовыя асобы пазбаўляліся (добраахвотна) права вяршыць суд над шляхтай. Утвараліся новыя выбарныя шляхецкія земскія суды: «**абы старадавный обычай владности суду воеводъ и иныхъ врядовъ старыхъ уступилъ судомъ новымъ порядкомъ въ семъ часѣ учыненыхъ постановеныхъ и въ статутѣ описаныхъ**».

У прывілеі, у пацвярджэнне яго важнасці і законнасці, былі запісаны імёны і пасады найбольш знатных асоб, якія прысутнічалі пры яго падпісанні.

Віленскім прывілеем ад 30 снежня 1565 г. юрыдычна афармлялася ўтварэнне павятовага прадстаўнічага шляхецкага органа — павятовага сойміка. Вялікі князь гэтым прывілеем пастанавіў, каб для выбрання паслоў на агульныя соймы дзяржавы «**и инымъ потребамъ земскимъ**» збіраўся «**соймъ малы ку бранью всѣхъ обывателей въ каждомъ повѣтѣ мевати; и на тые соймы повѣтовые всимъ паномъ радамъ нашымъ княземъ паномъ врядникомъ земскимъ и дворнымъ и всимъ станомъ народу шляхецкого и стану рыцерского, гдѣ въ которомъ повѣтѣ осѣлость маетъ, на часы черезъ листы наши назначоные**». Гэты прывілей знаходзіўся ў адзінстве з артыкулам 5 раздзела 3 і сведчыў аб пачатку рэформы мясцовых огранаў улады і пашырэнні правоў павятовых органаў у вырашэнні мясцовых спраў, а таксама пры абмеркаванні і вырашэнні агульнадзяржаўных спраў на агульных соймах Вялікага княства Літоўскага.

Праца па ўдасканаленню Статута працягвалася і пасля яго ўвядзення ў дзеянне. Так, 1 ліпеня 1566 г. на Берасцейскім сойме былі ўнесены змены ў артыкул 1 раздзела 7, які прадугледжваў поўную свабоду распараджэння маёнткамі.

Усе гэтыя дакументы, змешчаныя перад тэкстам Статута, з'яўляліся яго неадлучнай частк ай і сведчылі аб новым этапе і прагрэсіўным накірунку развіцця заканадаўства Вялікага княства Літоўскага, пашырэнні правоў усіх землеўласнікаў, уплыве агульнаеўрапейскіх ідэй Рэфармацыі і гуманізма на развіццё палітычнай і прававой думкі.

Тэкст Статута пачынаецца з прэамбулы, у якой вялікі князь абвяшчае «**явно всимъ вобецъ и каждому зособна нинѣшнимъ и на потомъ будучимъ, ижъ тотъ статутъ Великому Князеству Литовскому, панству нашому и всимъ землямъ къ нему прислухаючимъ... водле которого вжо вси обыватели того панства нашого Великого князства Литовского и вси земли ку нему належачие будуть се радити и судити... А выдань есть сесь статутъ на соймѣ Виленскомъ великомъ, валномъ, року Божъего на-**

**роженья тисеча пять сотъ шестдесятъ шостого, мѣсяца Марта, первого дня».**

Затрымка з увядзеннем Статута ў дзеянне была выклікана, у першую чаргу, вострай палітычнай барацьбой на соймах і ў радзе Вялікага княства, а таксама вайной з Маскоўскай дзяржавай. Не апошняе месца ў затрымцы Статута мела і тое, што галоўны дзеяч па яго падрыхтоўцы, Мікалай Радзівіл, памёр 29 траўня 1565 г.

У Статуце 1566 г. адлюстравалася ўся глыбіня, разнастайнасць і супярэчлівасць сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцця грамадства. У яго 14 раздзелах і 367 артыкулах былі выкладзены нормы дзяржаўнага (канстытуцыйнага), адміністрацыйнага, судова-працэсуальнага, шлюбна-сямейнага, грамадзянскага, спадчыннага, зямельнага, ляснога і крымінальнага правоў. Рэгулявалася таксама прававое становішча розных класаў, саслоўяў і сацыяльных груп насельніцтва. Значныя змены адносна Статута 1529 г. былі ўнесены ў сістэму размяшчэння прававых норм. Так, нормы спадчыннага права выдзелены ў асобны раздзел, а былы шосты раздзел аб судах і судаводстве стаў чацвертым. Тым самым ён юрыдычна замацаваў і адлюстраваў вылучэнне судовай сістэмы як самастойнай судовай улады, што сведчыла аб пачатку падзела ўладаў на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Надавалася больш важнае значэнне сёмаму раздзелу, у якім змяшчаліся нормы грамадзянскага права.

У канстытуцыйным праве Статута 1566 г. былі адлюстраваны дзяржаўны суверэнітэт, грамадскі і дзяржаўны лад, асноўныя правы і абавязкі грамадзян, асноўныя прынцыпы судовага ладу і палажэнні іншых галін права. Канстытуцыйнае права Статута значна апярэджвала развіццё канстытуцыйнага права краін Заходняй Еўропы, у якіх яно набыло самастойнае значэнне як адмысловая галіна права толькі ў XVIII ст.

У Статуце 1566 г. была юрыдычна замацавана адасобленасць Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы. Яго складальнікі не ўнеслі ніводнага артыкула, які б мог ушчаміць суверэнітэт Княства. Больш таго, Статут усюды падкрэсліваў адасобленасць Вялікага княства Літоўскага і абавязваў гасудара захоўваць недатыкальнасць яго тэрыторыі і нават вярнуць яму землі, ад яго адарваныя (раздз. 3, арт. 1, 3). Строга выконваўся артыкул, які забараняў даваць чужаземцам, у тым ліку і палякам, землі, пасады, чыны і званні (раздз. 3, арт. 9).

Да найбольш важных нормаў, выкладзеных у гэтым Статуце, безумоўна, належаць нормы канстытуцыйнага права, што вызначалі

склад тэрыторыі дзяржавы, парадак утварэння і дзейнасць дзяржаўных органаў, правы і прывілеі пануючага класа і саслоўяў.

Тэрыторыя дзяржавы падчас выдання Статута 1566 г. ў адміністрацыйна-прававых адносінах падзялялася на дзве часткі: цэнтральную (не ў геаграфічным, а ў дзяржаўна-прававым сэнсе) і землі, «прыслухоўваючыя да таго панства». Цэнтральная частка дзяржавы ў помніках права называлася Вялікім княствам Літоўскім (таксама як і ўся дзяржава цалкам) ці проста Літвой. У яе ўваходзілі наступныя княствы і паветы: Ашмянскі, Брэсцкі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Гарадзенскі, Кобрынскі, Клецкі, Ковенскі, Лідскі, Мінскі, Мсціслаўскі, Навагрудскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слонімскі, Слуцкі, Трокскі і Упіцкі. З гэтага пераліку відаць, што асноўную частку тэрыторыі цэнтральнай зямлі, ці Літвы, складалі беларускія землі. У землі «прыслухоўваючыя» ўваходзілі: Віцебская, Жмудская (паўночна-заходняя частка этнаграфічнай Літвы), Кіеўская, Полацкая, Падляшская (заходняя частка Беларусі з гарадамі Беластокам, Бельскам, Мельнікам і Драгічынам-на-Бугу) і Падолле.

Дамінуючае становішча ў дзяржаве займалі цэнтральныя землі. На іх была найбольшая колькасць велікакняжацкіх маёнткаў. Тут былі і маёнткі буйных уплывовых феадалаў: Радзівілаў, Гальшанскіх, Слуцкіх, Друцкіх, Сапег, Глебавічаў, Глінскіх, Хадкевічаў, Кішак і інш. Гэтая тэрыторыя была параўнаўча густа заселена, адсюль збіралася асноўная частка арміі, з насельніцтва гэтых зямель браліся і галоўныя сродкі ў дзяржаўную казну. Феадалы гэтых зямель займалі пануючае становішча ў дзяржаве, у іхніх руках былі найбольш важныя органы дзяржаўнага кіраўніцтва і дзяржаўнай улады.

У некаторых гісторыкаў феадалы гэтых зямель называліся літоўскімі (ад назвы цэнтральнай часткі дзяржавы, а не паводле этнаграфічнай прыналежнасці), і таму яны спрабавалі гісторыю Беларусі гэтага перыяду паказваць так, нібы на Беларусі панавалі не беларускія феадалы, а чужыя — літоўскія. Беларускі ж народ яны паказвалі як бяскласавы, з адных толькі сялян. Памылковасць і шкоднасць такога пункту гледжання даказалі шмат вучоных, і перш за ўсё М.В. Доўнар-Запольскі.

Класавы і саслоўны падзел грамадства ў XVI стагоддзі яскрава праявіўся ў помніках права, перш за ўсё ў статутах, у якіх юрыдычна замацоўвалася воля пануючага класа феадалаў. Леў Іванавіч Сапега пісаў: «...владзу и волность у руках своих маем, а права сами сабе творачы яко найбольш можем волности своее во всем постерегаем, бо не только сусед, а сполный наш обыватель в отчизне, але и

сам господар пан наш жадное звирхности над нами заживати не можеть, одно только колько ему право допущаеть»*.

Словы Сапегі аб тым, што самі феадалы твораць пажаданае ім права і што нават вялікі князь абавязаны падпарадкавацца іх волі, не былі пустым выхваленнем, яны адлюстроўвалі сапраўдныя суадносіны класавых сіл у дзяржаве. У адпаведнасці з воляй феадалаў быў выдадзены і Статут 1566 г.

Паколькі асноўную частку ядра дзяржавы складалі беларускія землі, беларуская мова прызнавалася за дзяржаўную на ўсёй тэрыторыі Княства, а нормы права, пажаданыя і выгадныя феадалам, зрабіліся абавязковымі для ўсіх.

У артыкуле 2 раздзела 3 абвяшчалася захаванне ўсіх ільгот і прывілеяў, атрыманых шляхтай у ранейшыя часы. Важнае значэнне мелі нормы, што рэгулявалі парадак прыняцця новых законаў. Так, у артыкуле 2 раздзела 2 гаварылася, што гаспадар ні сам асобна, ні сумесна з радай не правамоцныя вырашаць пытанні аб вайне і падатках. Іх мог вырашаць толькі сойм. Потым у гэтым жа артыкуле вызначаўся склад сойма. У артыкуле 1 раздзела 3 гаспадар даваў абяцанне захоўваць Вялікае княства Літоўскае ва ўсёй яго славе, уладзе і «въ границахъ ни въ чомъ не вменшати и о вшемъ примножати». А ў арытыкуле 3 таго ж раздзела ён яшчэ абяцаў: «...добра Князства Литовского не уменшымъ и то, што будеть черезъ непріятелей того панства нашого отдалено розобрано и ку иншому панству отъ того нашого коли кольвекъ упрошоно, ку Коронѣ ку Мазовшу ку Прусомъ ку Ифляннтомъ, то за се ку власности того Великого Князства привести привлащати и границы оправити обѣцуемъ».

Трэба сказаць, што для Жыгімонта Аўгуста гэтае абяцанне было пустым гукам, бо пасля ён парушыў не толькі гэтае абяцанне, але і сваю ўрачыстую прысягу, якую даваў, уступаючы на трон, аб захаванні Вялікага княства Літоўскага ў цэласнасці.

Аналізуючы гэты артыкул, неабходна звярнуць увагу, што сярод непрыяцеляў Вялікага княства Літоўскага пералічваюцца Польшча (Карона) і польская вобласць Мазоўшэ.

У артыкуле 9 раздзела 3 развіта далей норма аб тым, што «...достойностей духовныхъ и свѣцкихъ городовъ дворовъ и кгрунтовъ старостствъ въ держаньи и пожываньи и вѣчностей жадных чужоземцомъ и заграничникомъ ани сусѣдомъ таго панства давати не маемъ». Тым самым больш

* Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. Мн., 1989. С. 47.

поўна і ясна была паўторана норма, раней выкладзеная ў агульназемскіх прывілеях і ў Статуце 1529 г., якая забараняла даваць маёнткі і пасады чужаземцам і суседзям Вялікага княства Літоўскага. Вядома, што гэтыя артыкулы былі ўнесены ў Статут 1566 г. насуперак волі польскіх феадалаў і самога караля, які ўсімі сіламі імкнуўся да ліквідацыі самастойнага існавання Вялікага княства Літоўскага. Гэтая накіраванасць норм Статута супраць захопніцкіх тэндэнцый польскіх феадалаў — яркае сведчанне памылковасці тэзіса польскіх гісторыкаў, якія сцвярджалі, што нібыта дробная і сярэдняя шляхта Вялікага княства Літоўскага імкнулася да уніі з Польшчай і тым самым да ўключэння княства ў склад Польшчы.

У артыкуле 5 раздзела 3 рэгламентаваўся парадак правядзення павятовых соймікаў, якія павінны былі збірацца дзеля абмеркавання мясцовых пытанняў і выбараў дэпутатаў на агульнадзяржаўны сойм. Было ўстаноўлена, каб ад кожнага павета выбіраліся па два дэпутаты. Апроч таго, на вальны (агульны) сойм, паводле старых звычаяў, спецыяльнымі лістамі вялікага князя запрашаліся князі, паны, маршалкі і іншыя службовыя асобы. Тым самым заканадаўча былі замацаваны прывілеі і пануючая роля буйных феадалаў у дзяржаве, што таксама супярэчыць думцы некаторых гісторыкаў, якія лічылі, што Статут 1566 г. абмежаваў правы буйных феадалаў і на пануючае становішча ў дзяржаве нібыта вылучаў дробную і сярэднюю шляхту. Інтарэсы буйных феадалаў ахоўваў і артыкул 10 гэтага ж раздзела, у якім было запісана: «**Тежъ обѣцуемъ и хочемъ вѣчными часы мѣти, абы панове рада наша, такъ духовные яко и свѣцкіе, и вси иные врядники нашы земскіе и дворные, въ томъ панствѣ нашомъ Великомъ Князствѣ Литовскомъ были во всякихъ достоенствахъ и у почтивостяхъ захованы водлѣ давного обычаю и кождый подлѣ зацности и мѣстца своего**».

Артыкул 12 раздзела 3 гарантаваў захаванне і выкананне ўсіх раней выдадзеных прывілеяў, патрабаваў прымаць новыя законы толькі на «**вальномъ соймѣ... зъ вѣдомостью порадою радъ нашихъ и призволеньемъ всихъ земль того панства нашого**». Што да норм канстытуцыйнага права, выкладзеных у Статуце 1566 г., то трэба мець на ўвазе, што яны дапаўняліся яшчэ іншымі нарматыўнымі актамі — агульнадзяржаўнымі, абласнымі і гарадскімі прывілеямі, якія вызначалі структуру і кампетэнцыю дзяржаўных органаў, адносіны цэнтральных органаў да мяцовых і шмат іншых норм. Такія прабелы ў Статуце тлумачацца тым, што шмат якія адносіны рэгуляваліся не пісаным правам, а ўсталяванымі звычаямі. Складальнікі ж Статута мелі сваю задачу — стварыць сістэматычны звод існуючых законаў —

і не стараліся ствараць новыя прававыя нормы там, дзе гэтага зусім і нікольки не патрабавала само жыццё.

У нормах дзяржаўнага права, выкладзенага ў Статуце, быў замацаваны феадальны грамадскі лад і разам з тым утрымліваліся нормы, якія замацоўвалі парасткі новага буржуазнага права. Так, у Статуце абвяшчалася фармальная роўнасць усіх перад законам. Усе павінны былі судзіцца **«тыми одными правы писаными»** (раздз. 1, арт. 1), хоць сам закон не быў роўны для ўсіх. Напрыклад, простым людзям, нешляхціцам, забаранялася даваць больш ці менш значныя пасады ў дзяржаўным апараце (раздз. 3, арт. 15). Яны не дапускаліся на соймы. Іх удзел у палітычным жыцці абмяжоўваўся толькі мясцовымі справамі, хоць у Статуце і гаварылася, што ўсе простыя людзі, нароўні з феадаламі, нібыта ўдзельнічаюць у выбранні гасудара (раздз. 3, арт. 2).

Статут дзяліў усё насельніцтва на саслоўі: шляхту, духавенства, мяшчан і простых людзей. Прававое становішча ўсяго сослоўя шляхты вельмі адрознівалася ад становішча простых людзей. Толькі шляхціц меў права займаць пасады ў дзяржаўным апараце і судзе, свабодна купляць і прадаваць маёнткі і валодаць феадальна залежнымі сялянамі, без аплаты мыта вывозіць на продаж за мяжу прадукты, выробленыя ў сваёй гаспадарцы, актыўна ўдзельнічаць у павятовых сойміках і быць абраным у дэпутаты на агульнадзяржаўны сойм. Яму гарантавалася асабістая свабода, ён быў вызвалены ад падаткаў і павіннасцей, за выключэннем вайсковай службы і падаткаў на вайну.

Згодна Статуту, простыя людзі падзяляліся на некалькі груп. Найбольш багатыя з іх называліся панцырнымі і путнымі слугамі. Затым называліся бортнікі, цяглыя людзі, якія павінны былі працаваць у панскім маёнтку і выконваць іншыя павіннасці, чэлядзь нявольная, розныя рамеснікі, мяшчане (раздз. 12, арт. 1—3, 9, 13).

Асноўнае абмежаванне правоў сялян заключалася ў адмаўленні ім у праве ўласнасці на зямлю і ў забароне набываць ва ўласнасць маёнткі і землі. Просты чалавек, не атрымаўшы шляхецкай годнасці, не меў права набываць шляхецкія маўнткі і землі. Уласнікамі ўсіх сялянскіх зямель прызнаваліся толькі феадалы ці феадальная дзяржава («Устава на валокі 1557 г.»). Феадальна залежны чалавек не меў права без дазволу свайго пана прадаваць зямлю, якой ён карыстаўся (раздз. 9, арт. 18), а таксама змяніць месца жыхарства ці пайсці да другога феадала (раздз. 12, арт. 8, 9). Самай бяспраўнай часткай насельніцтва былі чэлядзь нявольная і палонныя, якія знаходзіліся ў становішчы рабоў. Яны не лічыліся суб'ектамі права, не

маглі завяшчаць і атрымліваць маёмасць па завяшчанні (раздз. 8, арт. 1, 4).

Прававое становішча мяшчан адрознівалася ад становішча шляхты і сялян. Мяшчане амаль усіх беларускіх гарадоў у XV–XVII стст. атрымалі спецыяльныя граматы на так званае Магдэбургскае права, якое дазваляла ім ствараць у горадзе органы кіравання, непадуладныя мясцовым старастам і ваяводам. Узначальвалі кіраванне ў горадзе войт, бурмістры і радцы. Мяшчане ўсіх дзяржаўных гарадоў былі асабіста свабоднымі людзьмі. Яны маглі мяняць свае месца жыхарства і выязджаць за мяжу, ім гарантавалася права ўласнасці на маёмасць, а ў некаторых выпадках нават на маёнткі. Яны не дапускаліся на дзяржаўныя пасады і не мелі сваіх прадстаўнікоў ні ў панскай радзе, ні на сойме, але маглі ўдзельнічаць у мясцовых гарадскіх соймах, дзе разглядаліся гарадскія справы, мелі права аб'ядноўвацца ў саюзы па прафесіях — цэхі і рэлігійна-асветніцкія і дабрачынныя арганізацыі — брацтвы.

Права, выкладзенае ў Статуце 1566 г., рэгламентавала структуру і кампетэнцыю вярхоўных органаў дзяржаўнай улады Вялікага княства Літоўскагага. Уся сістэма органаў дзяржаўнай улады і ўпраўлення будавалася на агульных прынцыпах феадальнага права: стварэнне льгот і пераваг класу феадалаў і саслоўю шляхты і недапушчэнне простых людзей у органы ўпраўлення; юрыдычнае замацаванне няроўнасці сярод сацыяльных груп насельніцтва і раздзяленне яго на саслоўі.

Кіраўніком дзяржавы і галоўнай асобай ва ўсёй сістэме дзяржаўных органаў прызнаваўся вялікі князь, які называўся ў Статуце «господарем».

Вялікаму князю як галаве дзяржавы належалі шырокія правы ў галінах унутранага кіравання і знешніх зносін. Ён меў права весці міжнародныя зносіны, пасылаць і прымаць паслоў, заключаць міжнародныя дагаворы, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір, лічыўся кіраўніком усіх вышэйшых выканаўча-гаспадарчых органаў, змяшчаў і прызначаў вышэйшых службовых асоб. Яму належала права распараджэння ўзброенымі войскамі дзяржавы, дзяржаўнай маёмасцю, даходамі і казной, даравання маёмасці, чыноў і званняў. Ён меў права заканадаўчай ініцыятывы, і за яго подпісам выдаваліся ўсе найважнейшыя дзяржаўна-прававыя акты. Вялікі князь мог ажыццяўляць вышэйшы суд у дзяржаве, а таксама міласаваць асуджаных. Але ажыццяўляў ён гэтыя паўнамоцтвы не аднаасобна, а, як правіла, з удзелам рады, сойма і службовых асоб вярхоўнага кіравання.

Аналіз прававога становішча вялікага князя Літоўскага, паводле Статута 1566 г., дазваляе зрабіць вывад, што яно было тыповым для становішча абмежаванага феадальнага манарха. Аднак меліся і сур'ёзныя адрозненні: у выбарнасці і большай абмежаванасці правоў у галінах заканадаўства і суда. Яго прававое становішча ўтрымлівала ў сабе і некаторыя элементы прававога становішча прэзідэнта ў рэспубліцы, правы вялікага князя засноўваліся на выбарным пачатку, на прававых нормах Статута, агульназемскіх прывілеях.

Абмежаванасць улады гасудара замацоўвалася ў Статуце па-рознаму: у адных выпадках гэта было выкладзена ў форме клятвы і абяцання захоўваць пэўныя правы (раздз. 1, арт. 2; раздз. 3, арт. 1—4, 10, 11), а ў другіх — у форме непасрэднай забароны. Так, гасудару забаранялася без дазволу сойма пачынаць вайну ці вызначаць падаткі на ваенныя патрэбы (раздз. 2, арт. 1, 2), выдаваць законы, якія б супярэчылі Статуту (раздз. 3, арт. 12), пазбаўляць пасад і званняў (раздз. 3, арт. 11). Існаваў і шэраг іншых забаронаў.

У абмежаванні ўлады гасудара першачарговае значэнне мела рада. У яе склад уваходзілі каталіцкія епіскапы, ваяводы, кашталяны, некаторыя старасты, самыя важныя службовыя асобы цэнтральнага ўпраўлення і некаторыя буйныя феадалы па асабістых запрашэннях.

Рада была пастаянна дзеючым выканаўча-распарадчым, заканадаўчым, кантралюючым і судовым органам. Свае ўладныя паўнамоцтвы яна ажыццяўляла сумесна з вялікім князем, а пры адсутнасці князя — і без яго (а гэта здаралася даволі часта, калі гасудар выязджаў у Польшчу). Бягучыя штодзённыя справы ў радзе выконвалі, як правіла, старэйшыя паны рады, да якіх адносіліся віленскі каталіцкі епіскап, віленскія ваявода і кашталян, трокскія ваявода і кашталян, а таксама службовыя асобы цэнтральнага ўпраўлення — маршалак земскі, гетман найвышэйшы, канцлер, падскарбій. Пры вырашэнні найбольш важных пытанняў рада збіралася ў поўным складзе ці нават скліkaліся соймы. Уладныя паўнамоцтвы рады кантраляваліся вялікім князем і соймам. Усё гэта прымушала яе дзейнічаць з пэўнай аглядкай і даволі часта склікаць агульнадзяржаўныя соймы, каб заручыцца падтрымкай усяго саслоўя шляхты.

Прававое становішча рады было замацавана ў агульназемскіх прывілеях 1447, 1492 і 1506 гг. У Статуце 1566 г. пра паноў раду ўпамінаецца толькі ў некаторых артыкулах (раздз. 1, арт. 27; раздз. 2, арт. 11; раздз. 4, арт. 38).

Значнае месца ў Статуце надавалася прававому замацаванню парадка фарміравання і дзейнасці сойма Вялікага княства Літоўскага. Сойм як саслоўна-прадстаўнічы орган саслоўя шляхты узнік у выніку працяглага гістарычнага працэсу, які ідзе сваімі каранямі ў перыяд вечавых народных сходаў часоў Полацкага, Тураўскага і іншых беларускіх княстваў.

Працэс пераўтварэння шырокіх сходаў ваенна-служылых людзей у прадстаўнічы орган саслоўя шляхты адбываўся паступова, па меры юрыдычнага афармлення правоў і прывілеяў шляхты. Да часу выдання Статута ў склад сойма ўваходзілі ўсе паны радныя, вярхушка каталіцкага і праваслаўнага духавенства, павятовыя старасты, харужыя, буйныя радавітыя феадалы (па персанальных запрашэннях) і па два дэпутаты ад шляхты кожнага павета (раздз. 3, арт. 6). Дэпутаты ад павятовай шляхты атрымлівалі наказы-інструкцыі, якімі яны павінны былі кіравацца на сойме.

Кампетэнцыя сойма не была дакладна вызначанай. На ім маглі вырашацца любыя пытанні, што выносіліся на яго абмеркаванне гасударом або радай. Але меліся і справы, якія адносіліся да выключнай кампетэнцыі сойма. Гэта — выбранне вялікага князя, абвяшчэнне мабілізацыі ваенных сіл (паспалітае рушэнне), збор сродкаў на вядзенне вайны, заключэнне ваенных саюзаў, устанаўленне новых падаткаў, прыняцце найбольш важных заканадаўчых актаў, ажыццяўленне правасуддзя адносна некаторых дзяржаўных злачынстваў. Уся праца сойма папярэдне рыхтавалася панамі. Яны прызначалі час і месца склікання сойма, рыхтавалі праекты соймавых ухвал. Прадстаўнікі ад паветаў маглі на сойме падаваць просьбы і скаргі шляхты сваіх паветаў, адказы на якія даваў гасудар, параіўшыся толькі з панамі радай.

Аналіз норм Статута, што вызначалі структуру, кампетэнцыю і характар дзейнасці цэнтральных устаноў і самых важных службовых асоб, дазваляе зрабіць вывад, што ў ім былі дастаткова поўна і тэарэтычна добра распрацаваны нормы дзяржаўнага права, якія мелі прагрэсіўнае значэнне для свайго часу. У іх ужо выразна абазначалася зараджэнне органаў галіновага ўпраўлення ў асобе маршалка земскага, гетмана, канцлера, падскарбія і іншых.

Структура і кампетэнцыя мясцовых органаў дзяржаўнага ўпраўлення ні ў Статуце, ні ў іншых прававых актах не атрымалі разгорнутага асвятлення і замацавання, таму што сістэма мясцовых органаў, якая склалася ў глыбокай старажытнасці, істотна не змянілася. Большасць дробных княстваў, што ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, захаваліся як адміністрацыйна-тэрытарыяль-

ныя адзінкі (ваяводствы, паветы, воласці) са сваімі органамі кіравання.

Вышэйшай службовай асобай у сістэме мясцовых органаў кіравання быў ваявода, які ўзначальваў адміністрацыйныя, гаспадарчыя, вайсковыя і, у значнай меры, судовыя органы на тэрыторыі ваяводства. Яму былі падначалены службовыя асобы: кашталян — адказны за ваенныя справы; падваявода — адказны за адміністрацыйныя справы; ключнік і скарбнік — адказныя за гаспадарчыя справы, канюшы, лоўчы і іншыя. Сваю дзяржаўна-адміністрацыйную дзейнасць ваяводы вялі разам з мясцовымі соймікамі і радамі, у якія ўваходзілі духавенства, князі і паны ваяводства.

Прызначаўся ваявода вялікім князем і радаю з ліку багатых і знатных паноў, ураджэнцаў Вялікага княства Літоўскага. Пры назначэнні ваяводы ў Полацкае або Віцебскае ваяводствы папярэдне патрабавалася атрымаць згоду мясцовай шляхты, каб прыняць дадзенага кандыдата на пасаду ваяводы. Апрача таго, і пасля назначэння ваяводы ў гэтыя ваяводствы мясцовая шляхта мела права змяніць ваяводу. «Также нам господару давати воеводу нашого Полочаном по их воли; а который будет воевода наш нелюб им, ино нам им воеводу иншого дати по их воли». Ваяводы павінны былі ў сваіх ваяводствах праводзіць у жыцце пастановы і распараджэнні цэнтральных устаноў і клапаціцца аб забеспячэнні інтарэсаў мясцовага насельніцтва. Адначасова ваявода быў членам рады і як член цэнтральнага ўрада меў магчымасць спалучаць мясцовыя інтарэсы з агульнадзяржаўнымі.

Кіраўніком адміністрацыі ў павеце быў староста. Назначаўся ён, як і ваявода, гаспадаром і радай з ліку буйных феадалаў. Уладныя паўнамоцтвы старасты на тэрыторыі свайго павета былі падобныя да паўнамоцтваў ваяводы. Службовае становішча старасты залежала таксама ад таго, якія яшчэ пасады ён займаў, ад яго сваяцкіх сувязяў і паходжання. У сваёй дзейнасці па мясцоваму кіраванню староста карыстаўся шырокімі паўнамоцтвамі, не залежнымі ад улады ваяводы, бо яго паўнамоцтвы засноўваліся на старых традыцыях і звычаях улады мясцовых князёў. У павеце захоўваліся таксама старажытныя пасады ключніка, канюшага, гараднічага, ляснічага, цівуна, харужага і іншых службовых асоб. Намеснікам старасты па адміністрацыйных і судовых справах быў падстароста, а па грамадскіх і ваенных справах быў павятовы маршалак, які разам з харужым збіраў павятовую шляхту ў час збораў паспалітага рушэння (апалчэння) і вёў яе да месца збора. Ён жа, як правіла, старшынстваваў на пасяджэннях павятовага сойміка.

Статутам 1566 г. вялікая ўвага адводзілася мясцовым і павятовым соймікам. На павятовых сойміках выбіраліся дэпутаты на агульны (вальны) сойм, выпрацоўваліся інструкцыі для іх, заяўляліся просьбы і хадайніцтвы да ўрада, заслухоўваліся справаздачы і інфармацыя аб агульных соймах, выбіраліся кандыдатуры на судовыя і іншыя пасады, вызначаліся памеры падаткаў і збораў на мясцовыя патрэбы. Праз павятовыя соймікі шляхта адстойвала свае мясцовыя інтарэсы перад цэнтральнымі дзяржаўнымі ўстановамі, непасрэдна ўдзельнічала ў палітычным жыцці дзяржавы.

Ніжэйшым органам у сістэме мясцовага дзяржаўнага кіравання былі дзяржаўцы, якім даваліся ў часовае кіраванне і ўладанне двары, замкі і фальваркі (дзяржаўныя маёнткі). Дзяржаўцы наглядалі за гаспадаркай у маёнтках, атрымлівалі частку або ўсе даходы з маёнтка і адначасова выконвалі функцыі органа дзяржаўнай улады. Для нагляду за сялянамі старасты і дзяржаўцы прызначалі ў воласці і сёлы сельскіх войтаў, сотнікаў, сарочнікаў, дзесяцкіх, якія павінны былі сачыць за падтрыманнем парадку ў сёлах і выкананнем феадальных павіннасцей сялянамі. У тых мясцовасцях, дзе жылі дзяржаўныя сяляне-даннікі і не было замкаў або дзяржаўных маёнткаў — двароў, існавалі старажытныя органы сялянскага самакіравання: сялянскія сходы і выбіраемыя на іх старцы. На сялянскіх сходах вызначалі парадак збору даніны, выканання грамадскіх работ па пабудове і падтрыманні ў парадку мастоў, дарог і інш. Старцы збіралі і адвозілі даніну ў вызначанае ўладамі месца, удзельнічалі ў ажыццяўленні правасуддзя ў копных судах.

Кіраванне ў гарадах рэгламентавалася не Статутам, а спецыяльнымі граматамі, якія вылучалі мяшчан з-пад улады агульнай тэрытарыяльнай адміністрацыі і падпарадкоўвалі іх органам гарадскога кіравання — войту і радзе. Войт надзяляўся такой жа ўладай адносна мяшчан, якую меў староста ў сваім павеце. Паўнамоцтвы войта і рады, а таксама правы і абавязкі мяшчан у розных гарадах не былі аднолькавымі і залежалі ад памеру іх горада, яго абарончага і гаспадарчага прызначэння.

Ваеннае права Беларусі ў XVI ст. грунтавалася на старажытных звычаях абароны сваёй зямлі і на новых нормах пісанага права, што было цесна звязана са з'яўленнем агнястрэльнай зброі, якая выклікала пераварот у ваеннай арганізацыі грамадства, змену тактычных прыёмаў бою, патрабавала прафесійнай падрыхтоўкі пушкароў і ружэйных стралкоў. У сувязі з гэтым з'явіліся наёмныя атрады — гэта ўжо былі зачаткі рэгулярных армій. Нормы ваеннага права, выкла-

дзеныя ў Статуце, дапаўняліся спецыяльнымі пастановамі соймаў у артыкулах вайсковых, дзе больш падрабязна выкладаліся абавязкі гетмана, харужых і іншых вайсковых асоб, рэгламентавалася крымінальная адказнасць за злачынствы ў арміі і іншыя пытанні.

Паводле старадаўняга звычаю, які знашоў адлюстраванне ў грамаце Ягайлы 1387 г., на абарону сваёй зямлі і праследаванне ворагаў, якое «па народнаму называецца погоняй, павінны выпраўляцца не толькі рыцары, а і кожны мужчына, якога б ні быў паходжання ці стану, толькі б ён быў здольны насіць зброю»*. Гэтае правіла амаль без змен захавалася і ў Статуце 1566 г., у якім гаварылася, што абараняць сваю зямлю павінны не толькі ўладальнікі маёнткаў, але і іншыя асобы. Так, у ім было запісана: **«Хочемъ тежъ мѣти и уставуемъ, абы подданые нашы вси мѣщане ку валной потребѣ зъ иншыми людьми нашими войну служили, або зъ дозволеньемъ нашимъ водлѣ постановеня нашого на войну выправовали»** (раздз. 2, арт. 1). Аб ваеннай павіннасці простых людзей гаварылася, акрамя Статута, ў соймавых пастановах 1507, 1511, 1514 і іншых гадоў, а таксама ў Віцебскай і Полацкай граматах. Соймавыя пастановы і Статут вызначалі патрабаванні да экіпіроўкі ратнікаў, іх узбраення.

Статут 1566 г. намеціў першыя крокі па адасабленню судоў ад адміністрацыі і ўтварэнню трэцяй улады ў дзяржаве — судовай, не залежнай ад выканаўчай. Згодна з артыкулам 1 раздзела 4 Статута, у кожным павеце шляхта выбірала па чатыры кандыдаты на пасаду суддзі, падсудка і пісара, а затым вялікі князь з гэтых дванаццаці кандыдатаў прызначаў суддзю, падсудка і пісара павятовага земскага суда.

Другім судом, аддзеленым ад дзяржаўнай адміністрацыі, быў спецыяльны межавы падкаморскі суд. Разгляд спраў у гэтым судзе праводзіўся адным падкаморыем, які, па Статуту 1566 г., прызначаўся вялікім князем. Дапамагаў суддзі пры ўстанаўленні межаў землеўладанняў каморнік, які прызначаўся падкаморыем з мясцовай шляхты.

Шлюбна-сямейнаму праву Статут надаваў грамадзянскі характар, вызваляючы яго ад царкоўна-рэлігійных манаполій. Галоўная ўвага ў нормах сямейнага права надавалася маёмасным адносінам у сям'і, што для таго часу было значным дасягненнем і сведчыла аб паступовым набліжэнні да буржуазнага сямейнага права. Яшчэ

* Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 102.

больш яскрава пераход да буржуазнага права выявіўся ў нормах, што адносіліся да права прыватнай уласнасці на зямельныя маёнткі.

Па старому звычаёваму праву і па Статуце 1529 г. уладальнік бацькоўскага маёнтка меў права свабодна распараджацца толькі трэцяй яго часткай, а дзве часткі можна было перадаць у заставу (заклад) з тым, каб іншыя родзічы маглі яго выкупіць. Статут 1566 г. устанавіў новае правіла, згодна з якім «**вси отъ сего часу и дня волно и моцно кождому имѣнья свои отчызные и земскіе материстые и выслужоные купленые и якимъ кольвекъ обычаемъ набытые и названые, не смотречы третее и двохъ частей, яко передъ тымъ бывало въ статутѣ обычаемъ стародавнымъ, але все съ домомъ, хто ихъ што маеть, будь тежъ половицу або и которую ихъ часть... отдати продати даровати и записати заставити, отъ дѣтей и близкихъ отдалити**» (раздз. 7, арт. 1). Гэты закон паклаў пачатак новаму этапу ў развіцці права прыватнай уласнасці на зямлю, што знаменавала сабой пераход ад права феадальнай да буржуазнай уласнасці на зямельныя маёнткі.

Статут 1566 г. значную ўвагу ўдзяліў спадчыннаму праву, нормы якога рэгулявалі парадак пераходу маёмасці нябожчыка да іншых асоб. Характэрна, што спадчынныя адносіны рэгуляваліся Статутам і адносна простых людзей, але яны мелі права завяшчаць толькі «**речы свое рухомые и описати третюю часть маетности своее всее кому хочеть**» (раздз. 8, арт. 5). Паводле закона, спадчыннікамі першай чаргі прызнаваліся дзеці спадчынадаўцаў і іхнія нашчадкі. Спадчыннікамі другой чаргі прызнаваліся браты і сёстры спадчынадаўцаў. Пры наяўнасці сыноў дочкі не атрымлівалі ў спадчыну нерухомых маёнткаў бацькі, а атрымлівалі толькі адну чацвертую частку кошту маёмасці, назалежна ад колькасці сыноў і дачок. Мацярынскі маёнтак яны наследвалі ўсе ў роўных долях (раздз. 5, арт. 13).

Пры адсутнасці законных нашчадкаў і тэстаменту (завяшчання) на карысць іншых асоб маёмасць прызнавалася вымарачнай і паступала ў казну. Не магла набываць маёмасць па завяшчанню чэлядзь нявольная да таго часу, пакуль не атрымае вольнасці.

Спадчыннае права Статута было накіравана на ўмацаванне прыватнай уласнасці і захаванне абавязкаў землеўладальнікаў адбываць вайсковую службу з сваіх маёнткаў. Тым самым спалучалася права прыватнай (буржуазнай) уласнасці з феадальнымі абавязкамі.

Крымінальнае права выкладзена ў Статуце 1566 г. у раздзелах 1, 2, 4, 10, 12—14. Суб'ектам злачынства прызнаваўся толькі чалавек. За шкоду, зробленую жывёлай, адказваў яе гаспадар. Псіхічна хворыя асобы, як правіла, не падлягалі крымінальнаму пакаранню. Новым у тагачасным праве быў артыкул 8 (раздз. 14), дзе прадугледжвалася, што крымінальнае пакаранне можа прымяняцца да падлеткаў, якім споўнілася не меньш як 14 гадоў. Статут адрозніваў злачынствы, зробленыя наўмысна, ад неасцярожных. Калі ў дзеяннях асобы не ўгледжваліся наўмыснае злачынства ці неасцярожнасць, то не прымянялася і крымінальнае пакаранне.

Пытанне аб пакаранні вінаватых асоб вырашалася па-рознаму ў залежнасці ад саслоўнай прыналежнасці як пацярпеўшага, так і злачынцы. Калі просты мешчанін або селянін пабіў шляхціца, то караўся адсячэннем рукі. Калі ж шляхціц пабіў простага чалавека, то павінен быў толькі выплаціць вызначаную ў Статуце суму грошай. За забойства шляхціца, калі яго забілі некалькі шляхціцаў, караўся смерцю толькі адзін шляхціц, астатнія караліся турэмным зняволеннем і выплатай грашовай кампенсацыі. Калі ж некалькі простых людзей забілі шляхціца, то караліся ўсе вінаватыя, але не больш сямі асоб (раздз. 11, арт. 12).

У Статуце 1566 г. была зроблена першая спроба сфармуляваць прэзумпцыю невінаватасці. Але гэтае правіла не павінна было адносіцца да простых людзей. Пазней ў Статуце 1588 г. мелася спецыяльная агаворка аб тым, што гэта правіла адносіцца і да іх.

У тэорыі права і судовай практыцы XV—XVI стст. панавала думка, што лепшым сродкам для папярэджвання злачынстваў з'яўляюцца пагроза і публічнае прымяненне жорсткіх пакаранняў з мэтай застрашыць усіх магчымых злачынцаў. Гэта тэорыя знайшла сваё ўвасабленне ў многіх артыкулах Статута. Запалохванню павінны былі служыць і непамерна вялікія маёмасныя кары і штрафы — на карысць як пацярпеўшага, так і суддзяў.

Асноўнымі відамі пакарання былі: пакаранне смерцю; маёмасныя спагнанні і штрафы; цялесная кара; турэмнае зняволенне; выгнанне і аб'яўленне па-за законам; пазбаўленне гонару; пакаянне; пазбаўленне пасады. Пакаранне смерцю магло быць простым і кваліфікаваным. Простым пакараннем смерцю лічылася павешанне (горлам пакараць). Кваліфікаваным пакараннем смерцю было чацвертаванне, спальванне на вогнішчы, утапленне, пасаджэнне на палю. Характэрна, што ў Беларусі ў XVI ст. пакаранне праз паве-

шанне, па звычаёваму праву, павінен быў здейсніць сам асуджаны ў прысутнасці суддзяў.

Маёмасныя спагнанні і штрафы маглі ўжывацца ў якасці як асноўнага, так і дадатковага віда пакарання і паступалі як на карысць пацярпеўшага ці яго блізкіх, так і на карысць дзяржавы і суддзяў. Велічыня плацяжоў залежала ад віда злачынства і саслоўнай прыналежнасці бакоў. Так, галоўшчына за забітага шляхціца спаганялася ў памеры 100 коп грошаў, за панцырнага слугу — 50, за бортніка — 25, за цяглага селяніна — 20, а за парабка — 10 коп грошаў (раздз. 12, арт. 1). Да простых людзей шырока прымяняліся цялесныя пакаранні: калецтва і біццё дубцамі і пугамі. Калецтва магло быць у выглядзе адразання вушэй, носа, вуснаў, рук. Турэмнае зняволенне было двух відаў: лёгкае — у верхняй частцы замка і цяжкае — у падзямеллі.

Шляхціц за цяжкія злачынствы мог быць пакараны пазбаўленнем гонару, што вяло да канфіскацыі маёнтка. Калі шляхціц хаваўся ад суда, то ён асуджаўся на выгнанне з дзяржавы і аб'яўляўся па-за законам. У такім выпадку ўсім людзям пад страхам цяжкай кары забаранялася хаваць выгнанніка ці нават мець з ім зносіны.

Крымінальнае права Статута было даволі памяркоўным для свайго часу, але і ў ім адлюстраваліся новыя ідэі. Так, вольны чалавек ні за якое злачынства не павінен быў выдавацца ў няволю. Не прымянялася крымінальнае пакаранне да падлеткаў, не дасягнуўшых 14 гадоў; параўнаўча невялікімі былі тэрміны турэмнага зняволення. Устанаўлівалася больш высокая адказнасць за злачынствы супраць жанчын.

У Статуце 1566 г. значная ўвага надавалася працэсуальнаму праву. Стварэнне выбарных, не залежных ад адміністрацыі судоў прывяло да радыкальных змен у прававаой тэорыі і поглядах грамадства на суд і працэсуальнае права. Пераўтварэнне суда з карацельнай установы ў орган аховы не толькі дзяржаўных, але і прыватных інтарэсаў, які павінен быў прадухіліць і парушэнне закона дзяржаўнымі ўстановамі, сведчыла аб першых кроках па ўтварэнню незалежнай судовай улады. У сувязі з гэтым сцвярджаліся прынцыпы галоснасці, спаборнасці старон, удзелу адвакатаў, зарадзілася свабодная ацэнка доказаў пры захаванні фармалізму ў працэсе.

Працэсуальнае права, паводле Статута, было адзіным для грамадзянскіх і крымінальных спраў. Судаводства пачыналася па заяве зацікаўленага боку — пацярпеўшага ці яго сваякоў. Увесь пра-

цэс меў іскавы характар. Ісцец сам павінен быў збіраць доказы, прад'яўляць іх суду і падтрымліваць абвінавачванне. У любой стадыі працэса ісцец мог адмовіцца ад іска ці абвінавачвання, заключыць міравое пагадненне. Бакі мелі права карыстацца паслугамі прафесійных юрыстаў — адвакатаў (пракуратараў). Статут вызначаў шэраг патрабаванняў, якім павінны былі адпавядаць адвакаты: імі маглі быць толькі шляхціцы, якія добра ведалі мясцовае права. Па маёмасныхісках адвакатамі маглі быць толькі ўраджэнцы Вялікага княства Літоўскага, а па крымінальных справах «**кому идетъ о горло о честь**» адвакатам мог быць і чужаземец (раздз. 4, арт. 34).

У працэсуальным заканадаўстве першаснае значэнне надавалася доказам, з дапамогай якіх суд мог рабіць выснову аб правах і абавязках бакоў і прымаць пэўнае рашэнне. Тэорыя фармальных доказаў, што панавала на той час, грунтавалася на вызначанай у законе сіле і колькасці неабходных доказаў. Усе доказы падзяляліся на дасканалыя і недасканалыя. У Статуце даваўся пералік доказаў і ўказвалася іх сіла. Найбольш распаўсюджанымі былі: тлумачэнні і прызнанні бакоў, паказанні сведак, пісьмовыя доказы, рэчавыя доказы, прысяга. Для атрымання прызнання падсуднага па крымінальнай справе да простага чалавека магло ўжывацца катаванне. Зачаткі новай тэорыі доказаў, якія грунтаваліся на лагічным метадзе іх ацэнкі пры захаванні фармальных доказаў, вызначылі кірунак развіцця свабоднай ацэнкі доказаў, што стала дамінуючай тэндэнцыяй толькі ў другой палове XIX ст.

Статут 1566 г. абагульніў і замацаваў старыя, а таксама распрацаваў новыя нормы права, што былі накіраваны на ахову прыроды, падтрыманне і павелічэнне яе рэсурсаў, рацыянальнае іх выкарыстанне. Прыродаахоўныя нормы Статута адыгралі вялікую ролю ў захаванні навакольнага асяроддзя, жывельнага і расліннага свету. Дзікія каштоўныя жывёлы і птушкі, лясы, пушчы, рэкі і азёры знаходзіліся пад аховай закона. За парушэнне прыродаахоўных законаў вінаватыя прыцягваліся да адказнасці. Напрыклад, за парубанне сакалінага гнязда спаганялася 6 рублёў, а за гняздо лебедзя — 3 рублі, за парушэнне бабровых гонаў — 12 рублёў (для параўнання: рабочы конь каштаваў менш чым адзін рубель).

Развіццё гаспадарчага жыцця і ўмацаванне прыватнай уласнасці на маёмасць выклікалі неабходнасць даць судам узоры найбольш распаўсюджаных прававых актаў пры выкананні судамі натарыяльных дзеянняў. Так, да Статута былі прыкладзены: «**Даровизна речей**

рухомыхъ отъ мужа жонѣ правомъ доживотнымъ», «Способъ запису и замѣны добръ», «Мужъ жонѣ, жона мужови може сполне доживотье учинить тым способомъ», «Записъ от мужа жонѣ на суму», «Отъ тогожъ той же на доживотье», «Запись на вѣчистую продажу», «Даровизна вѣчистая сумъ записаныхъ и речей рухомыхъ от мати детемъ». Гэтыя ўзоры дакументаў, па сутнасці, былі першымі прававымі актамі, якімі быў пакладзены пачатак прававога ўрэгулявання натарыяльнай дзейнасці, і, разам з тым, падручнікамі-інструкцыямі, якія вучылі правільнай рабоце, што ўскладалася на судовыя ўстановы. Імі і быў завершаны тэкст Статута 1566 г.

На Варшаўскім сойме 1578 г. у Статут былі ўнесены некаторыя змяненні і дапаўненні. Характэрнай рысай гэтых паправак Статута было тое, што яны адносіліся да працэсуальнага права і не ўносілі змен у асноўныя палажэнні дзяржаўнага права, якімі замацоўваліся суверэнныя правы Вялікага княства Літоўскага. «Поправами статутовыми» прадугледжвалася дапаўненне артыкула 9 раздзела 3 аб тым, што маёнткі і пасады ў Вялікім княстве Літоўскім будуць давацца не толькі «Литве а Руси», але і «Жмудзи родичамъ старажытнымъ». Надзяляць жа іншаземцаў за паслугі Вялікаму княству Літоўскаму маёнткамі вялікі князь павінен быў толькі на соймах «за радаю и позволеньемъ всехъ радъ нашыхъ пановъ, и тежъ за пазволеньемъ всехъ become становъ земскихъ сойму Литовскому валному належачыхъ». Але ў гэтым артыкуле яшчэ пацвярджалася, што іншаземцы «до жадныхъ достоинствъ и врядовъ духовныхъ и свецкихъ не маюць прыходити». Тым самым «паправы» гэтага артыкула, хаця і былі зацверджаны пасля Люблінскай уніі 1569 г., не ўнеслі карэнных змен у адносіны да суседзяў і, у першую чаргу, ураджэнцаў Польшчы.

«Поправы статутовыя» 1578 г. удакладнялі асобныя палажэнні Статута і сведчылі аб імкненні кіруючых колаў Вялікага княства Літоўскага яго ўдасканаліць.

Статут 1566 г., як і першы Статут 1529 г., быў адзіным на той час у Еўропе зводам законаў, заснаваным на мясцовым пісаным і звычаёвым праве. Заслугай творцаў Статута 1566 г., і ў першую чаргу Мікалая Янавіча Радзівіла Чорнага і Астафія Багдановіча Валовіча, было тое, што ў Статут 1566 г. былі ўключаны нормы, якія адлюстроўвалі прагрэсіўныя ідэі Рэфармацыі і гуманізму, і ён быў скіраваны «...кождому засобна нинешнимъ и на потомъ будучимъ».

Праз увесь Статут праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Ідэя прававога парадку была накіравана найперш супраць дэспатызму гасудара, буйных феадалаў і сярэдневяковай тэакратычнай тэорыі паходжання і сутнасці дзяржавы. Адлюстравалася яна ў шматлікіх артыкулах Статута, а таксама была выкладзена ў працах С. Буднага, які адстойваў свабоду думкі, лічыў, што кароль павінен імкнуцца не да асабістай выгады, а да дабра для ўсёй дзяржавы і дабрабыту ўсіх грамадзян, наглядаць за тым, каб марныя трутні не паядалі плёну працы людзей, а бедныя людзі і сіроты не гінулі ад холаду і голаду.

Сістэматызацыя права, на аснове якой ствараўся Статут 1566 г., рабілася па новых прынцыпах, уласцівых для пераходнай эпохі ад сярэдневякоўя да новага часу і зараджэння буржуазных адносін: абмежаванне ўлады гасудара; намячалася раздзяленне ўлад, з-за чаго заканадаўчая ўлада замацоўвалася за соймам, выканаўчая — за вялікім князем і радай, судовая — за вялікакняжацкім і мясцовымі судамі; абвяшчэнне неабходнасці прытрымлівацца дзяржаўнага суверэнітэту, насуперак сярэдневяковаму царкоўнаму касмапалітызму, адзінства права для ўсёй дзяржавы і ўсіх паўнапраўных людзей.

Прызнанне розных ільгот і прывілеяў для пануючых саслоўяў і асобных груп феадалаў падрывала агульны прынцып адзінства права. Гэтыя прывілеі — не выключэнне, яны былі састаўной часткай усяго феадальнага права, хоць і супярэчылі новым прынцыпам, у чым і заключалася ўнутраная супярэчлівасць феадальнай сістэмы права.

Абвяшчэнне ідэі верхавенства права ў перыяд феадалізму сведчыла аб зараджэнні новай дзяржаўна-прававой тэорыі, якая найбольш поўна праявілася ў нормах дзяржаўнага права.

Рэфармаванне прававой сістэмы Вялікага княства Літоўскага пачалося з выдання Андрэем Казімірам Ягайлавічам прывілея 1447 г., першага канстытуцыйнага акта, і Судзебніка 1468 г., першага крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага кодэкса для ўсёй дзяржавы, а завяршылася выданнем самага дасканалага ў Еўропе зводу законаў — Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Нават праз дзвесце гадоў Статут 1588 г. лічыўся самым дасканалым зводам законаў у Еўропе. Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст, выступаючы на сойме Рэчы Паспалітай у 1776 г., гаварыў, што ў Вя-

лікім княстве Літоўскім людзі шчасліва і з выгодай карыстаюцца Статутам 1588 г., а таму ён жадае, каб і ў Кароне (Польшчы) зрабілі сабе падобны Статут і дайшлі да такога шчасця, каторым ганарацца ў Вялікім княстве Літоўскім*. Але вядома, што аснову Статута 1588 г. складаў Статут 1566 г., з якога без значных змен былі запазычаны сістэма Статута, асноўныя палажэнні канстытуцыйнага права, якімі замацоўваліся суверэнітэт і адасобленасць Вялікага княства Літоўскага, а таксама нормы цывільнага, крымінальнага, судова-працэсуальнага і іншых галін права, і што асабліва важна — захоўвалася беларуская мова як мова дзяржаўнага і судовага справаводства.

***Я.А. Юхо***

---

* Bardach J. O dawnej a niedawnej Litwie. Poznań, 1988. S. 67.

### АРТЫКУЛЪ 21.

*Хтобы на чіе имѣнье на село и на люди наслалъ, або самъ наѣхавши кгвалтомъ побилъ, поранилъ.*

Уставуемъ, хто бы на чіе имѣнье на село на люди самъ кгвалтомъ наѣхалъ, або наславъ побилъ и поранилъ; таковый сторонѣ ображеной, на чомъ слушный доводъ учинитъ, маетъ кгвалтъ и раны платити, а грабежъ зъ навезкою ворочати маеть, и всю шкоду добре оправити. А хотя бы не ранилъ ани билъ, только наѣхалъ а грабилъ; потомужъ кгвалтъ маеть заплатити, и грабежъ зъ навезкою поворочати.

### АРТЫКУЛЪ. 22.

*За кгвалтъ посполитый сусѣдскій.*

Уставуемъ за кождый кгвалтъ посполитый сусѣдскій, врядовне переведеный, маеть быти сказанъ сторонѣ обжалованой дванадцать рублей грошей.

### АРТЫКУЛЪ 23.

*Если бы шляхтичъ шляхтича розбилъ на дорозѣ.*

Уставуемъ, если бы шляхтичъ шляхтича розбилъ на дорозѣ, а оный розбитый у парсуну его позналъ, и передъ врядомъ того жъ часу раны свои оказавши того у парсуну меновалъ; а потомъ притягнувши ку праву, подле оказанья ранъ своихъ близшій будетъ самъ изъ шестма шляхтичами на него присегнути, а кгды присягнетъ, тотъ горломъ каранъ быти маетъ яко розбойникъ. А естли бы сторона поводовая и зъ шестма свѣдки поприсегнути не хотѣла; тогды тотъ обжалованый также самъ и зъ шестма шляхтичы маечь отприсегнутися, а не будетъ ли мѣти съ кимъ отприсегнутися, ино поводовая сторода самотретъ на ранахъ и шкодахъ маетъ его поприсегнути. А будетъ ли на дорозѣ звада стала, а лупу никоторого не было, а сторона жалобливая вину дала розбойную; тогды только раны за доводомъ будетъ повиненъ платити, а горла для розбою менованого не тратитъ,

Старонка Статута Вялікага княства Літоўскага
Выданне Імператарскага маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх
(М., 1855)

# ПРЕДИСЛОВIЕ.

Согласно опредѣленiю Общества Исторiи и Древностей Россiйскихъ объ изданiи Литовскаго Статута, Редакцiя Временника въ настощей книгѣ напечатала Литовскiй Статут 1566 года, и поправы Статутовы 1578 года. Статутъ 1566 года а ровно и поправы статутовы еще никогда не были напечатаны и нынѣ издаются въ первый разъ. При изданiи Статута редакцiя пользовалась какъ оригиналомъ спискомъ съ рукописи, хранщейся въ Румянцовскомъ Музеумѣ, и по каталогу составленному Г.Востоковымъ числящейся подъ № CCCCXII. Г.Востоковъ объ этой рукописи пишетъ: «Статутъ Литовскiй-второй, или такъ называемый Волынскiй 1566 года, съ предшествовавшими оному привилегiями 1563, 64 и 65 годовъ въ л. 141 л. скорописью Польско-Русскаго почерка XVIв. писанъ Василiемъ Усовичемъ, градскимъ писаремъ и присяжнымъ Синдикомъ Кiевским, какъ показано въ разныхъ мѣстахъ рукописи. Сей списокъ Статута Волынскаго, по нѣкоторымъ примѣтам, долженъ быть тотъ самый, который принадлежалъ библiотекѣ Залускихъ и описанъ Яноцкимъ въ его Specimen Cat. Cod. mss. Biblioth. Zaluscianae 1752 р. 68 № 213.» Списокъ съ сей рукописи для Общества списанъ со всею акуратностiю чиновнiкомъ Археографической коммисiи Г.Тимоѳеевымъ, хорошо знакомымъ съ стариннымъ Западно-Рускимъ нарѣчiемъ, и занимавшимся нѣсколько лѣть при изданiи актовъ Западной Россiи подъ руководствомъ покойнаго редактора Протоiерея I.I. Григоровича. При изданiи Статута 1566 года редакцiя Временника въ мѣестахъ темныхъ и невразумительныхъ пользовалось, гдѣ можно, какъ варiантами и пособiями статутомъ 1529 и статутомъ 1588 годовъ. Для печатанiя поправъ Статутовыхъ и артыкуловъ справъ судовыхъ въ редакцiю Временника доставлена была Д.Ч. Общества Княземъ Михаиломъ Андреевичемъ Оболенскимъ полууставная рукопись писанная въ 1643 году. Поправы сiи въ рукописи приложены къ Литовскому Статуту 1588 года. Редакцiя Временника при настощемъ изданiи вполнѣ слѣдовала правописанiю рукописей.

*Секретарь Общества И.Бѣляевъ.*

# СТАТУТЪ
## ВЕЛИКАГО КНЯЗСТВА ЛИТОВСКАГО

### ПОЧИНАЮТСЯ ПРИВИЛЕЯ ДО СТАТУ ВЫДАНЫЕ И СПРАВОВАНЫЕ, ГДѢ И ВЪ КОТОРОМЪ МѢСТѢ ПРЕЗЪ ДОЗВОЛЕНЬЕ КОРОЛЯ ЕГО МИЛОСТИ И ПАНОВЪ РАДЪ ИХЪ МИЛОСТИ ЗДѢШНЕГО ПАНСТВА ВЕЛИКАГО КНЯЗСТВА ЛИТОВСКОГО,

*Привилей Виленской* року 63.*

Во имя Божъе стан се ку вѣчной памети тое то речы, кгдыжъ вси справы съ часомъ съ паметей людскихъ сплываютъ и въ забытіе приходятъ, для того то есть вынайдено, абы писмомъ объяснены были ку вѣдомости потомъ будучымъ.

А про то мы Жыкгимонтъ Августъ, Божъю милостью Король Польскій Великій Князь Литовскій, Рускій, Прускій, Жомоитскій, Мазовецкій, Инъфлянтскій и иныхъ панствъ дѣдичъ, чынимъ знаменито симъ листомъ нашимъ нинѣшнимъ и на потомъ будучымъ, кому будетъ потреба того вѣдати. Ижъ кгды есьмо вызвали черезъ листы наши на сеймъ валный, въ столечномъ мѣстѣ нашомъ у Вилни зложоный, пановъ радъ нашихъ духовныхъ и свѣцкихъ, княжатъ и панятъ, врядниковъ помененыхъ, дозволили есьмо и дозволяемъ привилья правъ и волностей земскихъ въ статутъ новописаный вложыти и вписати, по томужъ обычаю якъ въ Коронѣ Польской прывилья и вольности шляхецкіе въ статутъ уписаны суть; за што вси станы, чынечы дяки съ чоломбитьемъ намъ Господарю пану своему прырожоному, донесли намъ въ томъ прозбу свою, ижъ въ тыхъ же привильяхъ земскихъ нѣкоторые артыкулы потребуютъ шыршого объясненья ку латвѣйшому вырозумѣнью. А въ томъ на первей, яко се стало обдарованье и наданье отъ прадѣда нашого, святое памети славное Якгела Короля Польского наивышшого Великаго Князства Литовского, въ которыхъ то естъ описано: за злу-

* Патрэбна чытаць «Виленский.»

ченьемъ панствъ подъ онымъ часомъ Коруны Польское зъ Великимъ Князствомъ Литовскимъ, за выданьемъ того жъ прывилья тамъ же въ Корунѣ Польской въ Городлѣ, ижъ панове шляхта бояре земль нашихъ Литовскихъ дарованьемъ прывильями и наданьемъ имъ данымъ узычонымъ и подаными только повшехное, то естъ соборное вѣры Христіянское къ Рымскому костелу поданыи, мають се тыхъ вольностей веселити и учасниками быти и ужывати, яко панове шляхта Коруны Польское свое вольности держать и ихъ ужывають. А другій артыкуль ижъ на достоенства и преложенства не мають быти обираны, едно если были бы повшехное вѣры Христіянское и подданые Рымскому костелу, а ни тежъ уряды которые земскіе, одно людемъ вѣры Хрестіянское и до радъ нашихъ не мають быти припущоны, а ни въ нихъ бывать, яко жъ послѣ того тотъ прывилей на вольности наданый утверженье дѣда нашого Казимера и стрія Александра и отца нашего Жыкгимонта першого, славное памети Королей Польскихъ и Великихъ Кня-Литовскихъ, и потомъ и наше потверженье тыми жъ словы уписанъ, О чомъ вси одностайнѣ били намъ чоломъ, абыхмо то въ потверженье слушное прыведшы нашимъ листомъ и привильемъ достаточнѣ объяснили. Мы съ паны радами нашими обачившы, ижъ передъ тымъ, нижъ тотъ привилей въ Городлѣ выданъ, станы а народы шляхецкіе знакомитыми Речы Посполитое и продкомъ нашимъ заслугуючыся значнѣ вывышоны и учтены были, яко то и въ иномъ томъ прывильи на пачатку его меновите описаны, таковые станы на тотъ соймъ до Городна пріѣхали. А къ тому ижъ тежъ бываючы, и не толко Рымского костела послушные, але и Греческого въ лавицы рады продковъ нашихъ и нашое также и иншіе вси станы, на розныхъ службахъ нашихъ бываючы, вѣрность и сталость свою ку службамъ продковъ нашихъ и нашимъ охотнѣ, яко добрымъ и вѣрнымъ подданымъ належыть, завжды и зо всякою сталостью показовали. А такъ уживаючи вси тые зацные слуги, и бачечи же въ томъ привилью нѣкоторому уваженью, хто гербовъ не бралъ, также и тыхъ хто вѣру Греческую держечи, противко продкомъ нашимъ и намъ Господарю вѣрность свою сталѣ показують, одно ижъ на томъ сеймъ не вси были, а звлаща станы Рускихъ земль, про то не уймуючы и ни въ чомъ не нарушаючы оныхъ першихъ привильевъ, отъ продковъ нашихъ и отъ насъ Господаря наданыхъ, але во всемъ при моцы зоставуючи и захоючи; только тые два члонки и артыкулы вышейописаные объясняючи и ровняючи съ порадою и призволеньемъ пановъ радъ нашихъ духовныхъ и свѣцкихъ уфаляемъ и хочемъ мѣти. Ижъ отъ того часу, не только тые панове шляхта и бояре або потомкове ихъ всихъ земль нашихъ того панства

всего нашого дарованья привильевъ и наданье всѣхъ вольностей и справъ земских уживати и съ нимъ се веселити мають, которые суть подданы Римскому костелу и которихъ тежь продкове клейносты и гербы въ Коронѣ Польской пріймовали; але тежъ и вси иные стану рыцерского шляхецкого, якъ Литовского такъ и Русского народу одно бы были вѣри Хрестіянское, и тежъ которые продкове клейнотовъ або ли гербовъ съ Коруны Польской не брали, однако и заровно того всего вѣчными часы уживати и тыхъ вольностей веселитись, яко перед тымъ здавна и до того часу тыхъ всихъ вольностей стану рыцерского и шляхецкого обоего народу якъ Литовского такъ и Руского уживали и съ того се веселили. Такъ тежъ и на достоенства и преложенства всякіе и до рады нашое и на уряды земскіе и дворные, не только подданы костелу Римскому отъ того часу обираны и прекладны быти мають, але однако и заровно вси рицерского стану зъ народу шляхецкого люди вѣры Хрестіянское, якъ Литва такъ и Русь, каждый водлѣ заслугъ и годности своее отъ насъ Господаря на мѣстца зацные преложенства зъ ласки нашое браны быти мають. А жаденъ зъ стану рицерского и шляхецкаго зъ стороны закону своего, будучы вѣры Хрестіянское человѣкъ, не маеть быти отъ того отдаленъ и отлучонъ для которыхъ двохъ артыкуловъ и члонковъ въ тыхъ первыхъ привильяхъ описаныхъ. Вѣджо и тое наданье вольностей и правъ земскихъ, у привильи Короля Якгела Князя Витолта сполномъ описаный, поставлено и справлено есть въ Корунѣ Польской такъ, якъ тотъ помененый привилей свѣтчитъ, про то на першомъ близко пришломъ валномъ соймѣ, которій отъ насъ зложонъ есть, обоимъ тымъ панствамъ Коруны Польской и Великому Князству Литовскому тое поровнанье, будетъ ли потреба еще съ большимъ примноженьемъ волности, иншимъ листомъ нашимъ взновити, за сполнымъ зволеньемъ обоего панства нашего Коруны Польской и Великого Князства Литовского пановъ радъ своихъ станомъ, хочемъ обѣцуемъ не мѣшкаючи а ни уймуючи вжо ни въ чомъ сему листу нашому, и о вшемъ при моцы не порушно зоставуючы его на вѣчные часы. Якожъ на утверженье тое речы печать нашу маестатную казали есьмо привѣсити къ сему нашому листу подписавши его рукою нашою господарскою. При томъ были панове рада наша ихъ милость: Князь Валеріянъ, бискупъ Виленскій; Князь Янушъ Андрошевичъ, бискупъ Луцкій и Берестейскій; Князь Миколай, бискупъ Кіевский; панъ Миколай Радивилъ на Ольсцѣ и Несвижу Княжа, воевода Виленскій, маршалокъ земскій, канцлеръ нашъ наивышшій Великого Князства Литовского, справца староства Жомоитского, державца Кормяловскій; панъ Григорей Ходкевичь, воевода Кіевскій, маршалокъ земли Волын-

ское, староста Володимирскій; Князь Костентинъ Костентиновичъ Острозскій, воевода Новгородскій; панъ Павелъ Ивановичъ Сапега, воевода Витебскій; Князь Стефанъ Андреевичъ Збаразскій, воевода Подляшскій, староста Менскій, державца Лысаковскій Межирецкій и Винскій; панъ Василей Шишкевичъ, маршалокъ дворный, подскарбій земскій Великого Князства Литовского и писаръ нашъ, староста Могилевскій; панъ Остафей Воловичъ, подчашій нашъ Великого Князства Литовского, староста Дорогицкій; панъ Миколай Кишка съ Техановца, крайчій нашъ Великого Князства Литовского, староста Бѣльскій; панъ Щасный Александровичъ Ходкевичъ, столникъ нашъ Великого Князства Литовского, староста Плотельскій, державца Тельшовскій; панъ Янъ Ходкевичъ, староста Житомирский; Князь Романъ Ѳедоровичъ Санкгушковичъ, конюшій нашъ дворный Великого Князства Литовского, староста Мелницкій, державца Кгереноивскій; панъ Ярошъ Корыцкій, подскарбій нашъ дворный Великого Князства Литовского, державца Пунскій и Жижморскій, панъ Станиславъ Захарьяшевичъ Влошинъ, мечникъ нашъ Великого Князства Литовского; панъ Щасный Скрутьевичъ, хоружій земскій, державца Радунскій; панъ Щасный Герцыкъ, маршалокъ и писаръ нашъ, староста Тикотинскій; панъ Янъ Шимковичъ, писаръ нашъ конюшій Городенскій, державца Ошменскій Вилкейскій и Красносельскій, панъ Янъ Миколаевичъ Гайко, писарь нашъ, державца Марковскій и Мядельскій; панъ Миколай Нарушевичъ, и иные панове маршалки, старостове, державцы и врядники наши земскіе и дворные. Писанъ у Вильни лѣта Божъего нароженья тисеча пять сотъ шестьдесятъ третего, мѣсяца Іюня осмаго дня. Подпись руки господарское, подпись руки пана канцлера.

*Привилей Бѣльскый, принятье Унѣи, рокъ 64.*

Жикгимонтъ Августъ Божію милостію Король Польскій, Великій Князь Литовскій, Рускій, Прускій, Жимоитскій, Мазовецкій, Ифлянтскій и иныхъ.

Чинимъ знаменито симъ нашимъ привильемъ всѣмъ посполите нинѣшнимъ и на потомъ будучимъ, кому того потреба будетъ вѣдати, або чтучи его слышети; паметаючи то ижъ речи и справы людскія, бы тежъ и наименьшіе на свѣтѣ оказовалисе, съ часомъ споломъ зъ людьми съ паметей людскихъ сплываютъ и въ забытіе бы приходити мусели, гдѣ бы писмомъ на пришлый часъ всѣмъ по насъ будучимъ ознаймены и утвержены не были; а естли меншіе речи въ звычай отъ по-

чатку вѣковъ для помененыхъ причынъ писмомъ опатровати звыкли, тогды большъ таковую, которая зъ обудву сторонъ подлѣ воли и приказанья Божьего, што Господарю и пану Христіянскому противко вѣрныхъ подданыхъ ку пану, подлежитъ полнится. А про то мы досвѣдчивши не одного черезъ весь часъ панованья нашого, але зъ давныхъ часовъ вѣковъ щастливого панованья продковъ нашихъ Королей Польскимъ и Великихъ Князей Литовскихъ, велебныхъ въ Бозѣ вельможныхъ шляхетнѣ врожоныхъ князей пановъ шляхты бояръ и всего рицерства обывателей Великаго Князства Литовскаго и всѣхъ земль того панства, не только зъ особъ теперешнихъ, але и зъ вѣчныхъ продковъ цѣлое вѣры статечное цноты правдивыхъ значныхъ и пожиточныхъ заслугъ ку намъ паномъ ихъ, отъ ихъ же самыхъ волиѣ яко отъ людей волныхъ выбранныхъ, и ку Речи Посполитой того панства не въ частехъ особливыхъ але во всемъ чиненыхъ и выполненыхъ, не виличаючи траченья маетности, а што болшого выливанья крове, выношенья горлъ и животовъ противко дому непріятелеви мужнѣ а сталѣ, яко належало на правыхъ рыцеровъ шлякецского народу и крове въ потребахъ Речи Посполитое того панства и въ службахъ насъ Господарей ихъ, немней тежъ не опущаючи але ни въ чомъ стороны нашое и продковъ нашихъ Великихъ Князей Литовскихъ, а звлаща зъ особы нашое досыть звыклости добротливости пристойное, а присяжоный зъ милостью повинности нашое ку тому панству нашому и обывателей вышей менованымъ, межи которою повиностью тая ижъ меншая есть справедливость чинити постерегати и розмножати ее звирхностью а належностью вряду нашего господарскаго. Про то отецъ нашъ, славное памети Жикгимонтъ Король Польскій Великій Князь Литовскій, часу щастливаго панованья своего и при подношенью парсуны нашого маестату на тое панство, за валнымъ обраньемъ тыхъ же всѣхъ пановъ и обывателей Великого Князства Литовскаго, зъ уфалы постановенья и прозбы ихъ же всѣхъ выдати и утвердити рачилъ ку справованью и захованью, то естъ справедливости светое, статутъ правъ и поступковъ Хрестіянскихъ, которая справедливость ачъ и предъ тымъ въ томъ панствѣ нашомъ Великомъ Князствѣ Литовскомъ звычаемъ стародавнымъ была, вѣдже писмомъ не объяснена была а ни утвержона. Который статутъ тотъ же светое годное и фалебное памети отецъ нашъ и мы по вдорослыхъ лѣтѣхъ нашихъ не толко привильями спожоженьемъ иныхъ вольностей хрестіянскіх, здавна тому панству наданыхъ, але присегами нашими утвердили; и тымъ жо статутомъ парадокъ правный шолъ и теперъ идетъ въ томъ панствѣ межи всѣми, ажъ до сихъ мѣстъ, то пакъ же въ справахъ бѣгу правного мало не шкоденъ

на розныхъ мѣстцахъ и урядѣхъ поправляютъ речы и артыкулы новые а розные, которые въ томъ статутѣ не были, и не суть описаны, одно противные статутови а ку понетью и уфалѣ годные, другихъ тежъ якъ часъ и потреба принесетъ надобѣ естъ поправити и еще новыхъ прибавити згожаючи и примножаючи ихъ правъ выбраныхъ и уфалы годныхъ Хрестіянскихъ, а зъ добрыхъ лепшихъ обираючи допустивши. А вдячнѣ съ пофалою и съ позволеньемъ нашимъ принявши прозбу и жадливость тыхъ же пременеyыхъ становъ Великого Князства Литовскаго, посвѣдчаючи и видечи прозбу ихъ слушную, допустили есмы имъ того статуту першого, тыхъ то прыпадковъ а потребъ наверху назначоныхъ, поправити прибавити разширати уняти, а доложити подлѣ наилѣпшаго напотребнѣйшаго скутку и доконалости. Якожъ за волею и допущеньемъ пашимъ а позволеньемъ радъ нашихъ обраны на то были черезъ нихъ же самихъ и съ посродку тыхъ же становъ особы певные, рады наши маршалкове земскіе, хоружіе и иные особы роду и народу шляхецкого, справъ чужоземскихъ, которіе засѣдши не одно поправили тотъ статутъ старый, але тежъ повымъ кшталтомъ нѣкоторіе роздѣлы звлаща судовые за засаженьемъ новымъ обычаемъ суду и порадку судового то становили и написали. А ижъ ку ровной а однакой справедливости всѣмъ была того потреба, абы стародавный обычай владности суду воеводъ старостъ и иныхъ врадовъ старыхъ уступилъ судомъ новымъ порадкомъ въ семъ часѣ учиненыхъ постановеныхъ и въ статутѣ описаныхъ; а къ тому за се противно было и забѣгло звѣчные звыклы и упрывильеваные вряды достоенства и належности судовъ пановъ воеводъ маршалковъ земскаго и дворнаго, и земли Волынское и ихъ старостъ и державецъ врядовъ. Про то сами тые панове воеводове, а меновите на тыхъ достоенствахъ теперь и на весь часъ будучи: воевода Виленскій маршалокъ земскій, канцлеръ нашъ Великаго Князства Литовскаго, староста Берестейскій, панъ Миколай Радивилъ; воевода Троцкій, гетманъ нашъ наивышній Великаго Князства Литовскаго, староста Мозырскій, державца Лидскій, Бѣлицкій, панъ Миколай Юрьевичъ Радивилъ; староста въ земли Жомоитской панъ Янъ Еронимовичъ Ходкевичъ; воевода Кіевскій маршалокъ земли Волынское, староста Володимерскій, князъ Костентинъ Костентиновичъ Острозскій; воевода Новгородскій, панъ Павелъ Ивановичъ Сапега; староста Луцкій и Вѣницкій, князь Богушъ Ѳедоровичъ Корецкій; воевода Витебскій, Князь Стефанъ Андреевичъ Збаразскій; воевода Подляшскій, староста Менскій, панъ Василей Шишкевичъ; маршалокъ дворный, подскарбій земскій Великаго Князства Литовскаго, писаръ нашъ, староста Могилевскій, панъ Остафей

Воловичъ, и иные врадники земскіе и старостове и всѣ державцы, и которихъ колвекъ владности судовые въ томъ панствѣ нашомъ Великомъ Князствѣ Литовскомъ перекажали и впередъ перекажати бы могли тому статутови и порадку и засаженью судовному постановеному и списаному, пришедши и постановивши передъ нами обличнѣ по доброй воли своей, маючи напродъ Пана Бога и справедливость светую передъ очима своими, важили большъ тую а нижли которое въ томъ по воли звирхности владности и пожитки свои, надъ все наслѣдуючи приказанье Божое, которое учитъ миловати ближнего своего яко себе, а съ тогожъ показуется абы одинъ другого ничого не пожадалъ, а если чого иного тогды надо все справедливости инакшей мѣти не хотѣлъ, милуючи Речь Посполитую а въ ней братью зо всими владностями свою молодшую народъ шляхецкій а рицерскій, а суды свое зо всими владностями и пожитки, которые по звирхности судовъ нашихъ господарскихъ немней на нихъ належали, обычаю первого мененого и водлугъ статуту старого выступилъ, и зо всими пожитки таковыхъ ихъ милость панове врадниковъ слугъ и дѣцкихъ пересудовъ и винъ а отозвовъ, а въ теперешнемъ новомъ статутѣ апеляцыи, то есть отбыванья, и тежъ звычаю права корунного судовъ и справъ всѣхъ воеводскихъ отступили и выреклись. Наконецъ не только ихъ милость панове воеводове и иные врадники владности и всякихъ пожитковъ своихъ судовыхъ и за владностью и поступкомъ судовыхъ належачихъ отступили; але тежъ посполъ князи, панове, маршалки, панята, и якимъ кольвекъ обычаемъ названые врадники нашими, и вся шляхта никого не выймуючы, почавшы отъ старшаго по насъ Господаря ажъ до наименшаго такъ духовный яко и свѣцкій Великаго Князства Литовскаго, на томъ сеймѣ великомъ вальномъ Бѣльскомъ въ одно ровное право въ однакій а не инакшій судъ моцъ и поступки судовые и послушенства, а порадокъ врадовъ на суды выбраныхъ и высажоныхъ, сами и потомками своими поддали и поддаютъ; а себе при нихъ тому досыть чинечи вѣчными часы обѣцали, яко въ томъ статутѣ зъ уфалы всѣхъ, а черезъ особы отъ тыхъ обраные и высажоные, описано постановено и розмножоно и над то сполнѣ и одностайнѣ вси жадали и били намъ чоломъ, абыхмо мы Господаръ на то позволивши, а гдѣ бы тежъ въ чомъ перекажало што стороны звирхности нашое господарское, яко великого стародавныхъ судовъ нашихъ тому статутови порадку и артыкуловъ въ немъ описанымъ, зложивши и поступивши то и не допущаючи тымъ тому, и такъ светобливой справѣ перекажати утвердити имъ въ посполитости оный статутъ нашъ листомъ. А такъ кгдыжъ початокъ тое побожное справы въ становенью того статуту

былъ зъ воли Великого Князства и за доконаньемъ его, на него зволивши и подъ него въ шафованье справедливости своее поддавшисе, намъ о то съ чоломбитьемъ своимъ просили. Мы знаючи тотъ народъ того панства быти годными всякихъ вольностей налепшихъ и справедливости, которая за справою и порадкомъ правнымъ слушнымъ задерживаетъ и еще примножаетъ, не одно вольностей и пожитки плодечи, але тежъ способляючи розшираючи панства, а надо все полничи волю и учинность нашу, къ тому прихиляючи и утверженье всимъ обывателемъ здѣшнимъ, шлюбуемъ и обѣцуемъ и прирекаемъ, подъ тоюжъ присегою Великого Князства, тотъ статутъ новый не только симъ привильем, а тежъ словом нашимъ господарскимъ за насъ и всѣ потомки наши, Короли и Великіе Князи Литовскіе тому панству Великому Князству Литовскому и всимъ чинили держати ховати, водлѣ того ихъ радити судити и справовати и отъ кождого насилья моцы кгвалтъ и наменшее образы въ томъ статутѣ боронити и не допущати ни въ чомъ никому. Такъ тежъ паномъ воеводамъ и всимъ врадникомъ, гдѣ хотѣли чого они держати засе старые владзы судовъ отозвовъ и пожитковъ своихъ, вдавати и ихъ попирати и выламоватися мѣли зъ ровности судовъ, въ которую се теперъ передъ нами вызнаньемъ своимъ поддали, мы сами и потомки Короли и Великіе Князи Литовскіе не допустимъ и не дозволимъ, але боронити и стеречи будемъ, абы во всемъ и во всѣхъ артыкулѣхъ цѣлъ тотъ статутъ былъ захованъ. Вѣджо если бы въ чомъ потреба была того статуту и артыкуловъ которихъ въ немъ поправити; тогды на сеймѣ тыхъ, которые на сесь часъ при становенью унѣи Великаго Князства Литовского съ Коруною Польскою захованъ естъ, впередъ при моцы Великому Князству Литовскому за волею нашою господарскою можно и волно будетъ, сполнымъ а одностайнымъ намышленьемъ радою и позволеньемъ всѣхъ становъ родичовъ и обывателей оного панства Великого Князства, тотъ статутъ и артыкулы въ немъ поправляти прибавити розширати, будь тежъ чего и доложити албо уняти, штобы одно зъ лѣпшимъ ку досконалшому захованью и порадку справедливости светое вынайти и постановити могло; а мы то все впередъ въ томъ статутѣ таковымъ обычаемъ, яко верху доложоно, зъ полного зволенья всихъ обывателей поправено и уфалено будетъ, утвержаемъ симъ жо нашимъ привильемъ, и хочемъ и обѣцуемъ то во всемъ моцно держати и ховати подъ обовязками нашими вышей менеными. А къ тому тежъ дозволили есьмо и допущаемъ теперъ заразомъ тотъ новый порадокъ и росправовъ засаженью судовъ и обиранью на то врадниковъ и розложенья мѣйстцъ на судъ и на положенье и хованье книгъ судовыхъ учинити и

постановити; а которимъ способомъ они вси станове панове рады ихъ милостъ княжата панята врадники земскіе и дворные и все рицерство шляхта обыватели того панства и Великаго Князства, сполнѣ на то позволившися и згодивши, тотъ порадокъ и кшталтъ засаженье судовъ обранье и становенье на то врадниковъ разложенья повѣтовъ и мѣйстцъ и роковъ на судьи и на хованье книгъ судовыхъ учинити и постановити, то вжо въ той мѣр таковымъ обычаемъ впередъ трывати но и справовано быти маеть. А маетъ ся тотъ статутъ и вси справы поступки порадки и вступъ а початокъ его зачати отъ дня свята светаго Мартина въ року теперешнемъ тисеча пять сотъ шестьдесятъ четвертомъ, и владностью моцъю а описаньемъ артыкуловъ, яко се вышей въ семъ привильи нашомъ поменило, ити и дѣятись и полнити вѣчиными часы непорушно. Одножъ што се дотычеть речей изъ розницы и долеглостей прошлыхъ, кому бы того о што кольвекъ лѣло было, и хто бы право которое свое водл угъ першаго обычая и бѣгу права посполитого статуту уфалъ соймовыхъ обварованье мѣлъ; тогды о то все ачъ колвекъ одинъ другого вже отъ часу замереного до суду кшталтомъ теперъ новымъ постановенымъ и передъ судьи и иншіе врады судовые тымъ новымъ порадкомъ засажоный росправленый и постановленый притегати маетъ; вѣдже таковые давные и прышлые речи розницы и долеглости всяко стану маютъ быти сужоны и росправованы черезъ тыхъ же судей новыхъ повѣтовыхъ водлугъ старого статуту и обычаю права, а тотъ новый статутъ и артыкулы его не будутъ мочы моцъю и владностью своею у жадного суда прошлыхъ речей и справъ, а справедливости людское водлугъ першаго статуту и бѣгу права посполитого слушиѣ обварованыхъ и опатреныхъ, касовати и казати. Вѣджо што се дотычеть правъ и судовъ духовныхъ костеловъ Божіихъ, которіе водлѣ стародавного обычаю и поданья привилевъ продковъ нашихъ и нашихъ господарскихъ княземъ бискупомъ архіепископомъ владыкомъ ихъ милости судьямъ въ томъ панствѣ Великомъ Князствѣ прислушаеть; то при моцы зоставуемъ и заховаемъ тежъ вѣчными часы. Къ тому тежъ права и обычай въ судѣхъ земль Великаго Князства Литовскаго стародавныхъ Подляшскихъ, Дорогицкихъ Бѣлско-Мелницкое заховываемъ во всемъ, подлугъ наданья привильевъ, ихъ ни в чомъ не нарушаючи; над то права Майдеборскіе яко въ мѣстѣ нашимъ столечномъ Ви ленскомъ, такъ и во всихъ иныхъ мѣстехъ того панства нашаго Великаго Князства Литовскаго въ цѣлости заховываемъ. А на утверженье и моцность сего нашого привилья, подписавши его власною рукою нашою, печать нашу къ нему привѣсити есьмо казали. При том были и того добрѣ свѣдоми: Князь

Валеріянъ, бискупъ Виленскій; Князь Юрей Юрьевичъ Слуцкій; Князь Янушъ Андрошевиъ, бискупъ Луцкій и Берестейскій; Князъ Станиславъ Кгабрыяловичь, бискупъ Жомоитскій; панъ Миколай Радивилъ, воевода Виленскій, маршалокъ земскій, канцлеръ Великаго Князства Литовскаго, староста Берестейскій, пан Виленский, гетманъ нашъ дворный Великаго Князства Литовскаго, староста Городенскій; панъ Григорей Александровичъ Ходкевичъ, воевода Троцкій, гетманъ нашъ наивышій Великаго Князства Литовскаго, староста Мозырскій, державца Лидскій Бѣлицкій Сомилашскій, панъ Миколай Юрьевичъ Радивилъ, староста Жомотскій, державца Плотельскій; панъ Янъ Еронимовичъ Ходкевичъ, воевода Кіевскій, маршалокъ Волынское земли, староста Володимерскій, Князь Костентинъ Костентиновичъ Острозскій, воевода Новгородскій; панъ Павелъ Ивановичъ Сапега, воевода Витебскій; Князь Стефанъ Андреевичъ Збаразскій, воевода Подляшскій, староста Менскій, державца Литовскій и Межирецкій; панъ Василей Тишкевичъ, маршалокъ дворный, подскарбій земскій Великаго Князства Литовскаго, писаръ нашъ, староста Шавленскій; панъ Остафей Волович; Князь Александръ Ѳедоровичь Чорторыйскій; Князь Миколой Андреевичъ Збаразскій, староста Кременецкій; Князь Андрей Ивановичъ Вишневецкій; Князь Иванъ Любецкій Бабына; Князь Андрей Петровичъ Масальскій, подчашій нашъ Великаго Князства Литовскаго; панъ Янъ Шимковичъ, писаръ нашъ староста Бѣльскій; панъ Юрей Александровичъ Ходкевичъ, маршакокъ нашъ Великаго Князства Литовскаго; панъ Янъ Шимковичъ, писаръ нашъ староста Тыкотинскій; панъ Петръ Богдановичъ Загоровскій; панъ Юрей Васильевичъ Тишкевича, державца Волковыйскій; панъ Григорей Гринковичъ Воловичъ, староста Слонимскій; панъ Александро Ѳедоровичъ Владычка, державца Бирштянскій; панъ Григорей Есифовичъ Трызна; панъ Михайло Тишкевичъ Козинскій, городничій Володимерскій; панъ Янъ Гайко, писаръ нашъ, державца Ошменскій Винскій Красносельскій, а писаръ и секретарь нашъ, державца Марковскій и Мядельскій и Куренецкій; панъ Миколай Павловичъ Нарушевичъ, мечникъ нашъ Великаго Князства Литовскаго; панъ Матей Петчевичъ, державца Скерстомонскій и Росенскій; и иные панове врадники, державцы, тивунове земли Жомоитское, хоружіе послове зо всихъ земль и повѣтовъ того панства Великаго Князства и множества шляхты рыцерства нашого и обывателей здѣшнихъ, яко на соймъ великій вальный отъ насъ листы нашими позваными и обраныхъ, а иныхъ пановъ радъ нашихъ князей пановъ панять, врадниковъ старостъ и иного рицерства, ачъ на тотъ часъ для собранья у войско

противъ непріятеля нашого Великаго Князя Московскаго пры насъ ихъ не было, вѣдже на то все што вышей въ томъ привилью нашомь описано, черезъ пословъ своихъ позволили. И на то есьмо дали всѣмъ станомъ обывателемъ Великаго Князства Литовскаго сесь нашъ привилей. Писанъ у Бѣльску лѣта Божъего нароженья тисеча пять сотъ шестьдесятъ четвертого мѣсяца Іюля перваго дня.

*Привилей Виленскій, рокъ 65.*

Чинимъ явно симъ листомъ нашимъ нинѣшнимъ и на потомъ будучимъ, кому будеть потреба того вѣдати, альбо чтучи его слышети. Ижъ будечи нам Господарю на великомъ соймѣ валномъ въ мѣстѣ нашемъ столечномъ Виленскомъ съ паны рады нашими духовными и свѣцкими князи паны, врадниками земскими и дворными, и зо всимъ рыцерствомъ земль всего панства Великаго Князства Литовскаго, гдѣ прикладаючи потребы Речи Посполитое того панства нашого донесли просбы свое межи иными речми покорнымъ чоломбитьемъ ку намъ Господарю вси станы сполнѣ и одностайнѣ; ижъ быхмо для способу лѣпшого и отправы поспѣшнѣйшое вь справедливости людской статутъ новый, отъ насъ Господаря на соймѣ валномъ у Бѣльску року прошлого выданный и привильемъ нашимъ утвержоный, въ скупечное уживанье привели. А съ тымъ статутомъ судовымъ отправити казали, а приводечи ку болшому порадку Речы Посполитое, што быхмо на выбранье пословъ соймомъ вальнымъ и инымъ потребамъ земскимъ належачихъ дозволили и допустили въ повѣтѣхъ, то естъ гдѣ кольвекъ вряды судовые засажоны, и гдѣ потомъ черезъ насъ Господара засаженье врядовъ судовыхъ зъ ихъ прозбы и зволенья дойдетъ, соймъ малы ку бранью всѣхъ обывателей въ каждомъ повѣтѣ мевати; и на тые соймы повѣтовые всимъ паномъ радамъ нашимъ княземъ паномъ врядникомъ земскимъ и дворнымъ и всимъ станомъ народу шляхецкаго и стану рыцерского, гдѣ въ которомъ повѣтѣ осѣлость маетъ, на часы черезъ листы наши назначоные повѣтовыхъ справъ поступокъ и обычай заховыванъ естъ въ панствѣ нашомъ Коруны Польское. Ино мы Господаръ дознавши неодно черезъ весь часъ панованья нашого, але ку памети и вспоминанью годному приводечи, же зъ давныхъ вѣковъ, за щастливого панованья славное памяти продковъ нашихъ Королей ихъ милости и Великихъ Князей Литовскихъ, собрали яко продковъ велебныхъ, въ Бозѣ вельможныхъ пановъ радъ ихъ милости духовныхъ и свѣцкихъ князей пановъ врядниковъ земскихъ и дворныхъ, и всего рыцерства родичовь и обывателей земль всихъ Великого Князства Литовского, цнотливыхъ и вѣрныхъ а пожиточныхъ послугъ въ Речи

Посполитой, такъ жо на тотъ часъ и всѣхъ будучихъ ку намъ Господарю пану своему прырожоному н ку каждымъ потребамъ земскихъ, которыми не только за страченьемъ маетности але въ немстованьемъ здоровья и горлъ своихъ мужнѣ сталѣ заставуючись, такъ радами мудрими, яко и кождою ростропностью а моцною учинностью противко кождому непріятелю нашому намъ Господарю и Речи Посполитой добрѣ заслугуючи, подобали и подобатися не переставаютъ; а для таковыхъ вѣрныхъ цнотливыхъ къ намъ милѣ вдячныхъ заслугъ умыслили есьмо, не толко таковыхъ потребъ Речи Посполитое належачихъ не отмовляти, але еще завжды щодробливе, яко есьмо звыкли причиняти и примножати хочемъ и обѣцуемъ, а бы вжо тымь статутомъ новымъ судили и справовалися вси станы однакимъ порадкомъ въ повѣтѣхъ и на мѣстцахъ головиѣйшихъ, повѣтомъ и судомъ повѣтовымъ розложоныхъ, зъѣждчатися и збирати княземъ паномъ радамъ нашимъ врадникомъ земскимъ и дворнымъ и всему рыцерству, хто въ которомъ повѣтѣ оселость маеть, дозволяем за обосланьемъ и листы нашими господарскими, зъѣхавшисе въ потребахъ Речи Посполитое, радити обмовляти и обмышляти, о чомъ имъ отъ насъ Господаря ознаймено будетъ, и съ того жъ таковоого зобранья намовъ сполныхъ посковъ обирати, и на сеймъ великій вальный звыклый въ томъ панствѣ нашомъ, кгды листы нашими господарскими мѣстце таковому сойму ознаймено и зложоно будетъ, выправляти и черезъ листы пословъ потребы Речи Посполитое и кождого зособна повѣту до насъ Господаря приносити, во всемъ справуючись потому, яко въ панствѣ нашомъ Корунѣ Польской обычай около таковыхъ зъѣздовъ соймовъ повѣтовыхъ отправленье пословъ и отношенья потребъ Речи Посполитое на сеймъ вальный передъ насъ Господаря заховывается. А то все такъ справы судовые у повѣтѣ, яко тежъ и соймы въ тыхъ же повѣтѣхъ, яко вышей описано маеть оть насъ Господаря заховываться и потомковъ нашихъ великихъ Князей Литовскихъ вѣчнѣ и непорушаѣ держано быти, а съ того права и пороадку не маемъ никого вызволити и ничимъ отмѣняти. Якожъ на утверженье и моцность того привилья нашого, подписавши его власною рукою нашою господарскою, печать нашу къ нему привѣсити есьмо казали. Дано и дѣялосе на валномъ соймѣ у Вильни пры бытности пановъ радъ нашихъ духовныхъ и свѣцкихъ, и тежъ князей пановъ врадниковъ земскихъ и дворныхъ, лѣта Божъего нароженья тисеча пять сотъ шестдсятъ пятого, мѣсяца Декабря тридцатого дня.

*Лѣта Божъего нароженья тисеча пять сотъ шестдесятъ шестого, мѣсяца Іюля, первого дня.*

Артыкулы поправы статутовое, которые за волею вѣдомостью Короля его милости Великого Князства Литовского Жикгимонта Августа, съ потребы правъ земскихъ панства его Королевское милости Великого Князства Литовского, за зволеньемъ пановъ радъ ихъ милости того панства духовныхъ и свѣцкихъ, также князей и пановъ врядниковъ его королевское милости, пановъ пословъ земскихъ и всѣхъ становъ сейму належачихъ, на соймѣ валномъ Берестейскомъ поправленые. Которые ихъ милость панове рада и вси станы на соймѣ въ Берестью поправивши, черезъ старосту Жомоитского, маршалка земского Великого Князство Литовского, державцы Плотельского и Тельшовского, пана Яна Ходкевича ку его Королевское милости до Люблина прислати были рачили. Гдѣ Господаръ его милостть тыхъ артыкуловъ огледавши и ихъ уфаливши, моцъю сойму Берестейского до статуту правъ новыхъ вписати росказать рачилъ, умоцняючи то, ажъ хотя бы въ статутѣ што были тымъ артыкуломъ нижей описанымъ было противнего, тогды вжо тые артыкулы первей въ статутѣ о такихъ справахъ выписаные, ни которое моцы вжадного права мѣти и держаны быти не мають, але тыми артыкулами на соймѣ Берестейскомъ уставленными вси станы Великого Князства Литовского, и вси земли тому панству належачіе, радити и справоватися мають.

## СТАТУТЪ ВЕЛИКОГО КНЯЗСТВА ЛИТОВСКАГО

Жикгимонтъ Августъ Божъею миллостью Король Польский. Великий Князь Литовскій, Рускій, Прускій, Жомоитскій, Мазовецкій, Ифлянтскій и иныхъ. Чинимъ явно всимъ вобецъ и каждому зособна нинѣшнимъ и на потомъ будучимъ, ижъ тотъ статутъ Великому Князеству Литовскому, панству нашому и всимъ землямъ къ нему прислухаючимъ, упривильеваный въ Бѣлску черезъ насъ Господара на соймѣ звыкломъ великомъ валномъ, который зъ стародавныхъ часовъ звыклый бывати въ томъ панствѣ нашомъ Великомъ Князствѣ Литовскомъ, зложоный и справленый и постановеный черезъ обранье певное парсуны зъ роду и народу шляхецкого становъ соймомъ належачимъ родичомъ и обывателемъ того Великого Князства, лечъ ижъ ку ужываныю не пришолъ ажъ и до сихъ часовъ не выданъ. Тогды то съ тыхъ прычинъ сталосе, ижъ черезъ насъ и презъ пановъ радъ на-

***Арт. 22.*** Дапаўняе артыкул 21. Калі пагроза здароўю або жыццю зыходзіла ад чалавека, які не меў уласнай нерухомай маёмасці (аселасці) і была даказана ў судзе, то такі чалавек падлягаў зняволенню на дванаццаць тыдняў. Ён мог быць выпушчаны толькі пасля таго, як знойдзе сабе паручыцеля.

***Арт. 23.*** Рэгламентуе парадак выпатрабавання ліста жалезнага асобай, якая апынулася ў складаным становішчы з-за пажару, паводкі, вайны і іншай бяды і не змагла аплаціць свае даўгі. Жалезныя лісты не выдаваліся супраць шляхты простым людзям, купцам і яўрэям.

***Арт. 24.*** Іскі па справах гонару разглядаліся гаспадарскім судом на працягу аднаго года, не пазней чым праз чатыры тэрміны. Падобны артыкул меўся ў Статуце 1599 г. (раздз. 1, арт. 20).

***Арт. 25.*** Статут забараняе ўстанаўліваць новыя мыта. Ад мытных плацяжоў вызваляліся: шляхта пры вывазе прадукцыі сваіх маёнткаў за мяжу і ўнутры дзяржавы, купцы Вільні, Полацка і некаторых іншых гарадоў. Забарона ўстанаўліваць новыя мыта была накіравана на развіццё гандлю і рамяства. Упершыню падобны артыкул быў унесены ў Статут 1529 г. (раздз. 1, арт. 21).

***Арт. 26.*** Рэгламентуе парадак вызвалення шляхты ад платы мыта пры перавозцы прадукцыі са сваіх маёнткаў за мяжу або тавараў з-за мяжы для патрэб уласных гаспадарак. Па Статуту 1588 г. устанаўлівалася абавязковая прысяга, якую павінны былі даваць шляхцічы ці іх прыказчыкі аб тым, што вывозілася прадукцыя менавіта з іх уласных маёнткаў.

***Арт. 27.*** Пярэчанне судовай пастанове вялікага князя і паноў-рады разглядалася як крымінальнае злачынства, і вінаваты павінен быў сядзець за гэта ў замкавай турме шэсць тыдняў. Упершыню норма ўведзена ў Статуце 1529 г. (раздз. 1, арт. 23).

***Арт. 28.*** Законную сілу мелі першасныя граматы на маёнткі і пасады. Калі здаралася, што хто-небудзь атрымліваў грамату на маёнтак ці пасаду, якія раней былі дадзены іншай асобе, то такая грамата траціла сілу. Падобная норма ўпершыню была запісана ў Статуце 1529 г. (раздз. 1, арт. 24).

***Арт. 29.*** У феадальны час было распаўсюджана правіла, паводле якога выдавалася грамата на атрыманне маёмасці ці пасады ў будучым, пасля смерці ўласніка маёнтка ці пасады. Артыкул забараняў выдачу такіх грамат, а выдадзеныя раней прызнаваў страціўшымі сілу, за выключэннем тых выпадкаў, калі нехта сам па сваёй добрай

волі прасіў бы вялікага князя выдаць такую грамату на свой маёнтак або пасаду.

***Арт. 30.*** Забараняе прыватным асобам рабіць прыпынак у вялікакняжацкіх і дзяржаўных маёнтках для харчавання, вызначае адказнасць за парушэнне гэтага правіла. Норма запазычана са Статута 1529 г. (раздз. 1, арт. 26).

## РАЗДЗЕЛ 2. АБ АБАРОНЕ ЗЕМСКАЙ

Першыя прававыя акты аб абароне айчыны былі выдадзены ў выглядзе грамат (прывілеяў), соймавых пастаноў. Так, прывілей ад 20 лютага 1387 г. устанаўліваў, што, паводле даўняга звычаю, ваенны паход застаецца абавязкам, які ажыццяўляецца ўласнымі выдаткамі і расходамі. У пагоню за ворагам павінны адпраўляцца не толькі вайскоўцы (рыцары), але і кожны мужчына, незалежна ад саслоўнай прыналежнасці і багацця, толькі бы ён быў здольны валодаць зброяй. З вылучэннем шляхты ў асобнае прывілеяванае саслоўе і ўскладаннем на яе асноўнай арганізацыйнай функцыі нясення ваеннай службы ўзнікла неабходнасць заканадаўчай рэгламентацыі ваеннай павіннасці ўсяго насельніцтва. Першымі заканадаўчымі актамі па ваеннаму праву былі артыкулы вайсковыя, якія выдаваліся соймам або гетманамі. Першая кадыфікацыя ваеннага права была зроблена ў Статуце 1529 г.

***Арт. 1.*** Вызначае катэгорыі саслоўяў і насельніцтва, якія павінны былі несці ваенную павіннасць, вызначалася адказнасць за ўхіленне ад яе. Рэгламентуе парадак прызначэння гетмана, а таксама пытанні, што датычаць экіпіроўкі ратнікаў. Аналагічная норма маецца ў Статуце 1529 г.

***Арт. 2.*** Пачатак вайны мог быть абвешчаны толькі агульным соймам. У выпадку нечаканага нападу непрыяцеля збор на вайну мог быць абвешчаны вялікім князем або панамі радай. Падобныя артыкулы меліся ў Статутах 1529 і 1588 гг.

***Арт. 3.*** Вялікі князь і гетман не мелі права вызваляць ад ваеннай службы тых асоб, якія павінны былі яе несці. Выключэнне складалі службовыя асобы, якія былі на іншай дзяржаўнай службе, але і яны павінны былі высылаць ратнікаў са сваіх маёнткаў.

***Арт. 4.*** Ад закладзенага маёнтка ваенную службу павінен быў несці яго трымальнік і яшчэ выстаўляць пэўную колькасць ратні-

каў. Але бакі маглі дамовіцца, што ваенная служба будзе абавязкам уласніка.

***Арт. 5.*** Вызначае статус харужых і парадак іх прызначэння. У гэтым артыкуле замест слоў «**хоружыхъ нашыхъ**» трэба чытаць «**хоружыхъ инакшыхъ**» што было папраўлена ў Статуце 1588 г. (раздз. 2, арт. 5).

***Арт. 6—8.*** Устанаўліваюць парадак збору, рэгістрацыі і пастраення вайскоаабавязаных асоб падчас збору вайска. Вызначаецца юрысдыкцыя вайсковых начальнікаў па справах аб крымінальных злачынствах.

***Арт. 9.*** Каталіцкае і праваслаўнае духавенства абавязана было несці ваенную службу і выпраўляць ратнікаў з маёнткаў, на якіх да пераходу іх ва ўласнасць царквы ляжала гэта павіннасць.

***Арт. 10.*** Вайсковая служба працягвалася да агульнага дазволу на вяртанне дадому. Самавольнае пакіданне службы каралася канфіскацыей маёнтка. Падобныя нормы меліся ў Статутах 1529 і 1588 гг.

***Арт. 11.*** Уважлівай прычынай для няяўкі на ваенную службу шляхціца, які не меў сына, што мог бы яго замяніць, лічылася цяжкая хвароба, якую павінны былі засведчыць тры шляхціцы. Пасля выздараўлення ён павінен быў прысягнуць, што сапраўды на той час быў хворы.

***Арт. 12.*** Замест бацькі мог у войска стаць дарослы сын, якому споўнілася 18 гадоў. Па Статуту 1529 г.— з 17 гадоў (раздз. 2, арт. 6)

***Арт. 13.*** Тых, хто спазніцца на месца збору, занасілі ў асобы рэестр, пасля чаго іх накіроўвалі на службу ў мясцовасці з больш неспрыяльнымі ўмовамі.

***Арт. 14.*** Уцякач з поля бітвы першы раз траціў маёнтак, а другі раз гонар.

***Арт. 15.*** Падлог і фальшывае забеспячэнне паходным рыштынкам караліся канфіскацыяй рыштунку. Паўторны падлог караўся смерцю.

***Арт. 16.*** Вызначае памер платы пісару, якая спаганялася пры рэгістрацыі ваеннаабавязаных.

***Арт. 17.*** Абавязвае падпарадкоўвацца прызначаным у войску старэйшым вайсковых падраздзяленняў. У Статуце 1588 г. гэты артыкул адсутнічае.

***Арт. 18.*** Вызначае адказнасць харужых за самавольнае вызваленне шляхты ад ваеннай службы. Гэта забаранялася нават вялікаму князю і гетману (арт. 3). Статут 1529 г. прадугледжваў не толькі пазбаўленне пасады, але і канфіскацыю маёнтка.

***Арт. 19.*** Пры адсутнасці наёмных жаўнераў у войску каравульную службу павінны былі несці ўсе ратнікі. Ні ў першым, ні ў трэцім Статутах падобнага артыкула не было.

***Арт. 20.*** Забараняе вайскоўцам прычыняць шкоды і грабіць сваё насельніцтва. Больш падрабязна гэтыя пытанні рэгламентаваліся артыкуламі крымінальнага права. Аналагічныя нормы меліся ў статутах 1529 і 1588 гг.

***Арт. 21, 22.*** Вызначаюць парадак набыцця прадуктаў харчавання і фуражу ў мясцовага насельніцтва і ўстанаўлівалі меры пакарання за парушэнне гэтых артыкулаў.

***Арт. 23.*** Вызначае павышаную адказнасць вайскоўцаў за злачынствы, зробленыя ў войску супраць сваіх жа вайскоўцаў. Норма была перанесена ў Статут 1588 г.

***Арт. 24.*** Прадугледжвае парадак камплектавання наёмнага войску і абавязак выстаўлення з маёнтку замены за самога шляхціца, які стаў наёмнікам. Развіццё наёмных атрадаў дало пачатак стварэнню пастаяннага войска.

***Арт. 25.*** Вызначае парадак вярбоўкі і найму ў войска чужаземцаў (чэхаў, палякаў, немцаў), рэгламентуе іх правы і абавязкі, асабліва абараняе мясцовае насельніцтва ад іх грабяжоў.

***Арт. 26.*** Дапаўняе папярэдні артыкул. Рэгламентуе парадак прыцягнення да крымінальнай адказнасці наёмнікаў за злачынствы супраць насельніцтва. Больш поўна падобная норма выкладзена ў Статуце 1588 г. (арт. 27).

***Арт. 27.*** Вызначае парадак ўтрымання прыблудных коней. Упершыню адказнасць за ўтойванне такога каня была прадугледжана Судзебнікам 1468 г., які прыраўноўваў яе да крадзяжу.

***Арт. 28.*** Вызначае неабходнасць перапісу ўсіх ваеннаабавязаных у судовых паветах перад ваяводамі і «галоўнымі старастамі», а хто мае маёнткі ў розных паветах, той павінен быць узяты на воінскі ўлік у тым павеце, дзе знаходзіўся яго галоўны маёнтак, і прыпісаць да яго ратнікаў з іншых сваіх маёнткаў.

***Арт. 29.*** Акрэслівае адлегласць размяшчэння войска ад гетмана пры агульным зборы. У іншых статутах падобных артыкулаў няма.

## РАЗДЗЕЛ 3. АБ ВОЛЬНАСЦЯХ ШЛЯХЕЦКІХ І АБ ПАВЕЛІЧЭННІ ТЭРЫТОРЫІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

У раздзеле выкладзены асноўныя нормы канстытуцыйнага права: аб суверэнітэце і дзяржаўнай незалежнасці, тэрыторыі дзяржавы, грамадзянстве, асноўных правах шляхты, аб заканадаўстве, дзяржаўных установах, што надае гэтаму раздзелу значэнне своеасаблівай феадальнай канстытуцыі.

***Арт. 1.*** Замацоўвае суверэнныя правы Вялікага княства Літоўскага. Абавязвае вялікага князя захоўваць дзяржаву і яе землі ў славе, тытулах, багацці, самастойнасці і годнасці.

***Арт. 2.*** Загаловак артыкула — «**О вольностяхъ шляхецскихъ**», а ў тэксце артыкула вялікі князь абавязваўся захоўваць усё насельніцтва і людзей простых пры свабодах і вольнасцях хрысціянскіх, «**въ которыхъ они, яко люде вольные, вольно обираючы изъ стародавна изъ вѣчныхъ своихъ продковъ собѣ пановъ и Господарей Великихъ Князей Литовскихъ**». Гэты запіс не адпавядаў рэальнаму стану рэчаў. Простыя людзі ў той час не ўдзельнічалі ў выбарах вялікага князя. Можна думаць, што гэты запіс быў зроблены пасля таго, як Жыгімонт Аўгуст паспрабаваў падараваць усё Вялікае княства Літоўскае, нібыта сваю уласнасць, Польшчы, абвясціўшы 13 сакавіка 1564 г., што ён адмаўляецца ад сваіх спадчынных правоў на карысць Польшчы. Таму гэты артыкул заканадаўча замацаваў, што вялікі князь не мае спадчынных правоў на ўсю дзяржаву, а з'яўляецца толькі службовай асобай, якую выбірала ўсё насельніцтва дзяржавы. Змест артыкула адпавядаў ідэям гуманізма, што шырыліся ў той час у Вялікім княстве Літоўскім. Затым гэты артыкул быў перанесены ў Статут 1588 г., тым самым замацоўвалася службовае становішча і ўсіх наступных вялікіх князёў.

***Арт. 3.*** Вялікі князь абавязваўся не толькі захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць Вялікага княства Літоўскага, але вярнуць і тыя землі, што былі далучаны да іншых дзяржаў. Характэрна, што ў якасці непрыяцеляў тут пералічаны Карона, г.зн. Польшча і польская правінцыя Мазоўша. Але замест таго, каб вярнуць ад Польшчы землі Вялікага княства Літоўскага, Жыгімонт Аўгуст у 1569 г. парушыў гэты артыкул і адарваў ад Вялікага княства Літоўскага беларускае Падляшша і Украіну, далучыўшы і іх да Польшчы.

***Арт. 4.*** Вялікаму князю забаранялася перадаваць каму-небудзь шляхту, баяр, іх маёнткі і людзей, а таксама пазбаўляць іх вольнасцей

і дарчых грамат і ўвогуле дзейнічаць насуперак Статуту. Раней здаралася, што шляхту і баяр перадавалі ў залежнасць буйным феадалам. Так, у 1465 г. вялікі князь Казімір перадаў горад Бранск і прылеглыя раёны ў вотчыну князю І.А. Мажайскаму, а мясцовым баярам загадаў служыць новаму гаспадару. Забарона перадаваць асобныя мясцовасці буйным феадалам упершыню была запісана ў Віцебскай і Полацкай абласных граматах («А Палачаны нам не даритися никому» — 1511 г.). Нягледзячы на тое, што вялікаму князю было забаронена дзейнічаць насуперак Статуту, гэта не перашкодзіла яму перадаць Польшчы ў 1569 г. беларускае Падляшша і Украіну.

***Арт. 5.*** Юрыдычна замацоўвае парадак склікання павятовых соймікаў і выбараў дэпутатаў на агульные соймы Вялікага княства Літоўскага. Па ідэі, кожны шляхціц меў права ўдзельнічаць у працы агульнадзяржаўных соймаў, але іх не заўсёды туды запрашалі. Апрача таго, і самі шараговыя шляхціцы не жадалі пакідаць свае гаспадаркі і ехаць на сойм, дзе паны не хацелі іх слухаць і лічыцца з іх думкаю. Менавіта таму, каб забяспечыць прысутнасць на сойме ад кожнага павета хаця б двух дэпутатаў, у 1512 г. была выдадзена пастанова аб абавязковай пасылцы з кожнага павета па два дэпутаты. Па Статуту 1588 г. прадугледжвалася выплата дэпутатам грошай на праезд і харчаванне (раздз. 3, арт. 7).

***Арт. 6.*** Вызначае, што агульнадзяржаўныя соймы павінны склікацца, калі будзе ў тым патрэба, па ініцыятыве вялікага князя і паноў рады, або «за прозбою рыцерства». Заканадаўчая рэгламентацыя склікання і дзейнасці павятовых соймікаў і агульнадзяржаўнага сойму з'явілася першым крокам да падзелу ўлад на заканадаўчую і выканаўчую. Другім крокам у гэтым накірунку было ўтварэнне выбарных, незалежных ад адміністрацыі судоў (раздз. 4 Статута).

***Арт. 7.*** Арышт і папярэдняе зняволенне аселага шляхціца да суда, як правіла, забараняліся. Выключэнне складалі выпадкі, калі ён быў затрыманы на месцы злачынства, якое магло карацца смерцю, ці яго злавілі як здрадніка, калі ён хацеў перабегчы да ворага.

***Арт. 8.*** Пацвярджае права паноў судзіць залежную ад іх служылую шляхту, за выключэннем спраў аб пазбаўленні шляхціца гонару, што належала да кампетэнцыі вялікага князя. Статут 1588 г. дапаўняе гэты артыкул палажэннем аб праве зацікаўленага боку на апеляцыйную скаргу.

***Арт. 9.*** Забараняе раздаваць маёнткі, землі, замкі, свецкія і духоўныя пасады, ганаровыя званні замежнікам (у тым ліку ура-

джэнцам Польшчы). Упершыню аналагічная норма выкладзена ў Казіміравым прывілеі 1447 г., а потым неаднаразова паўтаралася ў іншых прывілеях. Захавала сваю сілу і пасля Люблінскай уніі 1569 г., хаця і супярэчыла ёй. Замацавана была і ў Статуце 1588 г.

***Арт. 10.*** Замацаваў захаванне старых званняў і пасад Вялікага княства Літоўскага, што падкрэслівала самастойнасць і гістарычную пераемнасць дзяржавы «**водлѣ давного обычаю**».

***Арт. 11.*** Забараняе пазбаўленне пасадаў і дадзеных маёнткаў па завочнаму абвінавачванню. Падобная норма ўпершыню была запісана ў Аляксандравым прывілеі 1492 г.

***Арт. 12.*** Вялікі князь абавязваўся не адмяняць і не парушаць старыя законы і звычаі, а новыя выдаваць толькі сумесна з соймам і панамі-радай са згоды ўсіх зямель дзяржавы. Такім чынам падкрэслівалася, што ўжо меўся падзел уладаў і галоўным заканадаўчым органам прызнаваўся агульнадзяржаўны сойм.

***Арт. 13.*** Прывілей Казіміра 1447 г. дазваляў выязджаць за мяжу княжатам, рыцарам, шляхце і баярам. Тым жа самым асобам дазвалялася выязджаць і па Статуту 1529 г. Абласныя прывілеі Віцебскай і Полацкай зямлям дазвалялі выязджаць усім свабодным людзям гэтых зямель. Статут 1566 г. зняў усялякія абмежаванні, замацаваўшы права кожнага чалавека рыцарскага і «**всякого стану**» выязджаць за мяжу, чаго на самой справе ў феадальнай дзяржаве не было. Цікава, што ў гэтым артыкуле мэтай выязду былі: навука, «**у письмѣ ꙋвиченя**», лячэнне, чаго не было ў ранейшых актах.

***Арт. 14.*** Вызначае агульны прынцып на спадчыну пасля смерці бацькоў і іншых родзічаў і аб пераходзе вымарачнай маёмасці да вялікага князя. Першымі прававымі актамі, што замацоўвалі спадчыннае права, былі агульназемскія прывілеі 1387, 1413, 1447, 1492 гг., іншыя прывілеі і Статут 1529 г.

***Арт. 15.*** Забаранялася даваць простым людзям пасады, якія ставілі б іх начальнікамі над шляхтай. Упершыню падобная норма была запісана ў прывілеі 1492 г. У далейшым гэта дыскрымінацыйная норма была запісана ў Статуце 1588 г.

***Арт. 16.*** Вызначае парадак даказвання шляхецкай годнасці і прызнанне шляхцянкай простай жанчыны, якая выйшла замуж за шляхціца. Шляхецкая годнасць прыпынялася, калі шляхціц займаўся рамяством, гандлем, бо рамяство і гандаль — гэта заняткі простых людзей. Падобная норма мелася ў Статуце 1529 г.

***Арт. 17.*** Вызначае парадак прызнання шляхецкай годнасці чужаземца, што давала яму права набываць шляхецкі маёнтак і карыстацца ўсімі правамі шляхты, бо валодаць зямлёй з феадальна залежнымі сялянамі было манапольным правам шляхты.

***Арт. 18.*** Устанаўлівае пакаранне простых людзей (адразанне языка) за абазванне шляхціца нешляхціцам. Пазней Статут 1588 г. рэгламентуе біццё дубцамі каля ганебнага слупа.

***Арт. 19.*** Вызначае дадатковае пакаранне абвінавачанаму ў забойстве шляхціца ў тым выпадку, калі забойца аспрэчваў шляхецтва забітага.

***Арт. 20.*** Дазваляе сынам шляхціца, які займаўся рамяством ці гандлем, аднавіць сваю шляхецкую годнасць, пакінуўшы нешляхецкі занятак, і вярнуцца да рыцарскай службы. Артыкул сведчыць пра зараджэнне буржуазных адносін у нетрах феадалізму.

***Арт. 21.*** Права надання шляхецкай годнасці простым людзям належала толькі вялікаму князю. Яно было вельмі абмежаваным да 1775 г., калі мяшчанам было дазволена набываць шляхецкія маёнткі і атрымліваць шляхецкую годнасць.

***Арт. 22.*** Вызначае парадак разгляду ў судзе спраў аб знявазе шляхецкай годнасці іншым шляхціцам. Статут 1588 г. прадугледжваў за паўторнае знеслаўленне крымінальную адказнасць.

***Арт. 23.*** За знявагу шляхецкай годнасці прадугледжвалася акрамя матэрыяльнай санкцыі яшчэ маральнае задавальненне. Абвінавачаны ў знявазе павінен быў публічна прасіць у пакрыўджанага прабачэння і сказаць перад судом: **«въ томъ на тебе брехалъ якъ песъ»**. Калі хто адмаўляўся ад выканання такога прысуда, то павінен быў сядзець у турме да таго часу, пакуль гэтага не выканае.

***Арт. 24.*** Ад дзяржаўных павіннасцей і падаткаў вызваляліся ўсе прыватнаўласніцкія цяглыя людзі, якія плацілі падаткі сваім панам, за выключэннем некаторых старадаўніх павіннасцей на карысць вялікага князя і дзяржавы. Упершыню норма была выкладзена ў прывілеі 1434 г., а потым паўтаралася ў многіх агульназемскіх прывілеях.

***Арт. 25.*** Вызначае прававыя вынікі для служачага шляхціца (васала) і яго нерухомай маёмасці, калі ён пакідаў свайго пана (сеньёра) без яго дазволу. Ён караўся турэмным зняволеннем на чвэрць года. Падобная норма мелася ў Статуце 1529 г.

***Арт. 26.*** Забараняе разгляд свецкіх спраў у духоўных судах. Спробы парушыць гэта патрабаванне цягнулі для парушальнікаў пэўныя матэрыяльныя санкцыі. Падобная норма была ўключана ў Статут 1588 г.

***Арт. 27.*** Рэгламентуе парадак разгляду спраў паміж мяшчанамі і шляхтай. За злачынства віленскага мешчаніна супраць шляхціца павінен быў судзіць мешчаніна вайтоўска-лаўніцкі суд па магдэбургскаму праву, за злачынства супраць мяшчаніна, здзейсненае шляхціцам у Вільні, павінен быў судзіць замкавы суд **«правомъ земскимъ и статутомъ правъ посполитыхъ»**, а пры абвінавачванні шляхты мяшчанамі іншых гарадоў суд павінен быў іх судзіць **«водлугъ стародавного статуту Короля его милости Жикгимонта пана отца нашого»**, што супярэчыла артыкулу 1 раздзела 1 Статута 1566 г.

***Арт. 28.*** Забараняе мяшчанам гвалтоўна спаганяць даўгі з сялян, якія прыязджаюць на таргі. Яны павінны свае прэтэнзіі да сялян вырашаць у судзе іх паноў або мясцовай адміністрацыі. За парушэнне гэтага артыкулу ўстанаўліваецца пакаранне ў выглядзе грашовых штрафаў. Гэты артыкул сведчыць аб абароне таварна-грашовых адносін у дзяржаве, незалежна ад класавай, саслоўнай прыналежнасці чалавека.

***Арт. 29.*** Рэгламентуе шэраг пытанняў адносна пошукаў і звароту гаспадарам іх збеглых феадальна залежных людзей.

Больш поўна гэтыя пытанні выкладзены ў артыкулах 8—11 раздзела 12.

***Арт. 30.*** Устанаўлівае на ўсёй тэрыторыі дзяржавы адзіныя меры вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасцей. Эталонам павінна была служыць бочка, у якую ўваходзілі чатыры карцы, або чвэрці. За парушэнне гэтай нормы вінаватыя караліся штрафам у тры рублі.

***Арт. 31.*** Вялікі князь і іншыя саноўнікі не павінны былі прымусова аддаваць замуж княгінь, удоў, княжон, дзевак-шляхцянак і іншых вольных жанчын. Аналагічныя нормы меліся ў агульназемскіх прывілеях 1387, 1413, 1447 гг. і наступных прававых актах.

***Арт. 32.*** Бацькі пры жыцці не былі абавязаны ўступаць свае маёнткі дзецям, хіба што яны самі пажадалі іх перадаць.

***Арт. 33.*** Паводле Статута 1529 г., шляхціч мог распараджацца толькі трэцяй часткай свайго спадчыннага маёнтка, а таксама дзве часткі мог аддаць у заклад, каб потым сам або іншыя родзічы маглі

іх выкупіць. На Берасцейскім сойме 1 чэрвеня 1566 г. была прынята пастанова аб свабодным распараджэнні ўсімі маёнткамі незалежна ад спосабу іх набыцця, якая была ўключана ў Статут 1566 г. (раздз. 7, арт. 1.). Гэтым артыкулам быў пакладзены пачатак перарастання права феадальнай уласнасці на маёнткі, населеныя феадальна залежнымі людзьмі, у права буржуазнай уласнасці.

***Арт. 34.*** Шляхціц, які пажадаў падараваць або прадаць выслужаны маёнтак, павінен быў з'явіцца да вялікага князя і толькі з яго ведама аформіць такую здзелку. Але калі ў яго быў прывілей на права свабоднага распараджэння маёнткам, тады ён мог аформіць здзелку перад належнай мясцовай установай. Шляхце, якая валодала маёнткамі на ленным праве, гарантавалася захаванне іх правоў.

***Арт. 35.*** Шляхце дазвалялася дарыць або завяшчаць сваю маёмасць вялікаму князю. Такія акты афармляліся ў земскіх ці замкавых судах і запісваліся ў кнігі дзяржаўнай канцылярыі.

***Арт. 36.*** Права на валоданне маёнткамі, набытымі пры вялікіх князях Казіміру, Аляксандру, Жыгімонту Казіміравічу і Жыгімонту Аўгусту, замацоўвалася навечна нават у выпадку, калі ўладальнік не меў адпаведных дакуметаў. Аднак маёнткі, атрыманыя за выслугу ад князёў і паноў, маглі быць выпатрабаваны вярхоўнымі ўласнікамі. У такіх выпадках земская даўнасць не прымянялася.

***Арт. 37.*** Рэгламентуе парадак выпатрабавання маёнткаў, або залежных людзей, ці зямлі, дараваных вялікім князем, з незаконнага валодання (пры захопу).

***Арт. 38.*** Устанаўлівае іскавую даўнасць на нерухомую маёмасць у 10 год. Калі шляхціц набыў маёнтак і больш за дзесяць гадоў ім не валодаў, то ён траціў права вярнуць яго сабе па суду.

Артыкул вызначае паўналецце мужчын у 18 гадоў, а дзяўчын у 15 гадоў.

***Арт. 39.*** Вялікі князь і паны-рада за разгляд судовых спраў не мелі права браць судовыя пошліны і павінны былі ўсіх судзіць скора і справядліва. Упершыню падобная норма была ўнесена ў прывілей 1492 г. (арт. 28).

***Арт. 40.*** Забараняе праезжым людзям браць жыта або іншае збожжа, наносіць шкоду пасевам. Такі парушальнік чужой маёмасці павінен быў выплаціць усю шкоду і яшчэ заплаціць пацярпеламу штраф у тры рублі грошаў.

***Арт. 41.*** Вываз на продаж за мяжу дзяржавы ваеннага рыштунку і зброі забараняўся. Вінаватыя ў гэтым падлягалі пакаранню смерцю з канфіскацыяй прадметаў гандлю і ўсёй маёмасці.

## РАЗДЗЕЛ 4. АБ СУДДЗЯХ І СУДАХ

Прысвечаны судоваму ладу Вялікага княства Літоўскага, пытанням судаводства і некаторым палажэнням крымінальнага і грамадзянскага права. Замацоўвае прававое становішча суддзяў. Удакладняе і больш дэталёва рэгламентуе правядзенне судовай рэформы вызначанай Бельскім прывілеем 1564 г. Замацоўвае аддзяленне земскіх і падкаморскіх судоў ад адміністрацыі. Праводзіць размежаванне падсуднасці розных судоў. Вызначае асноўныя судовыя доказы.

Судовая рэформа XVI ст. унесла карэнныя змены ў судовы лад і судаводства. Пачатак судовым пераўтварэнням паклаў Статут 1529 г., які прадпісаў кожнаму ваяводу, старасце і дзяржаўцу ў сваім павеце выбраць двух зямян, прывесці іх да прысягі і даручыць сумесна з намеснікам ажыццяўляць правасуддзе пры адсутнасці ці занятасці ваяводаў, старастаў, дзяржаўцаў. Завяршылася судовая рэформа ўтварэннем Галоўнага суда (Трыбунала) Вялікага княства Літоўскага і выданнем Статута 1588 г.

***Арт. 1—3.*** Рэгламентуюць парадак выбрання кандыдатаў на пасады земскага суддзі, падсудка і пісара. Прыводзіцца тэкст прысягі якую яны прыносілі, заступаючы на пасаду. Акрэсліваецца іх прававое становішча і кампетэнцыя, парадак і памеры платы за ажыццяўленне правасуддзя.

***Арт. 4—6.*** Уводзіцца пасада вознага, які прызначаўся ваяводам з ліку мясцовых шляхціцаў для нагляду за парадкам у судах, выкананнем судовых рашэнняў і дапамозе судам у іх дзейнасці. Вызначаюцца яго правы і абавязкі, грашовая ўзнагарода за працу.

***Арт. 7.*** Прадпісвае, каб суддзя і падсудак земскага суда самі судзілі і толькі ў выпадку цяжкай хваробы маглі замест сябе прызначыць на час хваробы іншага шляхціца, які ведаў права і быў у тым жа павеце аселым. Такая ж замена суддзі або падсудка магла быць ў тым выпадку, калі хто-небудзь з іх быў накіраваны паслом ці выконваў іншыя дзяржаўныя даручэнні. У такім выпадку шляхціц, які замяняў суддзю, павінен быў прынесці адпаведную прысягу.

***Арт. 8.*** Не дазваляецца выбіраць на судовыя пасады духоўных асоб і служачых дзяржаўнага апарату, тым самым замацоўваецца незалежнасць земскага суда ад дзяржаўных органаў кіравання.

***Арт. 9.*** Рэгламентуецца парадак уручэння позваў (копія іска, павестка) адказчыку (абвінавачанаму), а таксама патрабаванні да іх афармлення і зместу.

***Арт. 10.*** Утрымлівае палажэнні аб дзяржаўнай павятовай пячатцы, а таксама аб пячатках суддзяў і падсудкаў, вызначае месца іх захоўвання і парадак ужывання. Больш дэталёва аб пячатцы з выявай герба Пагоні запісана ў Статуце 1588 г. (раздз. 4, арт. 12).

***Арт. 11.*** Рэгламентуе парадак вядзення і захавання актавых кніг у павятовых судах.

***Арт. 12.*** Вызначае прававыя вынікі для бакоў за няяўку ў суд без уважлівых прычын.

***Арт. 13.*** Вызначае асноўныя прычыны няяўкі адказчыка або абвінавачанага ў суд у сувязі з хваробай, агульным соймам і іншымі ўважлівымі прычынамі і прававыя вынікі такой няяўкі.

***Арт. 14.*** Вызначае прававыя вынікі пры няяўцы істца ў суд без уважлівых прычын.

***Арт. 15.*** Вызначае адказнасць бакоў за паўторнае прад'яўленне іску пасля страты справы або пасля міравога пагаднення.

***Арт. 16.*** Забараняе істцам у позвах ужываць зневажальныя і абразлівыя словы супраць адказчыкаў, за выключэннем разбояў, насілляў і іншых, дзе дазвалялася злачынствы называць сваімі імёнамі.

***Арт. 17.*** Рэгламентуе парадак яўкі ў суд асоб, якія маюць свае маёнткі ў розных паветах і якія выклікаюцца ў розныя суды на той жа час.

***Арт. 18.*** Аб падсуднасці спраў за злачынствы, учыненыя ў месцы знаходжання вялікага князя, і аб парадку разгляду спраў аб злачынствах супраць іншаземцаў. Такія справы павінны былі разглядацца неадкладна ў замкавым або вайтоўска-лаўніцкім судах.

***Арт. 19.*** Вызначае падсуднасць спраў па абвінавачванню іншаземцаў і мясцовых неаселых жыхароў, рэгламентуе парадак разгляду спраў у адносінах да слуг і феадальна залежных людзей. Упершыню права феадала судзіць сваіх залежных людзей было ўзаконена ў прывілеі 1447 г.

***Арт. 20, 21.*** Вызначаюць падсуднасць крымінальных спраў замкаваму суду, які мог дзейнічаць у вышэйшым складзе — ваяводы або старасты ці дзяржаўцы — і ніжэйшым складзе — намесніка ваяводы або старасты ці дзяржаўцы, суддзі і пісара. Заканадаўча замацоўвае інстанцыйны парадак разгляду спраў. Увядзенне ў склад ніжэйшага замкавага суда суддзі — прафесійнага юрыста сведчыць аб значным пашырэнні прававой адукацыі сярод шляхты, стабілізацыі заканадаўства.

***Арт. 22.*** Вызначае справы, якія павінны разглядацца неадкладна: 1) іскі аб узяцці грошай і вяртанні закладзенай маёмасці; 2) вяртанне бяспраўна захопленых маёнткаў; 3) вяртанне ўцёкшага слугі або нявольнага чалавека; 4) зварот незаконнага мыта; 5) іскі супраць асоб, якія перагарадзілі судаходныя рэкі; 6) іскі аб выплаце ў вызначаны тэрмін грошай па пісьмоваму абавязацельству; 7) іскі аб падзеле маёмасці паміж братамі і сёстрамі; 8) іскі да паручыцеляў.

***Арт. 23.*** Вызначае заганы ў позве-іску, якія дазваляюць адказчыку не адказваць па іску. Аднак калі б адказчык, жадаючы зацягнуць справу, сам падрабіў бы дату ў позве ці нешта іншае і гэта было б даказана, то ён павінен быў бы адказваць па іску і заплаціць істцу і суду пэўную суму грошай.

***Арт. 24.*** Позвы земскага суда з'яўляюцца сапраўднымі толькі для тых пасяджэнняў, для якіх яны выдадзены. Статут 1588 г. пашырыў гэта палажэнне і на замкавыя суды. (раздз. 4, арт. 43).

***Арт. 25.*** Вызначае радавую і тэрытарыяльную падсуднасць судоў і ўстанаўлівае адказнасць істца за парушэнне падсуднасці. Старанам дазвалялася ў асобных выпадках дамаўляцца аб змене падсуднасці.

***Арт. 26.*** Вызначае абавязак істца, які сам не меў аселасці і прад'явіў іск да аселага, пагадзіцца з патрабаваннем адказчыка ў выпадку сустрэчнага іску, які разглядаецца ў гэтым жа судзе.

***Арт. 27, 28.*** Рэгламентуюць тэрмін судовых пасяджэнняў земскіх судоў і тэрміны ўручэння позваў адказчыку. Земскі суд павінен быў разглядаць справы на трох сесіях, кожная з якіх павінна была адбывацца каля двух тыдняў.

***Арт. 29.*** Іск да феадальна залежных людзей, слуг, баяр, падданых належала прад'яўляць іх панам ці дваровай адміністрацыі. Адказ пана задаволіць іскавыя патрабаванні даваў істцу права звяртацца ў адпаведны суд з іскам супраць пана.

***Арт. 30.*** Вызначае правы і абавязкі бакоў у судзе. Яны мелі права даваць свае тлумачэнні, прад'яўляць суду доказы, радзіцца са сваімі дарадцамі і адвакатамі, для чаго рабіўся перапынак у пасяджэнні. Суд меў права абвясціць канчатковую пастанову па справе праз тры дні. Суддзі абавязаны былі судзіць толькі на падставе Статута.

***Арт. 31—33.*** Феадальнаму праву было ўласціва правіла, паводле якога старана ў працэсе магла быць заменена іншай асобай. Замяшчэнне дазвалялася як па грамадзянскіх, так і па крымінальных справах. Гэта парушала прынцып асабістай адказнасці, які абвяшчаўся ў прывілеі 1447 г. і ў многіх наступных актах, а таксама ў артыкуле 14 раздзела 1 гэтага Статута. Вядзенне справы магло быць даручана адвакату ці іншаму прадстаўніку істца або адказчыка, што афармлялася і сведчылася адпаведным чынам. Паводле Статута 1529 г., выступленне ў судзе на падставе фальсіфікаванага даручэння (калі справа была прайграна) цягнула для фальшывага прадстаўніка пакаранне смерцю (раздз. 6, арт. 9), а рашэнне суда адмянялася.

Калі старана па сваёй беднасці не магла наняць сабе адваката, суд павінен быў прызначыць ёй адваката бясплатна. Па Статуту 1588 г., адмова падпарадкавацца такому рашэнню давала права суду забараніць адвакату далейшую юрыдычную практыку ў гэтым судзе (раздз. 4, арт. 57). Заканадаўчае замацаванне ўдзелу адваката ў судовым працэсе ўпершыню было аформлена ў Статуце 1529 г.

***Арт. 34—37.*** Рэгламентуюць патрабаванні, што прад'яўляліся да дзейнасці адваката, яго прафесійнай і чалавечай годнасці, вызначаюць асновы адвакацкай этыкі і паводзін яго ў працэсе, а таксама адказнасць за вядзенне справы. Здрада адваката свайму даверніку каралася смерцю.

***Арт. 38—41.*** Вызначаюць парадак падчас працэсу і адказнасць удзельнікаў працэсу за парушэнне яго рэгламенту і судовай этыкі, за крымінальныя злачынствы ў месцы пасяджэнняў. Адказнасці за гэтыя дзеянні падлягалі таксама суддзі і прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі.

***Арт. 42.*** Вызначае паскораны парадак разгляду ў судзе спраў аб злачынствах, учыненых у месцы знаходжання суда да пачатку яго пасяджэнняў адносна людзей, якія прыехалі на суд.

***Арт. 43.*** Адказчыку ў судзе забаранялася зацягваць працэс іншымі справамі, што не адносіліся да іску, а суду забаранялася пры-

маць у час судовага разбору самастойнае сустрэчнае патрабаванне адказчыка да істца і дапускаць у працэс трэцюю асобу з самастойнымі патрабаваннямі.

***Арт. 44.*** Устанаўлівае парадак разгляду спраў па іскам за шкоду, што прычынілі феадальна залежныя людзі маёнтку, які належаў некалькім асобам.

***Арт. 45.*** Вызначае падсуднасць спраў толькі вялікакняжацкаму суду за крыўды, прычыненыя ваяводамі, старастамі, дзяржаўцамі. Артыкул устанаўлівае выключэнне з агульнага прынцыпу роўнага суда для ўсёй шляхты адносна прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі.

***Арт. 46.*** Рэгламентуе парадак разгляду іскаў, якія павінна прад'яўляць мясцовая адміністрацыя ў інтарэсах мяшчан гарадоў, якія не мелі магдэбургскага права, і людзей дзяржаўных маёнткаў — на выпадак прычынення ім крыўдаў і шкоды з боку шляхты, іх слуг і падданых.

***Арт. 47.*** Устанаўлівае парадак прад'ўлення іскаў ў земскія павятовыя суды мяшчанамі гарадоў з магдэбургскім правам да шляхты.

***Арт. 48.*** Рэгламентуе парадак судовага працэсу пры ўдзеле некалькіх саўдзельнікаў, якія выклікаліся ў суд да трох разоў, і ў выпадку няўкі каго-небудзь з іх ён мог страціць сваю частку. Выключэнне складалі выпадкі, калі саўдзельнік знаходзіўся за мяжой і не мог сваечасова з'явіцца ў суд.

***Арт. 49.*** З мэтаю прымусу выканання судовага рашэння даўжніком суд мог прызначыць яшчэ заруку, г.зн. пэўную суму грошай, апрача прысуджанай маёмасці, якая падлягала спагнанню з даўжніка, калі ён перашкаджаў выкананню судовага рашэння.

***Арт. 50.*** Вызначае прававыя вынікі і адказнасць стараны, якая імкнулася беспадстаўна аспрэчваць прысягу процілеглай стараны ці прад'ўляла новы іск пасля таго, як па суду нешта страціла.

***Арт. 51—56.*** У феадальным працэсуальным праве вялікая ўвага надавалася фармальнай тэорыі доказаў. Законам устанаўлівалася абавязковая сіла тых ці іншых доказаў. Так, рэгламентавалася, што сведкамі ў судзе могуць быць людзі хрысціянскай веры, добрасумленныя і непадазроныя. У артыкуле 3 раздзела 9 Статута гаварылася, што сведкамі не могуць быць татары і яўрэі, аднак спецыяльным прывілеем, выдадзеным у 1568 г., абмежаванне правоў татар скасоўвалася. Па Статуту 1588 г. (раздз. 9, арт. 14) прадугледжвалася,

што татары могуць выступаць сведкамі па спрэчках аб зямлі. Не маглі быць сведкамі нявольнікі, слугі за паноў сваіх, а ні супраць іх, а таксама асобы, юрыдычна зацікаўленыя ў выніках справы. Яўрэі маглі быць сведкамі па справах сваіх аднаверцаў. Паказанні сведкаў лічыліся дастатковымі, калі іх было трое, а калі іх было толькі двое, то «**въ недостатку третего самъ маеть присегнути**» (арт. 5 6). Па Статуту 1529 г., па справах аб зямельных маёнтках зацікаўленые бакі павінны былі выставіць па 18 сведкаў, а суд сам вызначаў, ісцец ці адказчык са сваімі шасцю сведкамі будзе прысягаць (раздз. 8, арт. 1).

***Арт. 57.*** Акрэслівае асноўныя пісьмовыя доказы і вызначае, што могуць прымяняцца і рэчавыя доказы.

***Арт. 58.*** Прадугледжвае асобны парадак разгляду спрэчак аб граніцах паміж дзяржаўнымі маёнткамі і шляхтай, для чаго ўтвараліся камісіі. Больш падрабязана аб камісарскіх судах напісана у артыкуле 83 раздзела 4 Статута 1588 г.

***Арт. 59.*** Устанаўлівае тэрміны грашовых плацяжоў у залежнасці ад сумы, прысуджанай судом, або згодна з пісьмовым запісам, калі ў ім быў указаны тэрмін плацяжу.

***Арт. 60.*** Вызначае прававое становішча палюбоўнага (трацейскага) суда і падкрэслівае абавязковасць яго рашэння, якое падлягала, пры неабходнасці, прымусоваму выкананню.

***Арт. 61.*** Пастановы земскіх, замкавых і падкаморскіх судоў маглі быць абскарджаны ў апеляцыйным парадку ў вялікакняжацкі суд як істцом, так і адказчыкам. Падача скаргі ў вялікакняжацкі суд прыпыняла выкананне судовага рашэння. Пасля ўтварэння ў 1581 г. Галоўнага суда (Трыбунала) Вялікага княства Літоўскага апеляцыя магла падавацца і ў гэты суд.

***Арт. 62.*** Рэгулюе парадак апелявання па справах, у якіх было некалькі істцоў ці суадказчыкаў, а потым адзін з іх або некалькі згадзіліся на міравое пагадненне.

***Арт. 63—65.*** Вызначаюць парадак разгляду спраў па апеляцыі і спраў, па якіх апеляцыя не дапускаецца: а) калі справа вырашана на падставе пісьмовага абавязку, сапраўднасць якога не аспрэчваецца; б) калі адказчык у судзе дабравольна пр ызнаў іск; в) па пабочных прычынах. Статутам 1588 г. быў зроблены больш дакладны пералік спраў, апеляцыі па якіх не дапускаліся (раздз. 4, арт. 88).

Заяву аб нязгодзе з судовым рашэннем істец або адказчык павінен быў зрабіць у той жа час у судзе. Пры падачы апеляцыі не дазвалялася прыбаўляць новыя доказы па справе.

***Арт. 66.*** Вызначае тэрмін іскавай даўнасці ў 10 гадоў для выпатрабавання нерухомай маёмасці.

***Арт. 67, 68.*** Выкананне судовага рашэння аб спагнанні прысуджанных грошай або перадачы маёнтка ў феадальным грамадстве выклікала значныя цяжкасці як для крэдытора, так і для суда. Калі даўжнік супраціўляўся выкананню, то прадугледжвалася нават скліканне шляхецкага апалчэння «**яко на войну**» для асады і штурму двара або замка крэдытора.

***Арт. 69.*** Вызначае парадак вяртання маёнтку, які быў гвалтоўна захоплены. Такая справа павінна была вырашацца неадкладна службовымі асобамі замкавага суда.

***Арт. 70.*** Для вырашэння спрэчак аб межах землеўладанняў Статутам прадугледжвалася ўтварэнне ў кожным павеце падкаморскага суда, галоўнай асобай у гэтым судзе быў падкаморы. Па Статуту 1588 г. падкаморы прызначаўся вялікім князем з чатырох кандыдатаў, выбраных шляхтай на павятовым сойміку. Яго памочнікам быў каморнік (землямер), які прызначаўся падкаморыям з мясцовай шляхты. Па даручэнню падкаморыя некаторыя справы мог разглядаць каморнік.

## РАЗДЗЕЛ 5. АБ ПРАВЕ ПАСАГУ

***Арт. 1, 2.*** Артыкулы раздзелу ўстанаўліваюць парадак выдачы пасагу, яго велічыню і спосабы забеспячэння. Муж абавязваўся запісаць жонцы вена, кошт якога павінен быў складаць адну трэцюю частку кошту ўсіх яго маёнткаў і ўдвая перавышаць кошт пасагу.

***Арт. 3.*** Артыкул рэгламентуе парадак выдачы пасагу дочкам пасля смерці іх бацькі. У гэтым выпадку выкананне функцый бацькі ўскладалася на брата. Калі бацька яшчэ пры жыцці выдаў адну з некалькіх дачок замуж, брат пасля смерці бацькі, пры недахопе сродкаў, адпаведных пасагу выдадзенай замуж сястры, павінен быў ацаніць маёнтак бацькі і выдзяліць чацвёртую частку яго кошту ўсім сёстрам у роўных долях.

***Арт. 4, 5.*** Артыкулы датычацца права ўласнасці ўдоў. Гаворка ідзе аб бяздзетных удовах і ўдовах, маючых дзяцей. Калі ва ўдавы былі паўналетнія дзеці, то ў яе пасля смерці мужа заставалася

толькі вена, а маёмасць памершага пераходзіла да дзяцей. У выпадку, калі ўдава была бяздзетнай, яна таксама атрымоўвала вена, а маёмасць мужа пераходзіла да яго блізкіх сваякоў.

***Арт. 6.*** Артыкул змяшчае важнае палажэнне аб вайсковай службе ў Вялікім княстве Літоўскім. Кожны, хто ажаніўся ў Княстве і атрымліваў такім чынам разам з жонкай маёнтак, быў абавязаны асабіста несці земскую вайсковую службу. Такое ж правіла распаўсюджвалася і на другіх асоб мужчынскага полу, маючых маёнткі. Адмова ад вайсковай службы цягнула за сабой страту як уласных маёнткаў, так і маёнткаў жонкі, якія пераходзілі да дзяржавы.

***Арт. 7.*** Пры ўзяцці шлюбу дзяўчынай прадугледжвалася атрыманне ёю дазволу бацькоў. Калі дачка брала шлюб без іх дазволу, то яна пазбаўлялася пасагу, а таксама маёнткаў бацькі і маці.

***Арт. 8.*** Для таго, каб узяць шлюб, часам патрабавалася атрымаць згоду трэціх асоб і нават уладаў. Калі непаўналетняя дзяўчына заставалася без бацькі ці маці і брала шлюб без згоды братоў і дзядзькаў, а пры іх адсутнасці — іншых бліжэйшых родзічаў ці апекуноў, яна пазбаўлялася пасагу, маёнтка і навогул усіх спадчынных правоў.

Паўналетняя дзяўчына (15 гадоў) таксама не мела права ўзяць шлюб, не атрымаўшы згоды братоў і дзядзькаў. Але ёй дазвалялася звярнуцца з гэтым пытаннем да ўладаў. Атрымаўшы згоду ўладаў, яна магла ўзяць шлюб, але толькі са шляхціцам. У гэтым выпадку за ёй захоўваўся пасаг і маёнтак.

***Арт. 9.*** У артыкуле вызначалася доля дзяцей, якія нарадзіліся ад розных маці, у спадчыннай маёмасці бацькі, абумоўліваўся памер маёмасці, якую атрымлівала ўдава пасля смерці мужа, і рэгламентаваліся маёмасныя адносіны дзяцей і мачахі, калі апошняя зноў брала шлюб.

***Арт. 10.*** Калі пасля смерці мужа ўдава прымала на сябе абавязкі апекуна непаўналетніх дзяцей, то ўся маёмасць апошніх кіравалася і ахоўвалася ёю. Аднак калі ўдава выконвала свае апякунскія абавязкі неналежным чынам, г.зн. размарноўвала маёмасць непаўналетніх дзяцей, і гэта было даказана ва ўрадзе земства дзядзькам ці другім блізкім родзічам дзяцей, яна вызвалялася ад выканання абавязкаў апекуна, а ўся маёмасць і самі дзеці перадаваліся родзічам або іншым апекунам. Страчаная частка маёмасці павінна быць кампенсавана.

***Арт. 11.*** Дадзены артыкул тычыцца толькі жанчын шляхецкага паходжання. Ім забаранялася браць шлюб з прадстаўнікамі іншых саслоўяў. У выпадку парушэння зазначанага прадпісання яны пазбаўляліся ўсіх маёнткаў, як бацькі, так і маці, аднак атрымоўвалі за іх грашовую кампенсацыю.

***Арт. 12.*** Артыкулам устанаўліваюцца тэрміны, на працягу якіх жанчыне забаранялася браць шлюб пасля смерці мужа. Мэта гэтых тэрмінаў — устанаўленне паходжання дзіцяці. Іх працягласць складала 6 месяцаў. За парушэнне зазначанай забароны жанчына пазбаўлялася вена ад папярэдняга шлюбу. У выпадку адсутнасці такога вена яна павінна была заплаціць у дзяржаўную казну штраф — дванаццаць рублёў грошаў.

***Арт. 13.*** У артыкуле гаворыцца аб парадку наследавання дзецьмі маёмасці бацькоў.

Рухомую і нерухомую маёмасць маці ў роўных долях прымалі ў спадчыну ўсе дзеці, як сыны, так і дочкі. Што тычыцца маёмасці бацькі, то яна пераходзіла толькі да сыноў або да блізкіх **«по мечу»**. Дочкі ад спадчыннай маёмасці бацькі адхіляліся.

***Арт. 14.*** Артыкул устанаўлівае роўныя правы ўсіх сыноў шляхціца, хаця і народжанных ад розных маці, на маёнтак іх бацькі.

***Арт. 15.*** Тут замацоўваюцца маёмасныя правы ўдавы, якая брала шлюб, у прыватнасці, абумоўліваецца яе доля ў маёмасці другога мужа, якая засталася пасля яго смерці.

***Арт. 16.*** Артыкул устанаўлівае забарону на адчужэнне маёнтка жонкі, атрыманага ёю ў якасці вена. Толькі асабістая яе заява аб гэтым магла змяніць юрыдычны лёс такога маёнтка.

***Арт. 17.*** У выпадку смерці замужняй бяздзетнай жынчыны «ўнясенне», атрыманае ёю ў пасаг, пераходзіла да яе бацькоў, а пры іх адсутнасці — родным братам, пры ўмове, што гэтае «ўнясенне» яна нікому не завяшчала. Калі ў памёршай была незамужняя сястра, тады «ўнясенне» пераходзіла не братам, а гэтай сястры.

***Арт. 18.*** Артыкул не ўтрымлівае пераліку падстаў, пры наяўнасці якіх шлюб мог быць скасаваны. У ім толькі ў агульнай форме гаворыцца, што скасаванне шлюбу выконваецца духоўным судом **«водлѣ правъ нашихъ хрестіянскихъ»**. У выпадку прызнання вінаватым у скасаванні шлюбу мужа, жонка заставалася на апраўе, ад яго апісанай. А калі аказвалася вінаватай жонка, то яна губляла ўнясенне і аправу. Муж захоўваў за сабой прывенак, а жонка — унясенне

тады, калі скасоўваўся шлюб, узяты з парушэннем устаноўленых умоў.

## РАЗДЗЕЛ 6. АБ АПЕКАХ

Сваё заканадаўчае афармленне ў Статуце 1566 г. атрымаў і інстытут апекі.

***Арт. 1.*** Апека ўстанаўлівалася над непаўналетнімі асобамі мужчынскага полу ва ўзросце да 18 гадоў, жаночага — да 15 гадоў у выпадку смерці іх бацькоў. Адна з галоўных мэтаў апекі — ахова пакінутай без належнага нагляду маёмасці.

***Арт. 2.*** У артыкуле замацоўваецца парадак ажыццяўлення бацькоўскай апекі над маёмасцю непаўналетніх дзяцей, пакінутай пасля смерці іх маці. Да дасягнення паўналецця дзяцей бацька-апякун не меў права распаражацца гэтай маёмасцю. Калі ён парушаў дадзеную забарону і перадаваў каму-небудзь маёнтак ці рухомую маёмасць, якая належала непаўналетнім дзецям, то апошнія, дасягнуўшы паўналецця, маглі прад'яўляць іскі на гэтую маёмасць да новага ўласніка. Аналагічнае правіла дзейнічала і ў адносінах маёмасці, якую непаўналетнія дзеці набывалі самі і перадавалі ў кіраванне бацькам.

У выпадку, калі пад апекай бацькоў знаходзіліся некалькі непаўналетніх дзяцей і адзін з іх дасягаў паўналетняга ўзросту, ён атрымліваў сваю частку маёмасці, роўную долям другіх непаўналетніх.

***Арт. 3.*** Выкананне функцый органаў апекі ўскладалася на апекуноў. У артыкуле пералічваюцца асобы, якія маглі быць апекунамі. Гэта, перш за ўсё, асобы, прызначаныя бацькам у завяшчанні. Калі бацька не ўказаў апекуна, то апякунскія абавязкі павінен быў выконваць старэйшы паўналетні брат. Калі не было брата, тады да апекі прызываўся дзядзька або другія блізкія сваякі **«по мечу»**. У тым выпадку, калі і іх не аказвалася, дапускалася прыцягненне ў якасці апекуноў асоб па жаночай лініі (**«по кудели»**).

***Арт. 4.*** Артыкул вызначае правы і абавязкі апекуноў. У прысутнасці зазначаных у законе асоб апякун павінен быў скласці вопіс маёмасці падапечнага. Затым вопіс рэгістраваўся ў земскай кнізе, выпіска з якой выдавалася на рукі апекуну, пасля чаго ён мог прыступаць да выканання сваіх абавязкаў.

***Арт. 5, 6.*** Ў артыкулах 5 і 6 замацоўвалася палажэнне, адпаведна якому падапечныя, дасягнуўшыя паўналецця, мелі права самі звяртацца з іскам у суд аб пакрыцці ўрону, нанесенаму іх маёмасці другімі асобамі, у тым ліку і самімі апекунамі. Пры гэтым патрабавалася захаванне аднаго важнага правіла — існец не павінен быў прапусціць тэрміны іскавай даўнасці.

***Арт. 7.*** Артыкул забараняе судам разглядаць іскі аб запатрабаванні маёмасці падапечных да дасягнення імі паўналецця.

***Арт. 8.*** Артыкул замацоўвае выключэнне з агульнага правіла, утрымліваемага ў артыкуле 7, і ўстанаўлівае выпадкі, калі непаўналетнія дзеці абавязаны былі праз сваіх прадстаўнікоў адказваць па іскавым патрабаванням: 1) калі маёнтак быў закладзены кім-небудзь з бацькоў; 2) калі бацька да сваёй смерці паручаўся ў якой-небудзь справе; 3) па спрэчках, звязаных са спадчынай бацькі; 4) па даўгах свайго бацькі.

***Арт. 9.*** Устанаўлівае парадак кіравання сумеснай нерухомай маёмасцю неразделенымі братамі і замацоўвае іх правамоцтвы адносна гэтай маёмасці.

***Арт. 10, 11.*** Апекунам забаранялася прадаваць, змяняць межы або якім-небудзь іншым спосабам вырашаць лёс даверанага ім маёнтка.

У адваротным выпадку дзеці, дасягнуўшы паўналецця, мелі права праз суд выпатрабаваць свае маёнткі, аднак ад іх патрабавалася не прапусціць пры гэтым тэрмін іскавай даўнасці і інш.

***Арт. 12.*** Апекунам забаранялася пагашаць свае асабістыя даўгі за кошт маёнтка падапечных.

***Арт. 13.*** Артыкул вызначае кола асоб (правапераемнікаў), якія абавязаны былі абараняць у судзе інтарэсы непаўналетніх дзяцей у выпадку смерці апекуна.

## РАЗДЗЕЛ 7. АБ ЗАПІСАХ І ПРОДАЖАХ

У раздзеле ўтрымліваюцца ў асноўным нормы грамадзянска-працэсуальнага права. Маюць месца і нормы грамадзянскага права. Артыкулы падрабязна рэгламентуюць парадак афармлення здзелак з нерухомай маёмасцю, пазыковых абавязацельстваў, дагавораў куплі-продажу, дарэння, мены, закладу і інш. Вызначаюцца тэрміны іскавай даўнасці, гаворыцца аб форме здзелак, умовах іх сапраўднасці і г.д.

***Арт. 1.*** Здзелкі з нерухомай маёмасцю заключаліся ў пісьмовай форме і абавязкова рэгістраваліся ў судовых актавых кнігах. У адрозненне ад Статута 1529 г., які рэгламентаваў права феадалаў свабодна распараджацца трэцяй часткай нерухомасці (раздз. 1, арт. 15), Статут 1566 г. замацаваў норму аб неабмежаваным распараджэнні землеўладаннямі. Упершыню гэта норма была прынята Берасцейскім соймам у чэрвені 1566 г. Яна сведчыла аб павелічэнні правоў саслоўя шляхты.

***Арт. 2.*** Новы артыкул, які звязаны з узнікненнем земскіх судоў. Закон патрабуе здзелкі з нерухомасцю абавязкова рэгістраваць у земскіх судах. Запісы ж, якія былі зроблены ў замкавых судах, павінны пераносіцца на працягу года ў кнігі земскіх судоў.

***Арт. 3, 4.*** Рэгламентуецца парадак продажу або залогу маёнтка.

***Арт. 5.*** Новы артыкул, у якім гаворыцца аб праве кожнага феадала куплены або выслужаны маёнтак прадаць, дараваць, завяшчаць любой асобе, аднак пры ўмове абавязковага аб'яўлення аб гэтым князю ці земскаму суду і запісу ў судовых кнігах.

***Арт. 6.*** У друкаваным выданні Статута 1855 г. адсутнічае.

***Арт. 7.*** Артыкул забараняе рабіць завяшчальныя запісы адносна маёмасці, якой чалавек не валодае, аднак спадзяецца, што яна яму прыбудзе.

***Арт. 8.*** Гаворыцца аб выпадку паўторнага распараджэння маёмасцю. Замацоўваецца законнасць першага запісу адносна распараджэння маёмасцю на выпадак смерці.

***Арт. 9.*** Норма дапаўняе папярэдні артыкул: добраахвотны запіс рухомай маёмасці або пэўнай сумы грошай на карысць іншай асобы застаецца ў законнай моцы.

***Арт. 10.*** Рэгламентуецца парадак і чарговасць спагнання доўгу з нерухомай маёмасці, а таксама тэрмін іскавай даўнасці па гэтых справах.

***Арт. 11.*** Паўтараецца артыкул аб парадку прад'яўлення іску ў выпадку сумеснага валодання маёнткам.

***Арт. 12.*** Упершыню вызначаецца парадак і чарговасць спагнання доўгу з закладзенай маёмасці.

***Арт. 13.*** Гаворыцца аб парадку разгляду спраў аб закладзенай маёмасці ў выпадку яе перазаклада іншаму залогатрымальніку на большую суму грошай.

***Арт. 14, 15.*** Артыкул 5 адпаведнага раздзела Статута 1529 г. падзелены на два асобныя артыкулы, у якіх гаворыцца аб тым, што іскавая даўнасць не пашыраецца на заклад. Рэгламентуецца парадак вяртання атрыманай пад заклад сумы грошай і парадак увядзення ва ўладанне ўласным маёнткам пры наступленні абумоўленага дагаворам тэрміну.

***Арт. 16.*** Як у папярэднім Статуце, рэгламентуецца канчатковы тэрмін разгляду спраў аб закладзе пад пагрозай страты права на іск.

***Арт. 17.*** Новы артыкул, які вызначае парадак афармлення права ўласнасці на рухомую рэч у выпадку яе закладу на пэўны тэрмін пад умовай страты.

***Арт. 18.*** Замацоўваецца палажэнне, адносна якога сваякі мелі права выкупу закладзенага маёнтка пры неплацёжаздольнасці ўласніка. Толькі пасля таго, як на працягу года сваякі не змаглі выкупіць нерухомасць, яна заставалася залогатрымальніку.

***Арт. 19.*** Упершыню вызначаюцца крымінальныя санкцыі за безпадстаўнае адняцце закладзенага маёнтка з залежнымі людзьмі.

***Арт. 20, 21.*** Новыя артыкулы, якія рэгламентуюць парадак закладу рухомай маёмасці і прычыны страты права ўласнасці на яе. У асобную норму вылучаны заклад каня або вала з вызначэннем адказнасці за іх гібель.

***Арт. 22, 23.*** Новыя палажэнні, якімі вызначаюцца падставы адказнасці пры знішчэнні закладзеных (або зберагаемых) рэчаў. Вызначаецца парадак разгляду прэтэнзій адносна закладзенай маёмасці.

***Арт. 24.*** Новы артыкул аб парадку доказвання выпадковага знішчэння пісьмова аформленых запісаў аб пазыковых абавязацельствах.

***Арт. 25.*** Рэгламентуецца пісьмовая форма пазыковых абавязацельстваў на суму звыш дзесяці коп грошаў (капа — 60 грошаў).

***Арт. 26.*** Упершыню гаворыцца аб пісьмовай форме, з абавязковай рэгістрацыяй у спецыяльных кнігах, дагавору пазыкі для гараджан.

## РАЗДЗЕЛ 8. АБ ТЭСТАМЕНТАХ (ЗАВЯШЧАННЯХ)

Права на спадчыну ў старажытнасці рэгламентавалася звычаем. Спадчынныя нормы мы знаходзім у першых пісаных помніках права феадальнай Беларусі. Напрыклад, яны маюць месца ў дагаво-

ры 1229 г. паміж Смаленскім, Полацкім, Віцебскім княствамі з рыжскімі і нямецкімі купцамі. У заканадаўстве Вялікага княства Літоўскага XIV—XVI стст. нормы спадчыннага права атрымалі далейшае развіццё. Як самастойны інстытут грамадзянскага права яны вылучаны ў Статутах. У Статуце 1529 г. артыкулы, якія прысвечаны пытанням спадчыны, уключаны ў раздзелы 4 і 5. Упершыню ў Статуце 1566 г. з'явіўся асобны раздзел «Аб тэстаментах», хаця некаторыя нормы спадчыннага права размешчаны і ў іншых раздзелах.

***Арт. 1.*** Норма мае даволі старажытнае паходжанне, аб чым сведчыць устойлівае кола асобаў, якія пазбаўлены права рабіць завяшчальныя запісы (арт. 14, раздз. 5 Статута 1529 г.).

***Арт. 2.*** Рэгламентуецца парадак афармлення завяшчанняў духоўнымі і свецкімі асобамі.

***Арт. 3.*** Паўтараюцца палажэнні аб асобах, якія не могуць быць сведкамі пры складанні завяшчанняў. Дадаткова гаворыцца аб парадку афармлення завяшчанняў у надзвычайных умовах (на вайне, у дарозе і інш.).

***Арт. 4.*** Новы артыкул, які забараняе завяшчаць маёмасць халопу без папярэдняга афармлення вольнай.

***Арт. 5.*** Упершыню рэгламентуецца парадак афармлення завяшчанняў людзьмі простага стану.

***Арт. 6.*** Новы артыкул, які рэгламентуе падставы для прызнання завяшчанняў несапраўднымі.

***Арт. 7.*** Упершыню пералічваюцца прычыны, на падставе якіх бацька мог пазбавіць дзяцей спадчыны. Пазней у Статуце 1588 г. гаварылася таксама і аб маці.

***Арт. 8.*** Новая норма, у якой рэгламентуецца парадак афармлення завяшчанняў сляпым чалавекам.

## РАЗДЗЕЛ 9. АБ ПРАВАХ ЗЕМСКІХ

Адным з галоўных правоў феадалаў з'яўлялася права на зямельную ўласнасць. Статут гарантуе гэта права і замацоўвае парадак судовай абароны права на нерухомасць.

***Арт. 1.*** Амаль даслоўна паўтараецца тэкст артыкула 1 раздзела 8 Статута 1529 г. аб працэсуальным парадку абароны ад пасягальніцтва на зямельную ўласнасць.

***Арт. 2.*** Рэгламентуюцца працэсуальныя тэрміны разгляду зямельных спрэчак, прычыны адтэрміноўкі іх разгляду, працэсуальныя гарантыі належнага разгляду справы і інш.

***Арт. 3.*** Паўтараюцца палажэнні папярэдняга Статута аб тым, што сведкамі па зямельных спрэчках не павінны быць татары і яўрэі, а толькі хрысціяне — каталікі або праваслаўныя. Аднак прывілеям 1568 г. дазволена татарам выступаць сведкамі ў судах.

***Арт. 4, 5.*** Паўтараюцца палажэнні аб парадку прадстаўлення сведак у судзе, прывядзенні іх да прысягі і аб штрафных санкцыях для тых бакоў, якія наўмысна зацягвалі справу і безпадстаўна давалі адвод сведкам.

***Арт. 6.*** Упершыню рэгламентуецца асаблівы парадак доказу права ўласнасці на адрубныя землі.

***Арт. 7.*** Замацоўваецца працэсуальны парадак і тэрміны разгляду зямельных спрэчак.

***Арт. 8.*** Упершыню гаворыцца аб пэўных працэсуальных гарантыях справядлівага разгляду справы ў выпадку, калі ў зямельнай спрэчцы адным з бакоў з'яўляецца мясцовая службовая асоба. Закон забараняе прадстаўляць сведкамі асоб з гэтай жа мясцовай адміністрацыі.

***Арт. 9.*** Паўтараецца норма аб адказнасці за пашкоджанне або знішчэнне межавых знакаў.

***Арт. 10.*** Паўторна рэгламентуецца парадак сумеснага валодання ляснымі ўгоддзямі.

***Арт. 11.*** У асноўным паўтараюцца палажэнні аб парадку ўстанаўлення межаў тых землеўладанняў, граніцай паміж якімі была рака. Вызначаецца больш павышаная адказнасць у выпадку наўмыснага змянення рэчышча ракі з мэтай павелічэння землеўладання.

***Арт. 12.*** Больш падрабязна гаворыцца аб працэсуальным парадку абароны права зямельнай уласнасці (затапленне сенажацяў) у выпадку парушэння гэтага права шляхам пабудовы на рацэ млына.

***Арт. 13, 14.*** У асноўным паўтараюцца нормы, якія абараняюць права ўласнасці на зямлю пры самавольным пасеве жыта або яго захопе. Маюць месца пэўныя адрозненні ад Статута 1529 г. Напрыклад, гаворыцца аб разглядзе такой спрэчкі ў земскім судзе, аб правядзенні следчых дзеянняў возным (а не віжам) і інш.

***Арт. 15.*** Больш падрабязна гаворыцца аб працэсуальных дзеяннях судовага выканаўцы ў выпадку супраціўлення выкананню пастановы суда аб увядзенні ў валоданне нерухомай маёмасцю.

***Арт. 16.*** Як і ў папярэднім Статуце, гаворыцца аб разглядзе зямельных спраў у гаспадарскім судзе або у судзе паноў-рады пры згодзе абодвух бакоў, а таксама аб парадку трымання спрэчнага маёнтку службовымі асобамі князя.

***Арт. 17.*** У асноўным паўтараюцца палажэнні аб парадку валодання братамі (іншымі родзічамі) сумеснай маёмасцю, парадку падзела зямлі і іскавай даўнасці па гэтых спрэчках.

***Арт. 18.*** Упершыню артыкул быў уведзены як дапаўненне да Статута 1529 г. У працэсе запрыгоньвання сялян абмяжоўваецца іх права ўласнасці на зямлю. Закон забараняе без згоды феадала-уладальніка купляць зямлю ў залежных людзей.

***Арт. 19.*** Артыкул упершыню ўведзены як дапаўненне да Статута 1529 г. Ён сведчыць аб актыўным працэсе запрыгоньвання сялян.

***Арт. 20.*** Новы артыкул у статутавым заканадаўстве, хаця палажэнні яго маюць вельмі старажытнае паходжанне. Гаворыцца аб тым, што палова знойдзенага на чужой зямлі скарбу перадаецца ўласніку зямлі, аднак пры наўмысным пошуку скарбу ён перадаецца гаспадару поўнасцю.

***Арт. 21.*** Новы ў статутавым заканадаўстве артыкул, хаця парадак праезду іншаземных купцоў па тэрыторыі Беларусі рэгламентаваўся з самых старажытных часоў нормамі звычаёвага права, што ў далейшым знайшло адлюстраванне ў першых пісаных помніках права (напрыклад, у дагаворы 1229 г.). Развіцце гандлёвых адносін у Вялікім княстве Літоўскім патрабавала пэўных прававых гарантый захаванасці тавараў, якія перавозілі купцы. Заканадаўча замацоўваецца права ўласнасці купца на тавар, які быў вынесены з затануўшага карабля на чужы бераг.

***Арт. 22.*** Абавязак утрымання дарог у належным стане вызначаўся звычаёвым правам, што пазней знайшло адлюстраванне ў Судзебніку 1468 г. Упершыню ў заканадаўстве вызначаюцца габарыты дарог і правілы дарожнага руху: хто першы (вершнік, воз парожні або з грузам) і ў якім выпадку павінен саступіць дарогу і інш. Гаворыцца таксама аб падсуднасці разгляду такіх спрэчак.

## РАЗДЗЕЛ 10. АБ ЛОВАХ, АБ ПУШЧАХ І АБ ДРЭВЕ БОРТНЫМ

Старажытныя промыслы насельніцтва Беларусі — паляванне, рыбалоўства, бортніцтва — рэгламентаваліся нормамі звычаёвага права, якія пазней увайшлі ў першыя пісаныя законы Вялікага княства Літоўскага. Гэтыя нормы атрымалі развіццё ў граматах (прывілеях) дзяржавы. У Статуце 1529 г. адведзены цэлы раздзел прававым нормам адносна лясных промыслаў (раздз. 9). Палажэнні гэтага раздзела атрымалі далейшае развіццё ў Статуце 1566 г.

***Арт. 1.*** Паўтораны палажэнні аб забароне палявання на чужой тэрыторыі пад пагрозай штрафу. Асоба, якую злавілі з рэчавымі доказамі — **«надъ звѣремъ убитымъ»**, лічылася злодзеем і каралася смерцю.

***Арт. 2.*** Цэны на дзікіх жывел з цягам часу змяняліся. У адрозненне ад Статута 1529 г. павялічылася цана за аленя і лань з 3 грошаў на 6, за серну — з поўкапы на капу грошаў, за рысь — з рубля на 3 рублі грошаў.

***Арт. 3.*** Паўтораны палажэнні аб парадку карыстання ўласнымі борцямі, азёрамі і сенажацямі, якія былі размешчаны ў чужых лясах. Вытокі сервітутнага права, якому прысвечаны гэты раздзел, маюць месца ў старажытным звычаёвым праве, з якім павінен быў лічыцца заканадаўца.

***Арт. 4.*** У асноўным паўтараюцца палажэнні Статута 1529 г. Замацоўваюцца штрафныя санкцыі за лоўлю рыбы ў чужым возеры, за пакос чужой сенажаці.

***Арт. 5.*** Рэгламентуецца парадак адняцця ляснога дабра і спагнання штрафу з асобы, якая яго брала самавольна ў чужым лесе.

***Арт. 6.*** Паўтораны палажэнні аб сервітутах — праве карыстання ўласнымі борцямі ў чужым лесе, у тым ліку аб праве сялян аддаваць у пасаг сваім дочкам бортныя дрэвы. Артыкул дапоўнены жорсткай санкцыяй — смяротным пакараннем адносна залежнага насельніцтва за самавольную перадачу ў чужыя рукі бортных дрэваў.

***Арт. 7.*** Рэгламентуецца крымінальная адказнасць за пашкоджанне або знішчэнне чужой маёмасці: млына, грэблі, рыбы ў возеры і інш. У адрозненне ад папярэдняга Статута не гаворыцца аб выплаце штрафа князю.

***Арт. 8, 9.*** Артыкулы сведчаць аб заканадаўчай ахове жывельнага свету ад драпежніцкага знішчэння. У параўнанні са Статутам

1529 г. за знішчэнне сакалінага або лебядзінага гнязда штрафы паменшаны, адносна палявання на чужых баброў — засталіся папярэднімі.

***Арт. 10—12.*** Рэгламентуецца крымінальная адказнасць за пашкоджанне чужых хмелішчаў і птушыных прынад. У параўнанні з папярэднім Статутам штрафы паменшаны.

***Арт. 13.*** Больш падрабязная дыферэнцыяцыя мер пакарання з павышанымі штрафнымі санкцыямі за пашкоджанне бортнага дрэва.

***Арт. 14.*** Рэгламентуецца адказнасць за крадзеж пчол. У дапаўненне да папярэдняга Статута гаворыцца аб павышанай адказнасці злачынцы, якога злавілі з рэчавымі доказамі.

***Арт. 15.*** Падрабязна гаворыцца аб адказнасці за парубку чужога лесу.

***Арт. 16.*** У асобны склад злачынства вылучаны садовы крадзеж (пладоў і дрэваў).

***Арт. 17.*** Упершыню рэгламентуецца адказнасць за ўчыненне ляснога пажару. Гаворыцца аб тым, што лясныя пажары прычыняюць вялікую шкоду птушкам, пчолам і звярам, і таму пры належных доказах злачынца караецца «горлам». Норма мела важнае прыродаахоўчае значэнне.

## РАЗДЗЕЛ 11. АБ ГВАЛТАХ І АБ ГАЛОЎШЧЫНАХ ШЛЯХЕЦКІХ

У раздзеле вызначаецца адказнасць за здзяйсненне цяжкіх крымінальных злачынстваў: наездаў, разбояў, забойстваў, згвалтаванняў, цялесных пашкоджанняў і інш. Акрамя крымінальных нормаў, у раздзеле значнае месца займаюць працэсуальныя нормы, якімі рэгламентуецца парадак расследавання злачынстваў, умовы пошуку і прад'яўлення неабходных доказаў па справах і г.д. Асаблівая ўвага надаецца інстытуту неабходнай абароны, памерам і парадку спагнання галоўшчыны за забойства асобы шляхецкага стану.

***Арт. 1.*** Наезд (або яго разнавіднасць — наход) з'яўляўся адным з цяжкіх крымінальных злачынстваў, за здзяйсненне якога рэгламенталася суровае пакаранне, аж да смяротнай кары. Наезд уяўляў сабой конны напад (наход — пешы напад) на феадальнае ўладанне, спалучаны з гвалтам (часам забойствам), пашкоджаннем або захопам маёмасці. Упершыню склад гэтага злачынства вызнача-

ны Судзебнікам 1468 г., аднак санкцыя не прадугледжвала пэўнага пакарання, гаварылася толькі, што вялікі князь з радай будуць судзіць злачынцу. Пазней у шэрагу артыкулаў раздзела 7 Статута 1529 г. рэгламентавалася даволі суровае пакаранне за наезд.

***Арт. 2.*** Больш падрабязна, чым у першым Статуце, вызначаецца парадак доказу факту наезда, гаворыцца аб відах доказаў і мерах пакарання ў залежнасці ад наступстваў злачынства і іншых абставін.

***Арт. 3.*** Упершыню ў асобны склад злачынства вылучаны наход на царкву. Пакаранне вызначалася ў асноўным па аналогіі з наездам — **«яко вышей о кгвалтовникахъ описано»**.

***Арт. 4.*** Больш падрабязна рэгламентуецца парадак спагнання галоўшчыны і панесенай ад разбойнага нападу шкоды з маёмасці забойцы, які ўцёк за межы дзяржавы. Як і раней, забойства такой асобы не цягнула пакарання.

***Арт. 5.*** Першая частка артыкула амаль даслоўна паўтарае артыкул 30 раздзела 7 Статута 1529 г. аб укрывальніцтве злачынцаў, пакаранне за якое залежала ад цяжкасці злачынства і катэгорыі злачынцаў. Так, асобы, што хавалі злачынцаў, а таксама тыя, хто **«речей злодейскихъ вѣдомо пожывалъ»** (закон не удакладняў, якіх менавіта «речей» і што азначае «**пожывалъ**»), караліся смерцю, як і сам злачынца.

Новыя палажэнні артыкула гаварылі аб праве пацярпеўшых шукаць злачынцу шляхам вывешвання ў людных месцах пастаноў аб асобах злачынцаў і аб аб'яўленні іх па-за законам.

***Арт. 6, 7.*** Стан неабходнай абароны, добра вядомы Статуту 1529 г., з'яўляўся падставай для выключэння злачыннага характара дзеяння. Закон лічыць правамернай абарону не толькі гаспадаром свайго домаўладання, але і яго госцем; не гаворыць аб суразмернасці абароны характару і небяспецы злачыннага замаху, аднак рэгламентуе некаторыя працэсульныя асаблівасці расследавання такіх спраў, якія з'яўляюцца падставамі правамернасці неабходнай абароны. Так, ён патрабуе неадкладнага паведамлення бліжэйшым суседзям пра забойства нападаючай асобы, вызначае парадак пацвярджэння стану неабходнай абароны.

***Арт. 8.*** Паўтараюцца палажэнні артыкула 6 раздзела 7 Статута 1529 г. аб згвалтаванні жанчын. Дапаўняльна да смяротнай кары ўводзіцца штраф адпаведна сацыяльнаму стану пацярпеўшай.

***Арт. 9.*** Новы артыкул, які абараняе гонар жанчыны. У выпадку выкрадання жанчыны без яе згоды з мэтай узяцця за жонку злачынца караўся смерцю, а трэцяя частка яго маёмасці ішла ў якасці кампенсацыі пацярпеўшай. Акрамя таго, спаганяліся і іншыя страты.

***Арт. 10.*** Новы артыкул, якім забойства жонкі мужам ці мужа жонкай залічвалася да абцяжарваючых віну абставін і пры належных доказах цягнула смяротнае пакаранне.

***Арт. 11.*** Для наяўнасці такога складу злачынства, як **«похвалка»**, дастаткова было выяўленне злачыннай волі ў форме пагрозы. У параўнанні з папярэднім Статутам закон больш увагі надае працэсуальным асаблівасцям доказаў такіх злачынстваў, адрознівае **«похвалку»**, якую выказаў **«оселый»** чалавек і **«не оселый»**, і інш.

***Арт. 12.*** Першая спроба рэгламентацыі меры пакарання ў залежнасці ад ступені ўдзелу ў злачынстве зроблена ў артыкуле 8 раздзела 7 Статута 1529 г., дзе гаварылася аб аднолькавай адказнасці ўсіх саўдзельнікаў-шляхціцаў за забойства, аднак з прадугледжваннем кары для аднаго злачынцы, якога пацярпеўшы бок выбіраў паводле прынцыпу: за адно забойства — адно смяротнае пакаранне. Новым было палажэнне, якім забаранялася караць смерцю больш сямі простых людзей за забойства шляхціца ці шляхцянкі. Упершыню гаварылася аб турмах (перш за ўсё земляных — **«вкопаны мѣти глубоко шесть сажонъ у земли»**) і аб пэўным рэжыму ўтрымання зняволеных.

***Арт. 13.*** Параўнальна з папярэднім Статутам павышана адказнасць за цялесныя пашкоджанні ў залежнасці ад іх цяжкасці. Так, упершыню за самыя цяжкія цялесныя пашкоджанні рэгламентавалася выплата галоўшчыны як за забойства, прычым за жанчын-шляхцянак у двайным памеры (**«совито»**).

***Арт. 14.*** Новы ў заканадаўстве артыкул, якім вызначаўся парадак пацвярджэння шляхецкага стану.

***Арт. 15.*** Яркі прыклад класавага падыходу да вызначэння меры пакарання. Мешчанін за цяжкія цялесныя пашкоджанні мог быць пакараны па прынцыпу «вока за вока, зуб за зуб» або смерцю. Аднак у выпадку, калі гараджанін займаў пасаду бурмістра, ён караўся толькі штрафам.

***Арт. 16, 17.*** Злачынствам з абцяжарваючымі віну абставінамі лічылася забойства блізкіх родзічаў. Папярэдні Статут толькі вызначаў, што забойцы бацькоў падлягалі смяротнай кары і ганьбаванню

(арт. 14, разд. 7). Услед за рымскім правам Статут 1566 г. зацвердзіў кваліфікаваную і ганебную форму смяротнай кары для забойцаў і іх памагатых. Упершыню гаварылася аб турэмным зняволенні на адзін год і шэсць тыдняў і царкоўным пакаянні для бацькоў, якія забілі сваіх дарослых дзяцей.

Артыкул аб забойстве брата ці сястры з мэтай атрымання спадчыны паўтарае папярэдняе заканадаўства з рэгламентацыяй смяротнага пакарання і дапаўняў, што гэта адносіцца і да забойства шурына або іншага «далекого въ роду» чалавека.

***Арт. 18.*** Новая норма аб адказнасці слугі за забойства або параненне свайго пана. Нават падняцце зброі супраць пана цягнула адсячэнне рукі.

***Арт. 19.*** Больш дакладна выкладзена норма аб вызваленні ад адказнасці асобы, якая знаходзілася ў стане неабходнай абароны пры разбойным нападзе на дарозе.

***Арт. 20.*** Як і ў папярэднім Статуце, гаворыцца аб адказнасці гаспадара дамаўладання за злачынства, якое зроблена на падуладнай яму тэрыторыі ў адносінах да іншай асобы і аб праве гаспадара шукаць злачынцу і спаганяць страты.

***Арт. 21—23.*** Паўтараюца нормы аб адказнасці за наезд на маёнтак і сяло, «кгвалтъ посполитый сусѣдскій», разбой на дарозе.

***Арт. 24, 25.*** Новыя артыкулы, якія рэгламентуюць парадак спагнання галоўшчыны братамі за забойства бацькі ці брата, а таксама ў некаторых выпадках — сёстрамі ці іншымі родзічамі.

***Арт. 26.*** Паўтараюцца палажэнні аб парадку спагнання навязкі за цялесныя пашкоджанні двух асоб у выпадку іх бойкі і немагчымасці вызначыць вінаватага. Артыкул дапоўнены палажэннем аб парадку спагнання галоўшчыны ў выпадку смерці абодвух. Рашэнне суда магло быць вырашана шляхам жэрабя.

***Арт. 27.*** Больш падрабязна, у параўнанні з папярэднім Статутам, гаворыцца аб сварцы ў вячэрні час, калі немагчыма вызначыць вінаватага ў прычыненні ран або смерці. Адказнасць ускладалася на таго, хто ў памяшканні патушыў свечку перад пачаткам сваркі ці падчас бойкі. Дапоўнена палажэннем, што пасля адбыцця пакарання асуджаны мае права шукаць сапраўды вінаватага.

***Арт. 28.*** Юрыдычна больш дакладна выкладзены артыкул аб адказнасці за ненаўмыснае прычыненне ранення. Новае палажэнне тычыцца разгляду такіх спраў па аналогіі з папярэднім артыкулам.

***Арт. 29.*** Далейшае развіццё атрымала норма, якой прызнаецца стан неабходнай абароны і вызваляецца ад адказнасці слуга, які забіў ці параніў каго-небудзь пры абароне свайго пана. Адказнасць спадала на пана.

***Арт. 30.*** Больш падрабязней гаворыцца пра парадак адказнасці за злачынства чыйго-небудзь слугі.

***Арт. 31.*** Упершыню ў заканадаўстве рэгламентуецца парадак расследавання спраў аб забойстве чалавека **«перехождчаго або безплеменнаго»**. Цяжкасць разгляду такіх спраў пазней у Статуце 1588 г. прымусіла заканадаўцаў больш увагі надаць гэтай норме: з улікам судовай практыкі былі дэталізаваны ранейшыя палажэнні і ўведзены новыя.

***Арт. 32.*** Рэгламентуе тэрмін даўнасці прыцягнення да крымінальнай адказнасці. У адрозненне ад адпаведнага артыкула Статута 1529 г., дзе гаварылася аб трох і дзесяці гадах, замацоўваецца толькі трохгадовы тэрмін.

***Арт. 33.*** У сувязі з заканадаўчай рэгламентацыяй статуса шляхты і актыўнай абаронай асобы шляхціца вызначаецца права памілавання злачынцы-шляхціца па просьбе **«знакомитыхъ»** асоб, але агаворваецца, што такі чалавек траціць гонар і **«не маеть большей привильевъ шляхецскихъ уживати»**.

***Арт. 34.*** Паўтараецца норма, якой робіцца спроба адмяжаваць забойства ад цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія мелі наступствам смерць пацярпеўшага.

***Арт. 35.*** Упершыню асобнай нормай прадугледжваецца адказнасць гаспадара дома за бяспеку сваіх гасцей (**«званыхъ яко и незваныхъ»**), а таксама за здзейсненыя ў адносінах да іх злачынствы. Вызначаецца парадак доказу віны па такіх справах.

## РАЗДЗЕЛ 12. АБ ГАЛОЎШЧЫНАХ І НАВЯЗКАХ ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ

Раздзел прысвечаны, ў асноўным, такім відам маёмасных спагнанняў, як галоўшчына і навязка, якія прызначаліся ў якасці як асноўных, так і дапаўняльных пакаранняў і спаганяліся на карысць сваякоў пацярпеўшых. Упершыню асобны раздзел, прысвечаны такім відам пакарання, з'явіўся ў Статуце 1529 г. Там жа былі артыку-

лы, якія рэгламентавалі становішча феадальна-залежнага насельніцтва.

***Арт. 1.*** Вызначаюць памер галоўшчыны людзей простага стану, некаторых службовых асоб і рамеснікаў. У параўнанні з папярэднім Статутам памер крымінальных штрафаў павялічыўся.

***Арт. 2.*** Рэгламентуюцца памеры галоўшчыны і навязкі цівунам, ключнікам, войтам, старцам і іншым сельскім службовым асобам. Цікавым з'яўляецца тое, што ў артыкуле гаворыцца аб магчымасці знаходжання на такіх пасадах нявольніка, якому памер галоўшчыны скарачаўся напалову, а навязкі — у тры разы. У выпадку, калі пасаду займаў шляхціц, галоўшчына прызначалася адпаведна яго шляхецкага стану.

***Арт. 3.*** Асобным артыкулам рэгламентуюцца галоўшчыны і навязкі рамеснікам, прычым вызначаецца іх розны памер (вышэйшы і ніжэйшы) адпаведна двум катэгорыям, на якія падзяляюцца рамеснікі. Да першай, больш важнай катэгорыі, належылі залатары, арганісты, пушкары, маляры, сакольнікі, краўцы і інш., да другой — дойліды, кавалі, ганчары, муляры, шаўцы і г.д. Адзначаецца, што тым рамеснікам, якія не ўказаны ў артыкуле, галоўшчына павінна прызначацца як дойліду (г.зн. адпаведна другой, ніжэйшай катэгорыі). Жонкам рамеснікаў галоўшчына і навязка прызначаліся ў двайным памеры.

***Арт. 4—6.*** Зафіксаваны некаторыя абмежаванні і ў адносінах да яўрэяў. Вызначана, якую вопратку яны маглі насіць. Забаранялася нехрысціянам трымаць у няволі хрысціян. Памер крымінальных штрафаў у адносінах да татар залежаў ад іх службовага становішча. Татары, якія мелі нерухомасць і неслі ваенную службу, прыроўніваліся да шляхты.

***Арт. 7.*** Забараняе караць вольных людзей пераўтварэннем іх у вечных нявольнікаў. Павялічваецца памер адпрацоўкі наступстваў злачынства.

***Арт. 8, 9.*** Гаворыць аб тэрмінах і парадку выпатрабавання сялян-вотчычаў, якія адышлі ад свайго пана.

***Арт. 10.*** Рэгламентуе парадак вышуку і звароту збеглай чэлядзі.

***Арт. 11, 12.*** Сведчыць аб адмоўных адносінах заканадаўцы да становішча няволі. Вольны чалавек, які ў перыяд голаду прадаў сябе ў няволю (самапродаж), мог вярнуць сабе стан свабоды пасля

звароту адпаведнай сумы грошай. Калі гаспадар выгнаў з дому сваю чэлядзь нявольную ў перыяд голаду, яна станавілася вольнай.

***Арт. 13.*** У параўнанні з папярэднім Статутам абмяжоўваюцца крыніцы папаўнення нявольнікаў, не гаворыцца аб такой крыніцы, як замена смяротнага пакарання на няволю.

***Арт. 14.*** Рэгламентуе парадак пошуку і прадстаўлення ў суд слугі, які прычыніў шкоду пану і збег ад яго.

## РАЗДЗЕЛ 13. АБ ГРАБЯЖАХ І НАВЯЗКАХ

Маёмасныя злачынствы ўпамінаюцца ў першых пісьмовых крыніцах права. Упершыню ў Статуце 1529 г. з'явіўся раздзел XII «**О грабежохъ и о навезкахъ**», палажэнні і артыкулы якога перапрацаваны і дапоўнены ў раздзеле 13 Статута 1566 г.

Артыкулы раздзела прысвечаны ў асноўным грабяжу — аднаму з відаў маёмасных злачынстваў. Тэрмін «**грабежъ**» заканадаўца выкарыстоўвае ў сэнсе завалодання чужой маёмасцю, пры гэтым адрознівае «**правный врядовый грабежъ**» — завалоданне маёмасцю на падставе судовага рашэння — ад злачыннага замаху на чужую маёмасць. Часам у аб'ектыўны бок злачыннага дзеяння ўключаецца і насілле над асобай, тым самым заканадаўца выразна не адрознівае грабеж ад разбою.

Статут вылучае некалькі складаў злачынства: грабеж статка жывёл, належачых прадстаўнікам саслоўя шляхты, грабеж залежных людзей (слуг), грабеж «**при костеле, на торгу або на поли**» і інш. Пры грабяжы хатняй жывёлы заканадаўца часцей за ўсё абмяжоўваецца выплатай навязкі: «**коня конемъ, вола воломъ, а корову коровою... навезавши маеть отдати**» (арт. 4, 6), аднак абавязковым элементам адказнасці з'яўляецца вяртанне захопленай маёмасці (або яе кошту) і кампенсацыя шкоды. У некаторых выпадках прадугледжваецца выплата штрафу за насілле: «**кгвалтъ заплатити дванадцать рублей грошей**» (арт. 2). У сувязі з кампенсацыяй прычыненай шкоды Статут рэгламентуе кошт хатняй жывёлы, птушак, збожжа (арт. 7—12), што стварала палёгку суду пры вызначэнні памеру кампенсацыі шкоды. У параўнанні з папярэднім Статутам цана на хатнюю жывёлу ўзрасла, на птушак — засталася ў асноўным на тым жа ўзроўні. Упершыню закон рэгламентаваў і кошт збожжа (арт. 11). Асобнымі артыкуламі прадугледжваецца адказнасць за нанясенне фізічнай шкоды

чалавеку ў выпадку нацкоўвання на яго сабакі, а таксама за прычыненне якой-небудзь шкоды хатняй жывёлай (арт. 13, 14).

***Арт. 1.*** У параўнанні са Статутам 1529 г. палажэнні артыкула набылі больш абагулены, юрыдычны характар, штраф за грабеж коней паменшыўся, прычым прызначаецца ён не толькі ў выпадку, калі злачынец коней «**уморилъ**», але і «**охромилъ**». Аб сялянскіх конях у дадзеным артыкуле ўжо не гаворыцца.

***Арт. 2.*** Як і ў папарэднім Статуце, забараняецца захоп чужога табуна пры патраве. Аднак, магчыма ў сувязі са шматлікасцю такіх правапарушэнняў і складанасцю разгляду спраў у судзе, больш падрабязна гаворыцца аб парадку забеспячэння доказаў аб патраве (асведчанне людзьмі «**добрыми сторонними**» самога табуна на патраве і колькасці патравы). Акрамя таго, гаворыцца, што гэта не тычыцца простых коней, валоў, кароў, свіней, гусей, якія могуць па звычаёваму праву ўтрымлівацца пацярпеўшым да разгляду справы на копным судзе; рэгламентуецца перыяд, калі кожнае «**быдло**» можа вольна пасвіцца без пастуха; вызначаецца тэрмін іскавай даўнасці па такіх справах — да свята «**Божъего нароженья**».

***Арт. 3.*** Паўтараюцца палажэнні папярэдняга Статута аб пакаранні за захоп шляхецкіх коней «**при костелѣ на торгу або на поли**». У якасці санкцыі прызначаецца кампенсацыя прычыненай шкоды і навязка, прычым не гаворыцца, як у папярэднім Статуце, аб канкрэтнай суме — «дванадцать рублёў грошай як за раны».

***Арт. 4.*** Даслоўна пададзены артыкул 4 раздзела XII Статута 1529 г. з патрабаваннем вызвалення княжацкіх, панскіх і шляхецкіх коней з бяспраўнага затрымання (грабяжу) пад пагрозай наступнай навязкі: вяртання не толькі захопленага каня, але і дапаўняльна каня правапарушальніка.

***Арт. 5.*** Амаль даслоўна паўтараюцца палажэнні артыкула 7 раздзела XII Статута 1529 г. аб пошуку збеглых нявольных людзей (чэлядзі нявольнай). У два разы павялічваецца кампенсацыя за кармленне нявольніка ў перыяд яго знаходжання ў іншай асобы.

***Арт. 6.*** З адпаведнымі дапаўненнямі, у некалькі іншай рэдакцыі падаецца артыкул 5 раздзела XII папярэдняга Статута, прычым павялічваецца штраф за грабеж шляхціцам чужых людзей. Артыкул дапоўнены новым складам злачынства — грабяжом простых людзей («**А мужыкъ мужыка пограбилъ**»).

***Арт. 7, 8.*** Упершыню вызначаецца кошт рабочых коней, а таксама кошт буйной і дробнай хатняй жывёлы.

***Арт. 9, 10.*** Як і ў папярэднім Статуце, вызначаецца кошт дамовых і паляўнічых птушак, які ў старажытны перыяд рэгламентаваўся звычаёвым правам. Паляванне з дапамогай прыручаных і вымуштраваных драпежных птушак было адной з улюбёных забаў феадалаў. Кошт гэтых птушак быў даволі высокім і з цягам часу змяняўся.

***Арт. 11.*** Новы артыкул, якім вызначаецца кошт хлебных злакаў.

***Арт. 12.*** Упершыню артыкул аб кошце паляўнічых сабак, якія з'яўляліся неабходнай прыналежнасцю паляўнічага промыслу, з'явіўся у Статуце 1529 г. У асноўным кошт іх не змяніўся, аднак пералік назваў паляўнічых сабак менш.

***Арт. 13.*** Адказнасць за нанясенне фізічнай шкоды чалавеку шляхам нацкоўвання на яго сабакі ўпершыню вылучана ў самастойны склад злачынства Статутам 1529 г., прычым прадугледжвалася матэрыяльная адказнасць пацярпелага за забойства сабакі ў выпадку, калі непасрэднай неабходнасці ў гэтым не было (калі ён «**пса умысльнѣ а не отъ руки забилъ**»). У дадзеным артыкуле ўдакладняецца, што наўмыснае забойства сабакі караецца штрафам адпаведна папярэдняму артыкулу, за выключэннем забойства «**отъ руки кіемъ або якою бронею**».

***Арт. 14.*** Адказнасць за учыненую хатняй жывёлай шкоду ўпершыню вызначана папярэднім Статутам. Артыкул толькі ўдакладняе, што матэрыяльная адказнасць наступае, калі гаспадар не жадаў такога «**быдляти стеречи а пса на привези мѣти**», а таксама пры наяўнасці належных доказаў прычыненай шкоды.

## РАЗДЗЕЛ 14. АБ КРАДЗЯЖУ, ЗДЗЕЙСНЕНЫМ ЛЮДЗЬМІ РОЗНАГА СТАНУ

Артыкулы раздзела накіраваны ў асноўным на абарону феадальнай уласнасці ад такога віда злачынства, як крадзеж маёмасці. Галоўная ўвага надаецца працэсуальным нормам, якія рэгламентуюць парадак прыцягнення да адказнасці злодзея. Яны грунтуюцца на звычаёвым праве і папярэднім заканадаўстве дзяржавы — граматах, Судзебніку 1468 г. Упершыню цэлы раздзел «О злодзействе» з'явіўся ў Статуце 1529 г.

***Арт. 1.*** Затрыманага з крадзенымі рэчамі залежнага чалавека закон патрабуе адвесці спачатку да яго пана, а калі той адмовіцца

судзіць, справа перадаецца ў мясцовы суд. Рэгламентуецца таксама парадак спагнання страт ад крадзяжу ў выпадку ўцёкаў злодзея.

***Арт. 2.*** Новы артыкул, які рэгламентуе парадак абвінавачвання злодзея, калі ён быў злоўлены на гарачым учынку або з крадзенымі рэчамі. Закон спрабуе працэсуальнымі сродкамі забяспечыць асобу ад безпадстаўнага абвінавачвання ў злачынстве. Адно з самых прагрэсіўных палажэнняў Статута гаворыць аб тым, што суд павінен у сумніцельных выпадках схіляцца да вызвалення абвінавачанага.

***Арт. 3.*** З мэтай перасцярогі магчымай куплі крадзеных рэчаў закон рэгламентуе прысутнасць сведкаў (барышнікаў) пры куплі хатняй жывёлы і іншай маёмасці.

***Арт. 4.*** Крадзеж быў адным з найбольш пашыраных і даволі жорстка каральных відаў злачынства, аб чым сведчаць самыя старажытныя помнікі права. Заканадаўства Вялікага княства Літоўскага паступова абмяжоўвае пакаранне смерцю за крадзеж на падставе кошта крадзенай маёмасці. Калі паводле Судзебніка 1468 г. смяротная кара рэгламентавалася за крадзеж маёмасці на суму звыш паўкапы (трыццаці) грошаў, то ў дадзеным артыкуле гаворыцца аб палове рубля грошаў, а за меншую суму крадзяжу ў якасці меры пакарання належала лупцаваць дубцамі каля ганебнага слупа. У выпадку ж рэцыдыва, калі злодзея злавілі з доказамі злачынства, прадугледжвалася смяротнае пакаранне.

***Арт. 5.*** Рэчавыя доказы (**«лицо»**) со старажытных часоў лічыліся самымі пераканаўчымі, асабліва па справах аб крадзяжу маёмасці. Новы артыкул рэгламентуе парадак правядзення вобыску, пошуку і сведчання рэчавых доказаў. Перш за ўсё закон патрабаваў прысутнасці познага і **«людей посторонныхъ вѣры годныхъ маючи»** г.зн. панятых.

***Арт. 6.*** **«Гоненье следомъ»** было вядома яшчэ Рускай Праўдзе. Пошук злодзея па яго слядах ажыццяўляўся па звычаёваму, т.зв. копнаму праву. Увядзенне ў Статут нормы аб копным судзе сведчыць аб тым, што заканадаўца спрабуе ўвесці яго дзейнасць у межы закона.

***Арт. 7.*** У адносінах да крадзяжу, які быў здзейснены шляхціцам, закон рэгламентуе асаблівы парадак доказу як гарантыю супраць неабгрунтаванага абвінавачвання. Тры артыкулы папярэдняга Статута аб'яднаны ў адзін.

***Арт. 8.*** Упершыню у законе гаворыцца аб узросце крымінальнай адказнасці. Асобам, якія здзейснілі злачынства ва узросце да

14 гадоў, нават калі іх злавілі з рэчавымі доказамі, «**не маеть быти поличоно за злодѣйство**», аднак іх бацькі павінны былі кампенсаваць шкоду. Толькі ў выпадку рэцыдыву суд меў права пакараць злачынцу.

***Арт. 9.*** Упершыню закон упамінае так званыя чорныя кнігі, у якіх запісваліся абвінавачванні ў крадзяжу.

***Арт. 10.*** Як і ў папярэднім Статуце, вызначаецца адказнасць (пакрыццё ўсіх страт ад злачынства) за хаванне злодзеяў і патуранне ім.

***Арт. 11.*** Адпаведна ранейшаму заканадаўству рэгламентуецца павышаная адказнасць за крадзеж маёмасці з месцаў сховішчаў маёмасці — свірна або клеці.

***Арт. 12.*** Рэгламентуюцца дапаўняльныя гарантыі для асоб, якія раней не абвінавачваліся ў злачынстве, і вызначаецца парадак расследавання спраў у выпадку, калі былі знойдзены ў доме рэчавыя доказы.

***Арт. 13.*** Прынцып індывідуальнай адказнасці асобы за здзейсненае злачынства быў замацаваны ў заканадаўчых актах XV ст. (грамата 1447 г., Судзебнік 1468 г.). Усе Статуты Вялікага княства Літоўскага дэкларавалі асабістую адказнасць злачынцы, а не яго сям'і (у выпадку, калі члены сям'і не мелі дачынення да злачынства).

***Арт. 14.*** Простага чалавека пры абвінавачванні ў крадзяжы маглі аддаць на катаванне з мэтай дабіцца прызнання, аднак калі ён раней лічыўся прыстойнай асобай, катаваць яго можна было толькі аднойчы. Падазронага чалавека можна было катаваць тры разы на дзень, аднак без калецтва.

***Арт. 16.*** Саўдзельнікі разбою і крадзяжу караліся як і непасрэдныя выканаўцы. У параўнанні з папярэднім Статутам замацоўваюцца больш значныя гарантыі супраць безпадстаўнага абвінавачвання ў злачынстве.

***Арт. 17, 18.*** У выпадку, калі шляхціц абвінаваціў простага чалавека ў злачынстве без дастатковых доказаў, падазроны меў пераважнае права на прынясенне ачышчальнай прысягі. Пры паўторным абвінавачванні падазроны караўся як злодзей (новае палажэнне).

У адносінах да абвінавачвання шляхціца закон быў вельмі мяккі: нават за «**причиною слушною**» толькі за чацвёртым разам ён мог быць пакараны адпаведна сваёй віны і ўчынку.

***Арт. 19.*** Забойства злодзея на так званым гарачым учынку дазвалялася яшчэ Рускай Праўдай. Каб пазбегнуць самасуду над злодзеем, Статут 1529 г. вызначыў парадак засведчання законнасці яго забойства або нанясення ран. У дадзеным артыкуле больш падрабязна гаворыцца аб гэтым. Дапаўняльна рэгламентуецца тэрмін утрымання злодзея ва ўласным доме. Парушэнне тэрміна або самавольнае катаванне вяло да крымінальнага штрафа.

***Арт. 20.*** Паўтараецца артыкул аб павышанай і асаблівай адказнасці (адразанне вушэй або смяротная кара) за крадзеж, які быў здзейснены на вялікакняжацкім двары.

***Арт. 21.*** Асобы, дзейнасць якіх не знаходзілася ў прычыннай сувязі са злачынным вынікам, хаця яны ведалі аб злачынстве, як правіла, не караліся, аднак сям'я злодзея павінна была пакрыць шкоду (нават шляхам выдачы ў няволю на адпрацоўку) пры ўмове карыстання крадзенай маёмасцю.

***Арт. 22.*** Са старажытных часоў крадзеж лічыўся цяжкім злачынствам і жорстка караўся, прычым пры наяўнасці рэчавых доказаў, як правіла, смерцю. Заканадаўства Вялікага княства Літоўскага паступова абмяжоўвае прымяненне смяротнай кары на падставе пэўнага кошта крадзенай маёмасці, аднак гэта не тычылася «важных рэчаў», аб якіх гаворыцца ў артыкуле — срэбра, коней добрых і інш. Яны вярталіся ўладальніку, а злодзей караўся павешаннем.

***Арт. 23.*** Такая форма датычнасці да злачынства, як укрывальніцтва злачынцаў, каралася, як правіла, штрафам. У артыкуле гаворыцца аб абавязку гаспадара дому шукаць і прад'яўляць у суд тых злачынцаў, якім ён даваў прытулак.

***Арт. 24.*** Як і ў папярэднім Статуце, прысваенне прыблуднай хатняй жывёлы (блудзяг) прыроўнівалася да крадзяжу.

***Арт. 25.*** Упершыню рэгламентуюцца спецыяльныя правілы даказвання, а таксама падсуднасць і адказнасць пры крадзяжы збожжа і сена з лугоў.

***Арт. 26.*** Упершыню ўводзіцца ў заканадаўства новы склад злачынства — крадзеж рыбы з чужога вадаёма.

***Арт. 27.*** Новы артыкул засцерагае ад утайвання маёмасці, якая знойдзена падчас пажару ці караблекрушэння, пад пагрозай выплаты чатырохкратнага кошта маёмасці і абвінавачвання ў крадзяжы.

*Арт. 28.* Пры прыватным абвінавачванні ўпершыню гаворыцца аб працэсуальных сродках як умовах дысцыплінаванасці ўдзельнікаў працэсу (у дадзеным артыкуле істца).

*Арт. 29.* Артыкул сведчыць аб паступовым запрыгоньванні простага насельніцтва. Пад пагрозай штрафу забараняецца выкраданне вотчынных людзей і чэлядзінцаў.

*Арт. 30.* Новы артыкул, у якім гаворыцца аб працэсуальным парадку абвінавачвання ў цяжкіх злачынствах, за якія закон прадугледжвае смяротнае пакаранне. Заканадаўца спрабуе прадугледзець розныя выпадкі абвінавачвання ў злачынстве. Безпадстаўнае абвінавачванне ў дзяржаўным злачынстве, як правіла, не цягнула адказнасці той асобы, якая высунула абвінавачванне.

## 3.7. ДА ДАДАТКА СТАТУТА

Шматлікія нормы і палажэнні Статута 1566 г., пры параўнанні іх з папярэднім Статутам 1529 г., сведчаць аб прагрэсіўным накірунку развіцця заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Заканадаўца нават палічыў неабходным змясціць у якасці дадатка да Статута 1566 г. узоры найбольш патрэбных, на яго погляд, юрыдычных дакументаў: дагавору дарэння мужам жонцы рухомых рэчаў; дагавору мены шляхецкай маёмасці; дагавору валодання сямейнай маёмасцю ў выпадку смерці мужа (жонкі) да моманта смерці жонкі (мужа); завяшчальнага запісу жонцы на права валодання маёмасцю з мэтай выплаты з той маёмасці пэўнай сумы доўгу; дагавору дарэння маці ўласным дзецям маёмасці і інш.




**Барбара Радзівілл**

Icones Familiae Ducalis Radivilianae ex originalibus in Janzophylacio ordinationis desumptae. Petropoli: Denio veteribus tabulis aencis axpressae cura I. Iversenii, 1875. 29 l.

***АБАРОНА ЗЕМСКАЯ,*** абарона дзяржавы, яе зямель у выпадку нападу. У старажытнасці абавязак абараняць сваю бацькаўшчыну ўскладаўся на ўсіх мужчын, якія былі здольныя насіць зброю. Так, у грамаце вялікага князя Ягайлы 1387 г. было запісана, што пры ўзнікненні неабходнасці бараніць сваю зямлю будзе склікацца ўсенароднае апалчэнне, якое па-народнаму называецца пагоняй і тады «павінны збірацца ня толькі рыцары, але і кожны мужчына, якога б ён не быў паходжання або стану, толькі б быў здольны насіць зброю». З развіццём дзяржавы, удасканальваннем ваеннай тэхнікі воінская павіннасць стала абавязковай для баяр-шляхты, якія мелі зямельныя ўладанні, а таксама для часткі мяшчан і сялян. Аб гэтым гаворыцца ў другім раздзеле Статута 1566 г. і пастановах (уставах) сойма 1502, 1507, 1514 і іншых гадоў.

***АБОЗНЫ***, службовая асоба ў войску, якая выконвала абавязкі кватэрмайстра: разбіўка ваеннага лагера, арганізацыя яго побыту і аховы.

***АБРАЖАННЕ МАЯСТАТУ*** (ад лац. *majestas* — вялікасць, гонар), юрыдычны тэрмін, які азначаў дзяржаўнае злачынства ў шырокім сэнсе, у тым ліку: змову і замах на жыццё і здароў'е, гонар і годнасць гаспадара (гасудара), замах на дзяржаўную ўладу (учыненне бунту, змова з непрыяцелем на шкоду дзяржаве, недазволеная чаканка манеты і інш.). У выпадку вуснага або пісьмовага зневажання гаспадара «з глупства або шаленства» вінаваты вызваляўся ад пакарання (раздз. 1, арт. 4).

***АБЫВАЦЕЛЬ***, свабодны жыхар (падданы) Вялікага княства Літоўскага.

***АБЫЧАЙ ЗВЫКЛЫ***, правілы паводзін у адпаведнасці са звычаёвым правам, што склаліся ў старажытнасці і з якімі дзяржава павінна была лічыцца ў XVI ст., хаця паступова і абмяжоўвала іх дзеянне.

***АГАРОДНІКІ***, найменш заможная катэгорыя сялян (па «Уставе на валокі» 1557 г. мелі зямельны надзел у тры моргі, што было роўным прыкладна 2,1 га зямлі), якую папаўнялі былыя халопы (чэлядзь). Пазней Статут 1588 г. прама рэгламентаваў: «челядь неволь-

ная и теж дети, потомки полоненников мають быти осаживаны на землях и розумены за отчичов» (разд.12, арт.21).

***АГУЛЬНАЗЕМСКІЯ ГРАМАТЫ (прывілеі)***, агульнадзяржаўныя заканадаўчыя акты Вялікага княства Літоўскага, якія рэгламентавалі правы і абавязкі насельніцтва. Перш за ўсё яны тычыліся саслоў'я шляхты, афармленне якога ішло на працягу XIV—XVI стст. Так, тры граматы Ягайлы 1387 г. вызначалі льготы феадалам за пераход у каталіцкую рэлігію. Гарадзельскія граматы 1413 г. абмяжоўвалі правы праваслаўных феадалаў. Граматы 1432 і 1434 гг. ураўнялі ў правах праваслаўных феадалаў з феадаламі-каталікамі, што садзейнічала кансалідацыі ўсіх феадалаў у адзінае саслоў'е шляхты. Асабліва важнае значэнне мелі граматы Казіміра 1447 г. і Аляксандра 1492 гг., якія закладвалі падставы канстытуцыяналізму Вялікага княства Літоўскага, гарантавалі правы і свабоды шляхты, у тым ліку асабістую свабоду і недатыкальнасць. Грамата 1492 г. замацоўвала абавязак вялікага князя клапаціцца аб тэрыторыі дзяржавы, падтрымліваць добрасуседскія адносіны з іншымі дзяржавамі. У ёй гаварылася аб абмежаванні ўлады вялікага князя панамі-радай. Грамата Жыгімонта I ў 1506 г. завяршыла першы так званы прывілейны этап развіцця заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Аднак і пасля выдання Статута 1529 г. выдаваліся агульназемскія граматы. Віленскія граматы 1563, 1565 гг. і Бельская 1564 г. сталі падставай і састаўной часткай Статута 1566 г.

***АЙЧЫЗНЫЯ ЛЮДЗІ (отчычы)***, залежныя ад феадала людзі, якія жылі ў адным месцы, неслі феадальныя павіннасці па спадчыне і без дазволу свайго пана не маглі пераходзіць на іншае месца жыхарства. Дзяржаўная ўлада ўжо ў XV ст. прызнавала за феадаламі права ўласнасці на іх. Граматай Казіміра 1447 г. забаранялася прымаць на дзяржаўныя землі людзей «данных, извечных». Пры здзяйсненні здзелак з нерухомасцю яны перадаваліся разам з зямельным надзелам. Паступова на працягу XV—XVII стст. гэта катэгорыя насельніцтва папаўнялася за кошт «пахожых» людзей.

***АКТАВЫЯ КНІГІ***, судовыя кнігі ў Вялікім княстве Літоўскім. Афіцыйна ўведзены Статутам 1529 г. (раздз. 6, арт. 3). Спачатку запісы рабіліся ў адной кнізе. З зацвярджэннем Статутам 1566 г. земскіх и падкаморскіх судоў пачалі весціся розныя актавыя кнігі: паточныя, дэкрэтавыя, запісовыя і г.д.

***АКТЫКАЦЫЯ***, запіс, занясенне дакументаў у актавыя кнігі, пасля чаго дакументы набывалі законную сілу.

***АПАЛЧЭННЕ***, мабілізацыя насельніцтва ў час ваеннай небяспекі. У грамаце Ягайлы 1387 г. гаварылася, што ў пагоню (старажытны звычай даганяць ворага і адбіраць у яго нарабаванае) павінны ісці ўсе мужчыны, здольныя насіць зброю. У XV—XVI стст. вайсковая павіннасць ахоплівала ўсіх замлеўладальнікаў адпаведна зямельнага надзелу. У другім раздзеле Статута 1566 г. падрабязна гаварылася аб парадку нясення вайсковай службы.

***АПЕКА***, у грамадзянскіх праваадносінах форма забеспячэння законных правоў недзеяздольных асоб (непаўналетніх, псіхічна хворых і інш.). Апякунства над непаўналетнімі (Статут 1566 г. прызнаваў паўналетнім мужчын з 18 гадоў, жанчын — з 15 гадоў) ажыццяўлялі бліжэйшыя родзічы адпаведна завяшчанню бацькоў або па прызначэнню суда (раздз. 4, арт. 2—4). У выпадку адсутнасці кроўных сваякоў апекуноў прызначала дзяржава. Апекуны павінны былі клапаціцца не толькі аб належным выхаванні непаўналетніх, але і аб іх далейшым лёсе (дзяўчыны без дазволу апекуна не маглі выйсці замуж і інш.), а таксама захоўваць у належным стане маёмасць.

***АПЕЛЯЦЫЯ***, (ад лац. *appellatio* — зварот) — зварот у вышэйшую судовую інстанцыю з просьбай перагледзець судовае рашэнне, вынесенае судом першай інстанцыі, адна з форм абскарджання пастаноў мясцовых судоў у Вялікім княстве Літоўскім. Змяшчала ў сабе просьбу перагледзець і скасаваць рашэнне суда, якое не набыло законнай сілы. Апеляцыйны суд пераглядаў справу з улікам прыведзеных у апеляцыі довадаў, мог выклікаць суддзяў мясцовых судоў і інш.

***АРДЫНШЧЫНА***, асаблівы від падатку з гарадоў і валасцей Вялікага княства Літоўскага, які ішоў на «ардынскія справы» і дыпламатыю. Складаныя ўзаемаадносіны з Крымскай, Нагайскай і інш. ордамі патрабавалі шматлікіх матэрыяльных затрат. Так, у 1513 г. было падпісана пагадненне з перакопскім ханам, паводле якога саюз з ім і бяспека зямель дзяржавы былі куплены цаною штогодняй даніны ў 6000 коп грошаў (палову плаціла Польшча). Выплата ардыншчыны спынілася ў канцы XVI ст.

***АРКАБУЗ***, пішчаль, ружжо.

***АРТЫКУЛЫ ВАЙСКОВЫЯ (гетманскія)***, вайсковыя законы, пастановы і распараджэнні, якія дзейнічалі ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI—XVIII стст. Адыгрывалі ролю дысцыплінарных і баявых статутаў у войску, былі зборамі вайскова-крымінальнага права. Упершыню ў Статуце 1529 г. была зроблена спроба кадыфі-

каваць нормы вайсковага права. У раздзеле 2 Статута 1566 г. гэтыя нормы атрымалі далейшае развіцце.

***АСАДНЫЯ СЯЛЯНЕ***, адна з асноўных катэгорый сялян Беларусі ў XVI ст., якія феадальную зямельную рэнту плацілі грашыма (чынш). Акрамя асноўнай рэнты, давалі натурай дзякла, стацыю, адбывалі талокі, згоны і інш.

***АСЕЛАСЦЬ***, зямельнае валоданне, маёнтак феадала. Была адной з умоў для заняцця адміністрацыйнай, палітычнай, судовай пасады ў дзяржаве. У Статутах было запісана, што вялікі князь аселасцю і рознымі пасадамі павінен быў надзяляць толькі ўраджэнцаў Вялікага княства Літоўскага (Статут 1529, раздз. 3, арт. 3; Статут 1566, раздз. 3, арт. 4; Статут 1588, раздз. 3, арт. 12).

***БАБРОЎНІКІ***, катэгорыя сялян-слуг, якія займаліся паляваннем на баброў, здабычай футра, аховай бабровых гонаў і інш.

***БАНІЦЫЯ (вываланне)***, крымінальнае пакаранне, адносна якога злычынца пазбаўляўся ўсіх правоў і выганяўся з дзяржавы.

***БАСУРМАНІН (бесурманін)***, жыхар Вялікага княства Літоўскага, які спавядаў мусульманскую веру. У артыкулах Статута (раздз. 12, арт. 5, 6 і інш.) гаварылася аб пэўных правах і абавязках гэтай катэгорыі насельніцтва.

***БАЯРЫ***, ваеннаслужылыя, вольныя людзі «простага стану», якія атрымлівалі зямлю ад вялікага князя пры ўмове нясення воінскай службы. Напрыклад, баяры панцырныя ахоўвалі межы дзяржавы, а баяры путныя перавозілі почту, служылі ганцамі і інш. Большая частка іх да канца XVI ст. увайшла ў шляхецкае саслоў'е. Пры правядзенні зямельнай рэформы ў сярэдзіне XVI ст. тыя з баяраў, хто не пацвердзіў права на зямлю, прыпісваліся да людзей «простага стану».

***БЕГЛЫЯ***, збегі, сяляне, якія па меры ўзмацнення прыгону ўцякалі ад феадалаў. Статут прадугледжваў крымінальную адказнасць тых людзей, якія дапамагалі беглым (раздз. 14, арт. 29).

***БЕЛАЯ ГАЛАВА***, нявеста, жанчына. Назва ад народнага звычаю завязваць на галаве белую хустку.

***БЕНКАРТ***, пазашлюбнае (незаконнанароджанае) дзіця, становішча якога ў Вялікім княстве Літоўскім было складаным. Бенкарты не мелі права на спадчыну ад бацькі, на яго прозвішча.

***БЛІЗКІЯ ПА КУДЗЕЛІ***, родзічы па мацярынскай лініі, у адрозненне ад блізкіх па мячы — родзічаў па лініі бацькі.

***БОЙ***, нанясенне пабояў, бойка — проціпраўныя гвалтоўныя дзеянні ў адносінах да асобы. На Беларусі быў пашыраным відам злачынства, даволі часта выкарыстоўваўся для высвятлення ўзаемаадносін і вырашэння спрэчак. Пакаранне за гэта злачынства вызначалася ў залежнасці ад цяжкасці цялесных пашкоджанняў, саслоўнага становішча пацярпелага, злачынцы і інш.

***БУРМІСТР***, абраная са складу гарадской рады службовая асоба ў гарадах, дзе дзейнічала магдэбургскае права. У абавязак бурмістра ўваходзіла загадванне казной горада, старшынства на пасяджэннях бурмістраўскага-радзецкага суда.

***БУРМІСТРАЎСКА-РАДЗЕЦКІ СУД***, мясцовы суд для гараджан у Вялікім княстве Літоўскім. Дзейнічаў адначасова з войтаўскалаўніцкім судом у гарадах, якія атрымалі грамату на магдэбургскае права. У склад суда ўваходзілі гарадскія бурмістры і радцы, колькасць якіх залежала ад памераў горада. Суд разглядаў пераважна нязначныя правапарушэнні мяшчан, цяжбы купцоў і рамеснікаў.

***ВАЛАШЧАНЕ***, валасцелі, жыхары пэўнай воласці, сяляне.

***ВАЛОКА***, з сярэдзіны XVI ст. асноўная зямельная мера і адзінка абкладання сялян павіннасцямі. Адносна «Уставы на валокі» 1557 г. складала 21,36 га зямлі. У валоку ўваходзілі 30 моргаў, або 9000 прутоў.

***ВАЛОЧНАЯ ПАМЕРА***, зямельная рэформа ў Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVI ст., якая суправаджалася праверкай правоў на зямлю. Вынікам яе былі значныя сацыяльныя пераўтварэнні і актывізацыя афармлення прыгоннага права.

***ВАЛЬНЫ СОЙМ***, агульнадзяржаўны сойм Вялікага княства Літоўскага, на які збіраліся вялікі князь, паны-рада і дэпутаты ад павятовых соймікаў (гл. «Сойм»).

***ВАЯВОДА***, службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, кіраўнік мясцовай адміністрацыі ў ваяводстве і адначасова член рады, пасля Люблінскай уніі 1569 г.— член сената Рэчы Паспалітай. Ажыццяўляў адміністрацыйныя і судовыя функцыі ў ваяводстве, кантроль над крыніцамі прыбыткаў у казну і інш. Прызначаліся (некаторыя выбіраліся) пажыццёва з ліку буйных феадалаў.

***ВАЯВОДСТВА***, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім. Падзел тэрыторыі дзяржавы на ваяводствы ажыццяўляўся паступова пасля заключэння Гарадзельскай уніі 1413 г. Пасля адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы на час выдання Статута 1566 г. тэрыторыя Беларусі падзялялася на Віленскае, Трок-

скае, Берасцейскае, Навагародскае, Падляшскае, Віцебскае, Полацкае, Менскае і Мсціслаўскае ваяводствы.

***ВЕЖА***, абароннае збудаванне, пабудова, якая ў Вялікім княстве Літоўскім служыла турмой для папярэдняга ўтрымання зняволеных і адбывання пакаранняў асуджаных да пазбаўлення волі.

***ВЕЗЕННЕ***, зняволенне, турма, астрог.

***ВЕЛІКАКНЯЖАЦКІ***, гаспадарскі суд, вышэйшая судовая ўстанова ў Вялікім княстве Літоўскім, склад якой дакладна не вызначаўся законам. Вялікі князь з панамі-радай (колькасць іх магла быць рознай) разглядалі па першай інстанцыі справы аб дзяржаўных злачынствах, іскі буйных феадалаў і г.д. У якасці апеляцыйнай інстанцыі разглядаліся скаргі на пастановы мясцовых судоў, зацвярджаліся пастановы камісарскіх судоў. Пасля ўтварэння Галоўнага суда (Трыбунала) большасць апеляцыйных спраў перайшла да яго кампетэнцыі. Статут 1566 г. удакладніў кампетэнцыю і парадак дзейнасці велікакняжацкага суда (раздз. 4, арт. 58, 61, 64, 65 і інш.).

***ВЕНА***, матэрыяльнае забеспячэнне жонкі шляхам запісу ёй пэўнай часткі маёмасці мужа. Статут абавязваў бацьку, які выдаваў дачку замуж, патрабаваць ад зяця запісу вена (раздз. 5, арт. 1), рэгламентаваў парадак афармлення вена (раздз. 5, арт. 2), удакладняў статус удавы **«вѣнованой»** (раздз. 5, арт. 4) і інш.

***ВЕНАВАНАЯ ЎДАВА***, жанчына-удава, якая мела афіцыйна зацверджаны запіс аб прызначэнні ёй вена.

***ВЕРНІК***, асоба, якой давяралі выступаць у судах ці удзельнічаць у іншых справах ад імя даверніка.

***ВЕЧА***, народны сход у старажытных дзяржавах-княствах (Полацкім, Віцебскім і інш), на якім вырашаліся важныя пытанні: вайны і міру, устанаўлення падаткаў, прыняцця законаў, выбранне князя і інш. Права ўдзелу ў ім мелі дарослыя, паўнапраўныя і вольныя мужчыны.

***ВІЖ***, судовая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, якая выконвала следчыя функцыі і наглядала за судаводствам у копных судах.

***ВІЛЕНСКІ ПРЫВІЛЕЙ 1563 г.***, заканадаўчы акт, які ўвайшоў ў якасці прэамбулы ў Статут 1566 г. Канчаткова ўраўноўваў у правах праваслаўных феадалаў з феадаламі-каталікамі. Сведчыў аб палітычнай кансалідацыі шляхецкага саслоў'я ў перыяд правядзення валочнай памеры. У ім гаварылася, што ўсе феадалы **«якъ Литов-**

**ского такъ и Руского народу одно бы вѣры Хрестіянское»** навечна карыстаюцца ўсімі шляхецкімі вольнасцямі, у тым ліку і правам займаць любыя пасады ў дзяржаве.

***ВІНА***, тэрмін, які азначаў: 1) злачынства, дрэнны учынак, грэх (напрыклад, гаспадарская віна — дзяржаўная); 2) адказнасць, абвінавачванне, асуджэнне (віна крывавая); 3) від пакарання. Так, грашовы штраф, які называўся «віна пенежная», спаганяўся даволі часта і выступаў як асноўным, так і дадатковым відам пакарання. Памеры яго залежалі ад віду і характару злачынства, сацыяльнага становішча пацярпелага і іншых абставін.

***ВОЗНЫ***, службовая асоба ў мясцовых павятовых судах, якая прызначалася ваяводам па рэкамендацыі павятовай шляхты з асоб **«добрих веры годныхъ цнотливыхъ оселыхъ в томъ же повѣтѣ»** (раздз. 4, арт. 4). Прававы статус вознага дакладна вызначаны ў Статуце 1566 г. Фактычна ён быў судовым следчым і выканаўцам. У абавязак яго ўваходзіла сведчанне слядоў злачынства, вызначэнне памеру шкоды, захаванне рэчавых доказаў, дастаўленне судовых павестак і шмат іншае. Вынікі ўсіх службовых дзеянняў возны павінен быў заносіць у актавыя кнігі і паведамляць суду пісьмовай рэляцыяй. Пры ўступленні на пасаду возны прыносіў прысягу, тэкст якой рэгламентаваўся законам (раздз. 4, арт. 4). Статут абараняў асобу вознага, рэгламентаваў і памер узнагароды за службу вознага, вызначаў яго адказнасць пры злоўжыванні службовым становішчам (раздз. 4, арт. 5, 6).

***ВОЙТ***, мясцовая службовая асоба, якая ўзначальвала гарадскую ці сельскую адміністрацыю. Адначасова войт выконваў і судовыя функцыі.

***ВОЙТАЎСКІ СУД***, мясцовы суд для гарадскога насельніцтва. Войт, які ўзначальваў гарадскую адміністрацыю, меў права «судити, сказывати и карати».

***ВОЙТАЎСТВА***, 1) адміністрацыйна-гаспадарчая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVIII стст., у склад якой уваходзілі некалькі вёсак. Часцей за ўсё гэта было невялікае зямельнае ўладанне на вялікакняжацкіх землях; 2) назва пасады войта.

***ВОЛЬНАСЦІ ШЛЯХЕЦКІЯ***, комплекс правоў і прывілеяў саслоў'я шляхты ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Складваліся паступова на працягу XIV—XVI стст. Спачатку ў агульназемскіх граматах, а затым у Статутах 1529, 1566, 1588 гг. былі замацаваны эканамічныя правы (валоданне зямлей і залежнымі сялянамі, затым распараджэнне зямлей, вызваленне ад дзяржаўных павіннасцей, акрамя вайсковай службы), палітычныя (удзельнічаць у працы сойма

і павятовых соймікаў, займаць пасады і інш.), асабістыя (недатыкальнасць асобы, права на ахову годнасці і гонару і інш.). Шляхецкім вольнасцям прысвечаны трэці раздзел Статута 1566 г., аднак аб абароне правоў шляхты гавораць шматлікія артыкулы іншых раздзелаў.

***ВОТЧЫННЫ СУД***, суд феадала над залежнымі ад яго людзьмі. На падставе звычаёвага права юрысдыкцыі феадала падлягалі не толькі залежныя сяляне, але і іншыя асобы, што пражывалі на яго землях. У Вялікім княстве Літоўскім упершыню заканадаўча быў афармлены граматай Казіміра 1447 г.

***ВРЯД (врад, урад)***, пасада, дзяржаўная ўстанова.

***ВРЯДНІК (враднік)***, службовая асоба.

***ВЫВАЛАНЦЫ, БАНІТЫ***, асобы, пазбаўленыя ў Вялікім княстве Літоўскім грамадзянскіх правоў і асуджаныя на выгнанне за межы дзяржавы. Вываланцамі станавіліся асобы, абвінавачаныя ў цяжкіх злачынствах, калі яны не з'яўляліся ў суд па павестках, людзі лёзныя, а таксама асобы, якія адмаўляліся выконваць судовыя пастановы. Вечнымі вываланцамі (без права княжацкага памілавання) аб'яўляліся тыя, хто атрымаў ахоўную грамату ад вялікага князя і не апраўдаўся на працягу вызначанага ў ёй тэрміну. Жонка вываланца лічылася ўдавой, а дзеці — сіротамі.

***ВЫВЕДАННЕ***, папярэдняе следства.

***ВЫПРАВА***, рухомая маёмасць у выглядзе гаспадарча-побытавых рэчаў, атрыманых ад бацькоў (апекуноў) і ўнесеных жанчынай пры шлюбе ў новую сям'ю.

***ВЫРАК***, прыгавор суда па крымінальнай справе ці рашэнне па цывільнай, выкладзеныя ў пісьмовай форме, а таксама пастановы і распараджэнні вялікага князя ці іншых службовых асоб княжацкай адміністрацыі.

***ВЫСТУП***, злачынства, дрэнны учынак.

***ВЫСТУПЦА***, злачынец

***ВЯНЕЦ***, матэрыяльнае забеспячэнне невенаванай удавы спадкаемцамі мужа пры яе паўторным выхадзе замуж.

***ГАЛОЎШЧЫНА***, адзін з відаў маёмасных спагнанняў па Статутах, які спаганяўся ў выглядзе грашовага штрафу. Памер штрафу залежаў ад саслоўнага становішча, пасады, прафесіі забітага чалавека. За забойства жанчын спаганяўся двайны памер галоўшчыны

(раздз. 12, арт. 1—3). Закон рэгламентаваў парадак спагнання галоўшчыны (раздз. 11, арт. 24, 25).

***ГАРАЧЫ ЎЧЫНАК***, толькі што здзейсненнае злачынства (як правіла, з моманту здзяйснення якога не мінула 24 гадзіны). Затрыманых на гарачым учынку злачынцаў судзілі неадкладна, без вызава ў суд позвамі (павесткамі).

***ГАСПАДАР***, 1) гасудар, вялікі князь ВКЛ; 2) уладальнік маёмасці.

***ГАСПОДА***, пастаялы двор.

***ГВАЛТ (кгвалт)***, наўмыснае злачыннае дзеянне: напад на чужы дом, маёнтак, царкву, насілле над чалавекам. Заканадаўца выкарыстоўвае тэрміны **«гвалтовнѣ»**, **«гвалтовнымъ обычаемъ»** як агульнавядомыя і не растлумачвае іх (раздз. 11, арт. 1—9 і інш.).

***ГЕРБ***, у артыкуле 10 раздзела 4 гаворыцца пра герб дзяржавы: **«Тежъ мы Господаръ даемъ подъ гербомъ того панства нашего Великого Князства Литовского, погонею, печать до кождого повѣту...»**.

***ГЕТМАН***, вайсковы начальнік у Вялікім княстве Літоўскім. Галоўным военачальнікам быў гетман найвышэйшы (вялікі, земскі). Намеснікамі яго былі гетманы польны і дворны. Гетманы былі і ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках дзаржавы. Закон дакладна не вызначае статус гетмана, а толькі гаворыць аб некаторых правах і абавязках яго (раздз. 2).

***ГОРЛАМ КАРАЦІ***, прымяненне смяротнага пакарання. Як правіла, праз павешанне, асабліва ў адносінах да злодзеяў. У параўнанні з папярэднім Статутам колькасць «страты горла» павялічваецца амаль у тры разы.

***ГРАБЕЖ***, адкрыты напад на людзей ці жыллё з мэтай завалодання маёмасцю. Адказнасць за розныя віды грабяжу вызначаецца ў раздзеле 13. Як правіла, навязка і кампенсацыя страт не вызвалялі злачынцу ад крымінальнага пакарання. Пераадоленне асаблівых перашкод пры грабяжу павялічвала адказнасць.

***ГРАМАТА*** (ліст, прывілей), афіцыйны заканадаўчы акт Вялікага княства Літоўскага. Падзяляліся на устаўныя (канстытуцыйныя), ільготныя, ахоўныя, дарчыя, дагаворныя, адміністрацыйна-судовыя. Найбольш вядомыя агульназемскія граматы 1387, 1413, 1434, 1447, 1492 гг. закладвалі канстытуцыйныя асновы дзяржавы: кампетэнцыю вышэйшых органаў улады і кіравання, правы і абавязкі саслоў'я шляхты і інш. Статут 1566 г. пачынаюць у выглядзе прэ-

амбулы Віленскія прывілеі 1563, 1565 гг. і Бельскі прывілей 1564 г. *Абласныя граматы (прывілеі)* замацоўвалі аўтаномны характар шэрага зямель (часцей былых княстваў) у складзе Вялікага княства Літоўскага. Валасныя граматы даваліся сялянам адной ці некалькіх валасцей адносна іх абавязкаў і некаторых старажытных правоў. Гарадскія граматы давалі самакіраванне гарадам: Вільні ў 1387 г., Бярэсцю у 1390, Полацку ў 1498 г., Менску ў 1499 г. і г.д.

***ГРОДСКІ СУД***, гл. «Замкавы суд».

***ГРОШ***, срэбная манета. Асноўная грашовая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы. Літоўскі грош — маса 2,57 г, польскі грош — каля 2 г, пражскі грош — 3,86 г.

***ГУМАНІСТЫ***, прадстаўнікі прававой школы, якая ўзнікла ў XVI ст.

***ДАННІКІ***, сяляне, якія ў XIV—XVI стст. плацілі феадальную рэнту ў форме даніны (прадукцыі ад гаспарадкі і палявання). Паступова пераўтвараліся ў іншыя катэгорыі сялян (асадных, цяглых) і запрыгоньваліся.

***ДАРАВІЗНА***, падараваная маёмасць.

***ДЗЕДЗІНА (дедзізна)***, фамільны маёнтак, атрыманы ў спадчыну або набыты на праве ўласнасці.

***ДЗЯКЛО***, від сялянскага натуральнага аброку.

***ДЗЯРЖАЎЦА***, кіраўнік дзяржаўнага маёнтка і адначасова мясцовы начальнік з правам суда (раздз. 6, арт. 20—21). Да XVI ст. называўся намеснікам ці цівуном. Значная і прыбытковая пасада ў Вялікім княстве Літоўскім.

***ДОКАЗ СЛУШНЫ*** (довад слушны, зуполны), тэрмін, якім Статут вызначаў абгрунтаваныя, рэгламентаваныя законам доказы па судовых справах. Перш за ўсё імі былі фактычныя дадзеныя (звесткі) аб акалічнасцях злачынства. Факты па справе высвятляліся з дапамогай паказанняў сведак, пацярпелых, падазроных, абвінавачаных, заяў старон і іншых асоб, пісьмовых і рэчавых доказаў, рэляцый возных (віжаў), прызнання злачынцы, а таксама прысягі і жэрабя. Найбольш пераканаўчымі лічыліся паказанні сведак, прызнанне абвінавачанага і пісьмовыя доказы: запісы на маёмасць, выпіскі з судовых кніг, пазыковыя пісьмы і інш. Закон гаварыў і аб «довадзе незупольным», г.зн. не зусім пераканаўчым, няпоўным (напрыклад, у выпадку, калі віна не выключалася, але доказаў было недастаткова).

***ДЭКРЭТ***, судовая пастанова.

***ДЭЦКІ***, судовая службовая асоба, у абавязак якой уваходзіла затрыманне і дастаўленне ў суд абвінавачаных у злачынстве. Гэтыя функцыі ў 1566 г. перайшлі да вознага.

***ЕПІСКАП*** (біскуп), адзін з вышэйшых духоўных санаў хрысціянскай царквы, кіраўнік царкоўна-адміністрацыйных адзінак (епархій, дыяцэзаў). У Вялікім княстве Літоўскім адносіўся да вышэйшых саноўнікаў дзяржавы.

***ЖЫГІМОНТ II (Сігізмунд, Зыгмунт) Аўгуст (1520—1572)***. Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы, пры якім быў прыняты Статут 1566 г.

***ЗАВІТАЯ КАПА***, канчатковы разгляд судовай справы на капе, якую склікалі ў трэці раз.

***ЗАВІТЫ РОК***, канчатковы тэрмін.

***ЗАМКАВЫ СУД*** (гродскі), мясцовы ўсесаслоўны суд. Вышэйшы склад суда (ваявода, стараста, дзяржаўца) разглядаў найбольш важныя грамадзянскія і крымінальныя справы, абскардзіць якія можна было ў цэнтральныя суды дзяржавы. Ніжэйшы склад суда (падваявода, падстараста, прадстаўнікі мясцовых феадалаў) разглядаў менш значныя справы, абскардзіць яго пастановы можна было ў вышэйшы склад суда. Пасля ўвядзення ў дзеянне земскага суда замкавы суд разглядаў справы аб цяжкіх крымінальных злачынствах «па гарачых слядах», грамадзянскія справы аб выпатрабаванні беглых сялян і чэлядзі. Вяліся спецыяльныя судовыя кнігі, у якія запісваліся судовыя пастановы і сведчанні розных здзелак (раздз. 4, арт. 20, 21 і інш).

***ЗАПІС***, пісьмовае афармленне ў судовых кнігах рознага рода здзелак. Многія артыкулы раздзела 7 Статута **«О записехъ и продажахъ»** рэгламентуюць парадак афармлення запісаў (арт. 1—9 і інш.).

***ЗАРУКА***, пэўная сума грошай, вызначаная спецыяльным лістом як сродак забеспячэння асабістай бяспекі (таксама і блізкіх людзей) у выпадку пагрозы з боку іншай асобы; сродак забеспячэння іску.

***ЗАСТАВА***, маёмаснае забеспячэнне атрыманай пазыкі ў выглядзе перадачы даўжнікам маёмасці (найчасцей маёнтку) крэдытору ў часовае карыстанне з правам далейшага выкупу. Застава маёнтку і зямель, у тым ліку дзяржаўных, была крыніцай атрымання грошай. Пры гэтым да крэдытора звычайна пераходзілі ўсе пра-

вы на землеўладанне і залежных людзей. Свае правы крэдытор мог перадаць іншай асобе. Існаваў і такі від залогу, як іпатэка. Залогадавальнік, які не выкупіў маёмасць у вызначаны тэрмін, траціў на яе правы. На заставу не распаўсюджвалася іскавая даўнасць. Кожны залогадавальнік пасля выплаты пазыкі меў права вярнуць свой маёнтак. Калі залогатрымальнік не прымаў пазыку з надыходам указанага ў дагаворы тэрміну плацяжу, залогадавальнік меў права звярнуцца ў суд і пакласці грошы ў судзе, пасля чаго суд абавязаны быў увесці яго ва ўладанне маёмасцю. У выпадку страты закладзеных рэчаў разам з рэчамі залогадавальніка уладальнік не мог нічога спагнаць за іх. Калі ж былі страчаны толькі рэчы залогадавальніка, залогатрымальнік абавязаны быў вярнуць раўназначную рэч або заплаціць яе кошт (раздз. 7, арт. 13—24; раздз. 2, арт. 4 і інш).

***ЗАСТУПЦА***, асоба, якая прыняла («заступіла») на сябе правы і абавязкі стараны па якой-небудзь судовай справе. Заступца лічыўся паўнапраўным удзельнікам працэсу, самастойна (ці з дапамогай адваката) прыводзіў доказы і адказваў па справе. Тая асоба, якую «заступілі» была свабоднай ад адказнасці па справе, а заступца павінен быў «до конца усправедливитися» (раздз. 4, арт. 32).

***ЗВАДА***, сварка, якая часцей за ўсё заканчвалася бойкай.

***ЗВЫЧАЁВАЕ ПРАВА***, сістэма няпісаных правілаў паводзін людзей, якія існавалі на падставе агульнапрынятасці і даўніны. Нормы звычаёвага права ўзнікалі непасрэдна з грамадскіх адносін, развіваліся і санкцыяніраваліся дзяржаўнай уладай. Яны розніліся па мясцовасцях, былі дастаткова кансерватыўнымі і рэгулявалі ўсе адносіны: правы і абавязкі насельніцтва, узаемаадносіны іх з дзяржавай, судовы лад і судаводства, зямельныя, дагаворныя адносіны, пытанні злачынства і пакарання і інш. З развіццём пісанага заканадаўства дзейнасць звычаёвага права абмяжоўваецца, хаця адначасова вялікі князь абавязваўся «старыны не рухаць». Статут 1566 г. увогуле забараніў выкарыстанне нормаў звычаёвага права, аднак яшчэ доўгі час яны працягвалі дзейнічаць.

***ЗЕМСКАЕ ПРАВА***, 1) сістэма прававых нормаў Вялікага княства Літоўскага; 2) агульнадзяржаўнае заканадаўства. Працэс фарміравання земскага права пачаўся ў XIV ст. у сувязі з цэнтралізацыяй дзяржавы і выцясненнем звычаёвага права. Спачатку выдаваліся агульнадзяржаўныя законы ў форме прывілеяў (грамат) вялікіх князёў, у якіх замацоўваліся правы і абавязкі насельніцтва. На гэтым этапе земскае права складалася са звычаёвага права, прыстасаванага да агульнадзяржаўных патрэб, і новага «пісанага права».

Пазней, у сувязі з кадыфікацыяй заканадаўства, з'яўляюцца агульнадзяржаўныя кадыфікаваныя зборы законаў Вялікага княства Літоўскага — статуты.

***ЗЕМСКАЯ ДАЎНАСЦЬ***, рэгламентаваны законам тэрмін, на працягу якога суб'ект права мог звярнуцца ў суд з іскам за аднаўленнем парушанага права. Статут 1529 г. устанавіў агульны тэрмін іскавай даўнасці ў 10 гадоў. Закон прадугледжваў прыпыненне хода даўнасці на той час, пакуль існавалі перашкоды для падачы іска ў суд, а таксама перапынак цячэння даўнасці, калі папярэдні час не залічваўся ў новы тэрмін. Феадалы выкарыстоўвалі земскую даўнасць для выпатрабавання збеглых сялян. Статут 1566 г. замацаваў 10-гадовы тэрмін пошуку збеглых (раздз. 4, арт. 66; раздз. 9, арт. 19).

***ЗЕМСКІ СУД***, першы выбарны і аддзелены ад адміністрацыі мясцовы суд для шляхты. У кожным павеце на сойміку шляхта выбірала са свайго асяроддзя па чатыры кандыдатуры на пасаду суддзі, падсудка і пісара, а вялікі князь зацвярджаў аднаго на кожную пасаду. Суддзі выбіраліся пажыццёва, пры ўступленні на пасаду прыносілі прысягу, тэкст якой рэгламентаваўся законам. Акрамя разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў суд выконваў натарыяльныя дзеянні. Судовыя сесіі праходзілі тры разы на год (раздз. 4, арт. 1—3, 8, 10, 11).

***ЗЛАЧЫНЦА***, асоба, якая здзейсніла злачынства. Статут адрознівае «**злочынцовъ, разбойниковъ, злодѣевъ явныхъ, а людей выволаныхъ**» (раздз. 11, арт. 5).

***ЗЛОДЗЕЙ***, асоба, абвінавачаная ў крадзяжы чужой маёмасці. Лічыўся адным з асабліва небяспечных злачынцаў, мог быць пакараны смерцю. Нават укрывальніцтва злодзея каралася смерцю (раздз. 11, арт. 5). Акрамя асноўнага пакарання са злодзея спаганяліся матэрыяльныя страты і штраф («**навязка**»).

***ЗНАКІ ЗЛАДЗЕЙСКІЯ***, рэчавыя доказы, знойдзеныя на месцы злачынства або пры злачынцы. Яны служылі падставай для неадкладнага разгляду справы і пакарання злачынцы.

***ЗУХВАЛЫЙ (зуфалый)***, дзёрзкі, непакорны, смелы.

***ІНСТЫГАТАР***, службовая асоба, у абавязак якой уваходзіла прад'яўленне судовага іску ў інтарэсах дзяржавы і вялікага князя, абвінавачванне ў судзе па некаторых крымінальных справах, а таксама выкананне судовых пастаноў.

***ІНФАМІЯ***, пазбаўленне па судовай пастанове гонару і правоў.

***ІПАТЭКА***, від заставы нерухомай маёмасці.

***ІСПАШ***, патрава хатняй жывёлай пасеву або сенажаці.

***КАМЕНЬ***, адзінка вымярэння масы, якая раўнялася прыкладна 40 фунтам, або аднаму пуду, або 16,38 кг.

***КАМІСАР***, службовая асоба, якая ўваходзіла ў склад пэўнай камісіі або камісарскага суда.

***КАМІСІЯ ГАСПАДАРСКАЯ***, часовы арбітражны орган для разгляду межавых спрэчак паміж шляхтай і вялікім князем (раздз. 4, арт. 58).

***КАМОРНІК***, землямер, землеўпарадчык. Пасля ўтварэння падкаморскага суда — памочнік падкаморыя.

***КАНЦЛЕР***, член рады Вялікага княства Літоўскага, начальнік канцылярыі, хавальнік вялікай дзяржаўнай пячаткі. Пасада была ўведзена ў XV ст. Выконваў функцыі міністра замежных спраў, займаўся ўнутранымі справамі дзяржавы, рэдагаваў законы, падпісваў іх і замацоўваў пячаткай.

***КАПА***, 1) адзінка лічэння, якая раўнялася 60 (60 снапоў, гуркоў і г.д.); 2) капа грошай — грашовая адзінка, якая адпавядала 60 літоўскім грошам; 3) капа — сход мясцовай грамады (простых людзей), які збіраўся на копны суд.

***КАШТАЛЯН***, камендант замка, памочнік ваяводы, галоўная службовая асоба ў кашталяніі — цэнтральным павеце ваяводства.

***КЛЮЧНІК***, ключвойт, асоба, якая выконвала функцыі галоўнага вартаўніка горада, замыкала на ноч вароты замка і захоўвала ключы. Ключнікамі называлі і войтаў, якія кіравалі часткамі маёнткаў феадалаў ці вялікакняжацкімі эканоміямі.

***КНІГІ ЗЕМСКІЯ, ГРОДСКІЯ***, судовыя кнігі ў Вялікім княстве Літоўскім, у якіх запісваліся іскі, судовыя пастановы, вынікі працэсуальных дзеянняў і інш. Пасля ўвядзення ў дзеянне Статута 1529 г. у кожным судзе вялася адна кніга, а з сярэдзіны XVI ст.— некалькі: дэкрэтавыя — для запісу працэсуальных дзеянняў і судовых пастаноў; паточныя — для запісу скаргаў, апеляцый і інш; запісовыя — для запісу заканадаўчых актаў, пастаноў афіцыйных органаў, натарыяльных дзеянняў. Пазней з'яўляюцца чорныя, сумарныя, тактавыя і інш. кнігі.

***КНЯЗЬ***, гаспадар, вышэйшая службовая асоба ў феадальных дзяржавах (княствах). Нават у складзе Вялікага княства Літоўскага пэўны час захоўваліся княжацкія пасады (полацкі, слуцкі, віцебскі і

інш. князі). Некаторыя князі амаль да XVI ст. у сваіх уладаннях захоўвалі адносную незалежнасць ад цэнтральнай улады, аднак у галоўных пытаннях падпарадкоўваліся вялікаму князю — кіраўніку Вялікага княства Літоўскага.

***КОПНЫ СУД***, самы старажытны суд на Беларусі для простых людзей. У асноўным судзіў сялян, хаця да яго паслуг звярталася нават шляхта. Дзейнічаў на падставе так званага копнага права. Суддзямі былі найбольш паважаныя, старэйшыя сяляне, якія адначасова выконвалі і следчыя дзеянні. Феадалы былі незадаволены яго існаваннем, і ў XVII ст. дзейнасць яго спыняецца.

***КРОЎНЫЯ***, крэўныя, родныя па крыві сваякі.

***КРЫЎДА***, маральныя і матэрыяльныя страты, пагроза жыццю і здароў'ю, іншая шкода асобе, нанесеная ў выніку процiпраўных дзеянняў, знявага яе інтарэсаў, чалавечай годнасці. Статут абвяшчаў аднолькавую для ўсіх жыхароў Вялікага княства Літоўскага справядлівасць і гарантыю на судовую абарону, аднак адказнасць за крыўду залежала ад грамадскага і службовага становішча пакрыўджанага і злачынцы.

***КУНІЦА***, 1) грашовая адзінка ў даўнія часы. У некаторых мясцовасцях азначала «грошы» да XVII ст.; 2) падатак, які плацілі княжацкаму двару; 3) вывадная куніца — плата за дзяўчыну, якая выходзіла замуж у чужую воласць; 4) вывадная куніца — плата за выхад залежнага чалавека ад свайго феадала; 5) кайданы — слуп з прымацаваным да яго жалезным абручом ці ланцугом з ашыйнікам, наручнікам або наножнікам, якія надзявалі на злачынцаў.

***КУРАТАР***, апякун, асоба, якая ажыццяўляла апеку ў адносінах да непаўналетніх дзяцей, удоў, псіхічна хворых людзей і марнатраўцаў.

***ЛАН***, адзінка вымярэння ў Вялікім княстве Літоўскім, роўная 3 валокам, або 63 га.

***ЛАЎНІК***, прысяжны засядацель у гарадах, якія атрымлівалі магдэбургскае права, член войтаўска-лаўніцкага суда. Паводле «Уставы на валокі» 1557 г.— службовая асоба з ліку сялян, якая ўдзельнічала ў разглядзе некаторых сялянскіх спраў і наглядала за парадкам.

***ЛЕТА ЗУПОЛЬНЫЕ***, узрост паўналецця. Статут вызначаў паўналецце для мужчын з 18 гадоў, для жанчын — з 15 гадоў (раздз. 6, арт. 1). Непаўналетнія дзеці знаходзіліся пад апекай бацькоўскай або іншых асоб (раздз. 6, арт. 2, 3). Закон клапаціўся аб ахове праваў непаўналетніх. Дзеяздольнасць асобы наступала, як правіла, з

моманту дасягнення паўналецця. Паўналетнія маглі распараджацца маёмасцю, складваць завяшчанні, адказваць паісках і інш. Выключэннем былі прадугледжаныя законам выпадкі (раздз. 6, арт. 8). Цячэнне іскавай даўнасці прыпынялася да наступлення паўналецця па справах аб уласнасці і некаторых іншых.

***ЛІСТ ВЫВАЛАНЫ***, вялікакняжацкая грамата, на падставе якой пэўная асоба пазбаўлялася ўсіх грамадзянскіх правоў і падлягала выгнанню за межы дзяржавы. У лісце былі запісаны звесткі пра асобу, сутнасць і акалічнасць здзейсненага ёю злачынства і рашэнне аб выгнанні. Жыхарам дзяржавы забаранялася прадастаўляць вываланцу сховішча і мець з ім сувязь. Ліст агалошваўся возным і вывешваўся ў людных месцах.

***ЛІСТ ГАСПАДАРСКІ***, вялікакняжацкі заканадаўчы акт, якім вялікі князь дараваў землі, вызваляў ад воінскай службы і інш. (раздз. 1, арт. 29; раздз. 2, арт. 3; раздз. 3, арт. 4 і інш.).

***ЛІСТ ЖАЛЕЗНЫ***, глейт, ахоўная грамата, якая давалася асобам, пазбаўленым грамадзянскіх правоў, на 1 год і 6 тыдняў, або даўжнікам да 3 гадоў, калі яны сталі неплацежаздольнымі ў выніку вайны, пажару, іншага стыхійнага бедства.

***ЛІСТ ЗАПАВЕДНЫ***, вялікакняжацкая грамата на прадаўжэнне тэрміну судовага разгляду справы (раздз. 1, арт. 18).

***ЛІСТ ЗАРУЧНЫ***, грамата, выдадзеная вялікім князем з мэтай забеспячэння асабістай бяспекі пэўнай асобы ці блізкіх у выпадку яўнай пагрозы з боку іншай асобы. У л.з. указвалася, з якой прычыны ён выдаваўся, называліся прозвішчы пагражаючай асобы і той, якая мела патрэбу ў ахове, вызначаўся памер зарукі, якая выплачвалася ў выпадку гвалтоўных дзеянняў пагражаючай асобы. У прысутнасці сведак копію л.з. возны перадаваў той асобе, з боку якой выказвалася пагроза. Калі ў наступным часе гэта асоба прызнавалася вінаватай у забойстве таго чалавека, якому быў выдадзены ліст, ці членаў яго сям'і, яна каралася смерцю, нават калі не была непасрэдным выканаўцам злачынства. Пры адсутнасці вялікага князя л.з. выдавалі ваяводы і старасты.

***ЛІЦО***, рэчавы доказ, след злачынцы або злачынства.

***ЛЮДЗІ ЛЁЗНЫЯ***, люзныя, асобы без пастаяннага месца жыхарства і пэўных заняткаў, якія не займаліся карыснай працай.

***ЛЮДЗІ НЕПАХОЖЫЯ***, сяляне, якія страцілі права пераходу ад аднаго феадала да другога. У працэссе запрыгоньвання сялян колькасць іх павялічваецца. У залежнасці ад павіннасцей падзяляліся на цяглых, асадных і інш.

***МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА***, сукупнасць прававых норм, якія рэгламентавалі наданне гарадам Беларусі самакіравання па тыпу г. Магдэбурга. Граматы на магдэбургскае права пачалі выдавацца з канца XIV ст. Яны замацоўвалі прававы статус горада, правы і абавязкі насельніцтва. Гаражане мелі права выбраць свой орган самакіравання — раду. Ствараліся ўласныя гарадскія суды. М.п. садзейнічала сацыяльна-эканамічнаму і палітычнаму развіццю гарадоў Беларусі і мела пэўныя асаблівасці і адрозненні ад нямецкага гарадского права. Яно грунтавалася на старажытным беларускім праве.

***МАГІСТРАТ***, орган самакіравання і суда ў гарадах, якія мелі граматы на магдэбургскае права. Складаўся з рады (уваходзілі радцы і бурмістры) і лавы (уваходзілі лаўнікі — засядалі ў судах). Узначальваў магістрат войт — галава горада, які, як правіла, меў намесніка — ландвойта (лентвойта).

***МАЕСТАТ ГАСПАДАРСКІ***, велічнасць вялікага князя.

***МАЁМАСЦЬ (маетность)***, сукупнасць матэрыяльных каштоўнасцяў, якія з'яўляліся аб'ектам права ўласнасці і валодання. Статут гаворыць аб «именьи» — нерухомай маёмасці і «рэчы» — рухомай маёмасці. Упершыню закон замацаваў права феадалаў распараджацца ў поўным аб'ёме нерухомай маёмасцю (Статут 1529 г. дазваляў толькі 1/3 часткай). Маёмасць набывалася рознымі шляхамі: па спадчыне, выслугай, прырашчэннем, купляй і інш. Усе пагадненні адносна маёмасці павінны былі адпаведным чынам афармляцца: здзелкі на суму звыш дзесяці коп грошай — пісьмова, здзелкі з нерухомай маёмасцю — рэгістравацца ў судах. Права ўласнасці абаранялася судом.

***МАНДАТ***, пісьмовая позва ў суд ад імя вялікакняжацкай канцылярыі.

***МАРШАЛАК***, службовая асоба у Вялікім княстве Літоўскім. Маршалак земскі ведаў этыкетам і парадкам пры двары вялікага князя, старшынстваваў на пасяджэннях рады і сойма, дапускаў на аудыенцыі замежных паслоў і інш. Яго намеснікам быў маршалак дворны. Павятовы маршалак старшынстваваў на сойміку, узначальваў павятовае войска пры адсутнасці павятовага старасты.

***МАЦЯРЫЗНА***, спадчына па мацярынскай лініі.

***МЕЖАВЫЯ ЗНАКІ***, спецыяльныя знакі для пазначэння межаў зямельных участкаў, уладанняў. Былі пашыраны дукт (межавая лінія) і капец (земляны насып).

***МІЛЯ***, мера адлегласці. У Вялікім княстве Літоўскім ўжывалася так званая літоўская міля, якая ў XVI—XVII стст. складалася з 300—315 шнуроў або 13 230—16 300 локцяў; у XVII—XVIII стст. адпавядала 7,289 расійскім вёрстам (7,777 км).

***МОРГ***, адзінка вымярэння плошчы ў Вялікім княстве Літоўскім. Раўняўся 0,71 га.

***МЫТА (мыт)***, пошліна з купцоў і іншых гандляроў за ўвоз і вываз тавараў. Вярхоўная ўлада клапацілася аб належным паступленні мыта ў казну дзяржавы, забараняла прыватным асобам «новыхъ мытъ вымышляти», рэгламентавала дзейнасць мытнікаў і інш (раздз. 1, арт. 25, 26).

***МЯШЧАНЕ***, падатковае саслоў'е, якое ўключала розныя катэгорыі гарадскога насельніцтва. Афармленне саслоўных правоў мяшчан пачалося з канца XIV ст., калі гарадам пачалі даваць граматы на магдэбургскае права. Правы і абавязкі мяшчан вызначаліся таксама пастановамі сойма і Статутамі. Статут 1566 г. гаворыць аб мяшчанах права магдэбургскага (раздз. 4, арт. 47), мяшчанах горада Вільні (раздз. 3, арт. 27), асаблівую ўвагу надае падсуднасці тых судовых спраў, у якіх адной з бакоў выступаў мяшчанін (раздз. 14, арт. 46 і інш.), аб мерах вагі і даўжыні (раздз. 3, арт. 30) і інш.

***НАБІЛІТАЦЫЯ***, увядзенне ў прывілеяваны стан, набыццё шляхецтва.

***НАВЯЗКА***, грашовая кампенсацыя, якая вызначалася судамі ў якасці асноўнага ці дадатковага пакарання за здзяйсненне такіх крымінальных злачынстваў, як цялесныя пашкоджанні, пабоі, нязначны крадзеж маёмасці. Статут вызначаў памер навязкі ў залежнасці ад характару злачынства і саслоўнага становішча злачынцы і пацярпелага (раздз. 12, арт. 1, 2, 6).

***НАЕЗД***, нападзенне на маёнтак, спалучанае з гвалтоўнымі дзеяннямі адносна асобы, пашкоджаннем ці рабаваннем маёмасці, захопам зямель і сялян. Наезд быў характэрным злачынствам феадальнага перыяду, з яго дапамогай феадалы імкнуліся павялічыць свае ўладанні і маёмасць або вырашыць спрэчкі самасудам. Здзяйсняўся наезд асабіста феадалам або яго слугамі і залежнымі людзьмі. Вярхоўная ўлада імкнулася абмежаваць свавольства феадалаў і таму паступова павялічвала адказнасць за наезд, хаця і патрабавала належных доказаў здзяйснення злачынства. За наезд, абцяжараны забойствам, смяротнай кары падлягалі выканаўцы і саўдзельнікі, а з іх маёмасці спаганялася галоўшчына і кампенсавалася шкода. Па-

цярпелыя мелі права на неабходную абарону і неслі адказнасць за забойства злачынцаў. Статут падрабязна вызначаў парадак збірання доказаў па справах аб наездзе. У прыватнасці, пакрыўджаны абавязаны быў у самы сціслы тэрмін абвясціць бліжэйшых суседзяў аб наездзе і прад'явіць доказы наезду. Пабоі і раны сведчыў возны. Пазней пацярпелы рабіў афіцыйную заяву ў суд і уносіў заяву ў судовыя кнігі (раздз. 11, арт. 1—7). У асобныя склады злачынства Статут вылучае наезд на дом, маёнтак, царкву, а таксама наезд у ваенны перыяд.

***НАМЕСНІК***, прадстаўнік вялікага князя ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках Вялікага княства Літоўскага. У першую чаргу, гэта ваяводы, якія ставіліся замест удзельных князёў. Пазней наменікамі называліся і іншыя службовыя асобы, напрыклад, памочнікі ваяводаў і старастаў.

***НЕДБАЛОСТЬ***, нядбайнасць, бесклапотнасць.

***НЕМОЦ***, хвароба, нямогласць. Лічылася падставай вызвалення ад пэўнай адказнасці пры адсутнасці шляхціца ў войску ў перыяд ваенных дзеянняў (раздз. 2, арт. 11).

***НЕОПАРТНОСТЬ***, неасцярожнасць, нядбайнасць. У пэўных выпадках, як і «недбалость», цягнула крымінальную адказнасць, напрыклад, дапушчэнне пажару ў лесе (раздз. 10, арт. 17).

***«ОБЕРНУТИ НИ ВО ШТО»***, прызнаць страціўшым сілу або не маючым сілы.

***«ОСЕЛЫ»***, асоба, якая мае нерухомую маёмасць, маёнтак.

***«ОТВОЛОКА»***, затрымка, валакіта.

***«ОТПАДЫВАТИ»***, пазбаўляцца.

***«ОТЧЫЧЫ»***, айчызныя людзі, назва залежнага насельніцтва, якое не мела права пераходу ад аднаго феадала да другога.

***«ОШАЦОВАТИ»***, ацаніць.

***ПАБОРЦЫ***, службовыя асобы ў Вялікім княстве Літоўскім, якія займаліся зборам падаткаў з насельніцтва.

***ПАВАБЕННЕ***, вызыванне на руку, выклік на паядынак, якія паступова пачалі забараняцца ў Вялікім княстве Літоўскім.

***ПАВАДОВЫ БОК***, асоба, якая звяртаецца з іскам у суд.

***ПАВАЛАННЕ***, абвінавачванне, заява ў суд аб злачынстве. Часцей за ўсё адносна крадзяжу маёмасці.

***ПАВЕЗА***, шчыт.

***ПАВЕТ***, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім. Да рэформы 1564—1566 гг.— судова-адміністрацыйная адзінка, якую ўзначальвалі старасты або намеснікі. Пасля рэформы былі дакладна вызначаны межы 30 паветаў, 16 з якіх знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, уваходзілі ў склад ваяводстваў.

***ПАГАНЕННЕ СЛЕДАМ***, расследаванне злачынства, праследаванне злачынцы па яго слядах адпаведна звычаёвага, копнага права.

***ПАДДАНЫЯ (подданыя)***, людзі, якія былі падпарадкаваны манарху (вялікаму князю ў Вялікім княстве Літоўскім) або пэўнаму феадалу, царкве (**«подданые Рымскому костелу»** і інш.). Падданства было заснавана на асабістай залежнасці васала ад сюзерэна, селяніна ад свайго пана, усяго насельніцтва ад вялікага князя (гаспадара дзяржавы). Часцей за ўсё падданымі называлі прыгонных сялян.

***ПАДКАМОРСКІ СУД***, спецыяльна створаны ў 1566 г. суд па зямельных спрэчках шляхты. Суддзя — падкаморы (падкаморны) прызначаўся вялікім князем (пазней па Статуту 1588 г. выбіраўся павятовай шляхтай на сойміку) з ліку феадалаў-землеўладальнікаў пэўнага павета. Пры ўступленні на пажыццёвую пасаду ён прыносіў спецыяльную прысягу, тэкст якой рэгламентаваўся Статутам (раздз. 4, арт. 70). Як правіла, разгляд справы адбываўся на месцы спрэчных межаў землеўладанняў, дзе суддзя выслухваў тлумачэнні бакоў, сведак і інш., а затым з дапамогай сваіх памочнікаў-каморнікаў вырашаў справу і ўстанаўліваў межавыя знакі. Пасада падкаморыя была вельмі пачэснай і прыбытковай. Падкаморскі суд у 1811 г. быў пераўтвораны ў расійскі межавы суд.

***ПАДКАМОРЫ (падкаморны)***, назва службовай асобы. Прыдворны падкаморы наглядаў за парадкам і ўбранствам у пакоях вялікага князя. Як правіла, прызначаўся з буйных феадалаў і ўваходзіў у склад рады. Павятовы падкаморы — суддзя падкаморскага суда. Гэту пасаду мог займаць толькі ўраджэнец Вялікага княства Літоўскага, шляхціц-хрысціянін, які ведаў права і валодаў маёнткам у павеце, дзе быў суддзёй. Выбіраў сабе з ліку мясцовай шляхты аднаго-двух памочнікаў, якія абмяралі спрэчныя землі, устанаўлівалі межавыя знакі, разглядалі дробныя справы.

***ПАДКАНЦЛЕР***, уведзеная у 1566 г. пасада намесніка канцлера Вялікага княства Літоўскага. Быў хавальнікам малой дзяржаўнай пячаткі.

***ПАДСКАРБІ***, вышэйшая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, якая выконвала функцыі міністра фінансаў дзяржавы. Падскарбі земскі з'яўлялся членам рады, загадваў дзяржаўным скарбам, вёў улік прыбыткаў і выдаткаў дзяржавы, наглядаў за зберажэннем грошай і каштоўнасцяў, атрыбутаў вялікакняжацкай улады і інш. Яму дапамагаў падскарбі дворны, пад наглядам якога знаходзіўся скарб вялікага князя.

***ПАДСТАРАСТА***, намеснік павятовага старасты. Уваходзіў у склад ніжэйшага гродскага (замкавага) суда.

***ПАДСУДАК***, памочнік суддзі, член земскага суда, у абавязак якога ўваходзіла дасудовая падрыхтоўка разгляду спраў.

***ПАКАРАННЕ (каранье)***, мера дзяржаўнага прымусу ў Вялікім княстве Літоўскім у адносінах да злачынцаў, якая з'яўлялася карай, загладжваннем віны, кампенсацыяй нанесенай шкоды і застрашваннем. У адпаведнасці з класавым характарам феадальнага права пры прызначэнні меры пакарання ўлічваліся не толькі характар здзейсненага злачынства і яго цяжкасць, але грамадскае і службовае становішча пацярпелага і злачынцы. Закон рэгламентаваў такія віды пакаранняў, як смяротную кару, турэмнае зняволенне, цялесныя і членашкодніцкія пакаранні, пазбаўленне гонару і правоў, выгнанне за межы, а таксама маёмасныя пакаранні — канфіскацыю маёмасці, галоўшчыну, навязку. Грошавыя штрафы спаганяліся на карысць казны, судовых органаў і пацярпелых. Пастунова пашыраецца прымяненне турэмнага зняволення: калі Статут 1529 г. прадугледжвае яго толькі ў трох артыкулах, то Статут 1566 г.— больш чым у трыццаці. Павялічваецца колькасць артыкулаў з рэгламентацыяй цялесных пакаранняў, прычым Статут 1566 г. упершыню гаворыць аб адразанні языка і біцці дубцамі. Амаль у тры разы павялічваецца колькасць выпадкаў смяротнага пакарання, прычым акрамя павешання і спалення Статут 1566 г. гаворыць аб утапленні.

Пры гэтым Статут абвяшчае справядлівыя прынцыпы вызначэння пакарання: адказнасць толькі па суду, у адпаведнасці са статутавымі нормамі, кожнага чалавека за сваю віну і ў залежнасці ад цяжкасці здзейсненнага злачынства. Закон рэгламентаваў змякчаючыя і абцяжарваючыя віну акалічнасці. Асоба, якая знаходзілася ў стане неабходнай абароны, не несла крымінальнай адказнасці.

***ПАЛОННЫЯ (палоненікі)***, захопленыя ў палон у час ваенных дзеянняў людзі. Найбольш бяспраўная частка феадальна залежных людзей, асноўная крыніца папаўнення чэлядзі нявольнай у XV—XVI стст.

***ПАМІЛЬНАЕ***, плата вознаму за выезд на месца здарэння (разгляду справы), якая вызначалася адносна адлегласці, г.зн. колькасці міляў, што праехаў возны.

***ПАМЯТНАЕ***, плата суду за запісы ў судовых кнігах, або пачастунак суддзям копнага суда за выйграную справу.

***ПАНСТВА***, дзяржава, Вялікае княства Літоўскае. У артыкуле 1 раздзела 1 ад імя вялікага князя гаворыцца аб **«томъ панствѣ нашомъ Великомъ Князствѣ Литовскомъ»**.

***ПАНЫ***, буйнейшыя, радавітыя феадалы Вялікага княства Літоўскага. Паны радныя ўваходзілі ў склад вышэйшага органа дзяржавы — рады, паны харугоўныя збіраліся на вайну з уласным войскам, пад уласнымі сцягамі (харугвамі), а не пад павятовымі харугвамі.

***ПАПРАВЫ СТАТУТАВЫЯ 1578 г.***, змяненні і дапаўненні, унесеныя у Статут 1566 г. Шляхта амаль адразу пасля ўвядзення ў дзеянне Статута 1529 г. патрабавала яго **«папраўы»**, што ў наступным прывяло да прыняцця новага Статута 1566 г. Аднак і гэты Статут патрабаваў удакладнення і дапаўнення, аб чым гаварылася ў пастановах соймаў 1568, 1569 і інш. гадоў. Найбольш значныя **«папраўы»** былі зацверджаны на Варшаўскім сойме ў 1578 г. Яны змешчаны ў якасці дапаўнення да Статута 1566 г. у 23-й кнізе «Временника императорского Московского общества истории и древностей российских» (1855 г.).

***ПАСПАЛІТАЕ ПРАВА***, агульнадзяржаўнае свецкае заканадаўства Вялікага княства Літоўскага.

***ПАСПАЛІТАЕ РУШЭННЕ***, шляхецкае апалчэнне ў Вялікім княстве Літоўскім; асноўная форма арганізацыі ўзброенных сіл дзяржавы, заснаваная на тым, што кожны шляхціц павінен пры неабходнасці адпраўляцца на вайну.

***ПАТВОР***, паклёп, ілжывы данос.

***ПАХВАЛКА***, выказаная публічна рэальная пагроза адносна жыцця, здароў'я ці маёмасці іншай асобы, што стварала падставы да атрымання ад князя заручнага ліста — ахоўнай граматы.

***ПЕНЯЗЬ***, грашовая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім, а таксама сукупны тэрмін для пазначэння грошай. Быў ніжэйшая адзінкай трохступенных сістэм грашовага ліку: капа — грош — пенязь, або рубель — грош — пенязь.

***ПЕРАКАНАННЕ ПРАВАМ***, даказванне віны ў вызначаным законам парадку.

***ПЕРАСУД***, плата за разгляд судовай справы. Артыкул 3 раздзела 4 Статута 1566 г. **«О перасудѣхъ и доходѣхъ судьи подсудка и писара»** рэгламентуе колькасць і парадак спагнання перасуду і памятнага.

***ПОВАДАВАЯ СТАРАНА (жалобная старана)***, ісцец, асоба, якая звярнулася ў суд з заявай, іскам, скаргай на нанясенне ёй шкоды, учыненне злачынства і інш. У залежнасці ад падставы звароту закон гаворыць таксама аб **«старане абражанай»**, **«балючай»** і інш. (раздз. 6, арт. 9, 23, 24 і інш.).

***ПОЗВА***, пісьмовы выклік на суд, павестка. Упершыню закон падрабязна рэгламентаваў, якім чынам афармляюцца і ўручаюцца позвы. Так, складалася позва павятовым пісарам або зацікаўленай асобай і замацоўвалася дзяржаўнай пячаткай і подпісам пісара. У ёй гаварылася аб сутнасці справы, указваліся прозвішчы старон і дата складання позвы, ад якой адлічваўся адпаведны тэрмін судовага разгляду (з'яўленне бакоў на суд) і інш. (раздз. 4, арт. 28). Закон замацоўваў пэўны парадак уручэння позваў асабіста істцом, а таксама возным, у тым ліку ў складаных выпадках — **«у вората уткнути»** і г.д. (раздз. 4, арт. 9). Парушэнне ўстаноўленай законам формы і працэдуры ўручэння рабіла позву несапраўднай. Няяўка ў суд па належна аформленай позве каралася штрафам або стратай іска.

***ПОПІСЫ ВОЙСКА***, перапіс ваеннаабавязанага насельніцтва. Статут замацоўваў парадак адносна **«пописованью шляхты повѣтовое у воеводствахъ або у староствахъ головныхъ»** (раздз. 2, арт. 28), устанаўліваў пэўную плату гетману і пісару за попіс (раздз. 2, арт. 16) і г.д.

***ПРАВЫ ПІСАНЫЯ***, пісанае заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Статут 1529 г. пачынаўся словамі: «Права писаные даны панству Великому князству Литовскому, Рускому, Жомойтскому и иных...»

***ПРАКУРАТАР***, адвакат (прафесійны юрыст, паверaны) у Вялікім княстве Літоўскім. Статут 1529 г. толькі адзначаў, што пракуратарамі не могуць быць чужаземцы, а Статут 1566 г. не толькі робіць выключэнне з гэтага правіла ў выпадках, калі справа будзе ісці аб смяротным пакаранні або страце гонару, але рэгламентуе пэўны прававы статус пракуратараў. Закон гаварыць аб правах і абавязках пракуратараў, замацоўвае адказнасць **«фальшывыхъ и подступныхъ»** пракуратараў — **«шляхтичъ честь тратить, а не шляхтичъ горло тра-**

**тить»**), рэгламентуе выпадкі абавязковага або бясплатнага прадастаўлення адваката і інш. (разд. 4, арт. 31—37). Так, абавязковым быў удзел адваката па справах аб абразе гонару князя, па патрабаванню тых асоб, якія самі не маглі «**справовати речы своее у суда и не вмѣючи мовити**». Па справах «**убогихъ, сиротъ и вдовъ немаетныхъ**» адвакат прызначаўся бясплатна (разд. 4, арт. 33).

***ПРАСОКА***, вышук; плата за вышук, за следства.

***ПРАТЭСТАЦЫЯ***, скарга або заява, з якой пакрыўджаная (незадаволеная) асоба звярталася ў суд. З падачай пратэстацыі, якая заносілася ў судовыя кнігі, прыпынялася цячэнне іскавай даўнасці.

***ПРЫВЕНАК***, розніца паміж коштам вена і ўнясення.

***ПРЫСЯГА***, афіцыйнае, урачыстае абяцанне прытрымлівацца належных абавязкаў, патрабаванняў закону, пэўных правілаў паводзін, быць сумленным і праўдзівым. Была пашырана ў палітычнай і юрыдычнай практыцы сярэдневяковай Еўропы. Пры ўступленні на пасаду прысягалі феадальныя манархі і вышэйшыя службовыя асобы. Пры прыняцці важных законаў у якасці прысягі выступала прэамбула, або першыя артыкулы. Такімі з'яўляюцца першыя два артыкулы Статута 1566 г.

Прысягу прыносілі члены рады і сойма, судовыя асобы. Упершыню тэкст прысягі павятовых суддзяў, пісараў і возных рэгламентаваўся Статутам 1566 г. У працэсуальным праве прысяга з'яўлялася не толькі дадатковым сродкам доказаў па крымінальных і грамадзянскіх справах, але і проста доказам у выпадку недастатковасці (або адсутнасці) іншых доказаў.

***ПРЭЗЫСК***, усё тое, што атрымлівала пэўная старана ад другой у судовым парадку (грошы, маёмасць, задавальненне патрабаванняў), а таксама штраф, які спаганяўся з пазванай стараны за няяўку ў суд.

***ПРЭНГЕР***, ганебны слуп.

***РАДА, ПАНЫ-РАДА***, вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім. У яе склад уваходзілі вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы (маршалак, гетман, канцлер, падскарбі і інш.), а таксама ваяводы, кашталяны, некаторыя старасты, каталіцкія біскупы і іншыя асобы. Напачатку была дарадчым органам пры вялікім князю, у XV ст. набывае самастойнасць. Грамата 1492 г. абавязвае вялікага князя падпарадкоўвацца радзе. Рада становіцца вышэйшым заканадаўчым, выканаўча-распарадчым і судовым органам. Да ўвядзення ў дзеянне сойма дзяржавы радзе належалі ўсе важней-

шыя дзяржаўныя справы, у тым ліку абарона дзяржавы, выбранне вялікага князя, міжнародныя справы і інш. Са з'яўленнем сойма рада фактычна стала яго верхняй палатай.

***РАДА ГАРАДСКАЯ***, орган ўлады на чале з войтам ў гарадах з магдэбургскім правам. Члены рады (радцы, райцы, ратманы), прыкладнай колькасцю ад 4 да 20 чалавек (у залежнасці ад памераў горада), выбіраліся мяшчанамі або прызначаліся войтам. Рада займалася гарадской гаспадаркай, добраўпарадкаваннем горада і яго абаронай, зборам падаткаў і інш. Разам з войтам рада ўдзельнічала ў разглядзе судовых спраў.

***РАДЦА (райца, ротман)***, член гарадской рады — органа самакіравання ў гарадах Беларусі з магдэбургскім правам. Колькасць радцаў была рознай у залежнасці ад колькасці гарадскога насельніцтва (у Мінску — 12, у Навагрудку — 6, у Полацку — 20, а з 1511 г. — 24 і г.д.).

***РАЗБОЙ***, напад з мэтай завалодання чужой маёмасцю, спалучаны з прычыненнем цялесных пашкоджанняў або смерці. З разбойных нападаў Статут вылучаў у асобны склад злачынства — наезд. Разбой лічыўся адным з цяжкіх крымінальных злачынстваў і пры належных доказах разбойнік караўся смерцю (раздз. 11, арт. 23).

***РАЗВОД***, у артыкуле **«О розводѣхъ малженскихъ передъ судомъ духовнымъ»** раздзела 5 Статута гаворыцца аб наступствах царкоўнага разводу: у выпадку, калі муж будзе прызнаны вінаватым у разводзе, жонка застанецца **«на оправѣ отъ него описаной»**, калі ж вінаватай будзе жонка — яна траціць **«внесенье и оправу»**. У выпадку важных прычын разводу застаецца **«вѣнокъ пры мужу и внесенье при жонѣ»**. Тым самым Статут умешваецца ў царкоўную юрысдыкцыю і спрабуе шлюбна-сямейныя адносіны паставіць на прававую аснову.

***РАНЫ***, цялесныя пашкоджанні, якія вылучаліся ў самастойны склад злачынства, а таксама лічыліся абцяжарваючымі віну акалічнасцямі пры разбоях, наездах, звадзе (раздз. 11, арт. 6, 13, 15, 18, 21, 23, 26, 27 і інш.).

***РОК***, тэрмін, час. *Рок замераны* — пэўны тэрмін, у які належала выканаць пэўнае дзеянне, пасля чаго наступалі юрыдычныя вынікі. *Рок завіты* — канчаткова вызначаны час яўкі ў суд, разгляду справы. *Рок ліцовы* — скарочаны тэрмін яўкі ў суд для злодзеяў. *Рокі земскія* — тэрміны судаводства, сесіі у земскіх судах. *Рочкі гродскія* —

тэрміны судаводства (судовыя сессіі) у гродскіх судах. *Рокі статутавыя* — тэрмін унясення платы за выйгрыш справы у судзе.

***РУКАЁМСТВА***, парука, паручыцельства, адзін са сродкаў умацавання выканання абавязацельстваў. Паручыцель нёс адказнасць у выпадку невыканання абавязацельства. Прадугледжвалася нават у крымінальным праве, аднак па справах, па якіх закон рэгламентаваў смяротную кару, магчыма было толькі са згоды пацярпелага.

***РЭЕСТРЫ***, спісы, вопісы, судовыя кнігі. Напрыклад, Статут гаворыць аб агульных воінскіх рэестрах і асаблівых, у якіх запісвалі тых ваеннаабавязаных, якія спазніліся ці не з'явіліся ў войска (раздз. 2, арт. 13).

***РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ*** (лац. *res publika*). У Статутах Вялікага княства Літоўскага азначае паняцці: дзяржава, грамадства, дзяржаўная справа, агульная справа. З 1569 г.— назва канфедэратыўнай дзяржавы ў складзе Польшчы і Вялікага княства Літоўскага.

***РЭЧЫ КРЫВАВЫЯ***, цяжкія крымінальныя злачынствы, за якія, як правіла, прызначалася смяротная кара. Перш за ўсё, гэта забойства, наезд, разбой, падпал і г.д.

***РЭЧЫ МЕНШЫЯ***, крымінальныя злачынствы, за якія не прадугледжвалася пакаранне смерцю (у адрозненне ад рэчаў крывавых). Дакладнага пераліку абодвух катэгорый злачынстваў закон не дае.

***САЖАНЬ***, мера даўжыні. У Вялікім княстве Літоўскім выкарыстоўваўся ў асноўным малы сажань, роўны прыкладна 188 см. У Расіі ў 1649 г. быў уведзены металічны эталон у 216 см, які падзяляўся на 3 аршыны, або на 48 вяршкоў.

***СВЕДКІ***, асобы, якім былі вядомы акалічнасці пэўнага злачынства ці грамадзянскай справы. Закон не ўсіх фізічных асоб прызнаваў сведкамі. Перш за ўсё яны павінны былі быць хрысціянамі (па некаторых справах сведкамі маглі быць татары; яўрэі — па справах аднаверцаў), свабоднымі людзьмі (не нявольнікамі), мець добрыя паводзіны. Не маглі быць сведкамі псіхічна хворыя людзі, слугі, падданыя ў адносінах да сваіх гаспадароў і некаторыя іншыя асобы. Па шэрагу спраў закон патрабаваў наяўнасці некалькіх сведкаў. Прадугледжвалася адказнасць недобрасумленных сведкаў (раздз. 4, арт. 51—56 і інш.).

***СВІРЭПА***, кабыла. Статут вызначаў за свірэпу княжацкую, панскую, земянскую цану ў чатыры капы грошай, а за свірэпу рабочую — адну капу грошай (раздз. 13, арт. 1, 7).

***СЕРВІТУТЫ***, абмежаванае права карыстання чужой маёмасцю. Асабліва былі пашыраны ў Вялікім княстве Літоўскім зямельныя сервітуты: права выпасу жывёлы, праезду, рыбнай лоўлі, карыстання ляснымі ўгоддзямі, сенажацямі і інш. Сервітутнае права грунтавалася на старажытных звычаях, і сяляне змагаліся за захаванне сервітутаў.

***СКАРБ***, 1) дзяржаўная казна Вялікага княства Літоўскага; 2) каштоўнасці, схаваныя ў тайніку. Статут замацоўвае правіла: палавіна знойдзенага на чужой зямлі скарба павінна быць аддадзена ўладальніку зямлі пры ўмове выпадковасці знаходкі. Калі ж хто наўмысна шукаў на чужой зямлі скарб (клад), то ўсё аддаецца гаспадару (раздз. 9, арт. 20).

***СЛУШНАЕ ПРАВА***, тэрмін, якім Статут вызначаў паняцце правільнага, дакладнага закону або законнага, абгрунтаванага доказу справы.

***«СОВИТО»***, удвая, у два разы.

***СОЙМ (СЕЙМ)***, саслоўна-прадстаўнічы орган у Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы. Паступова на працягу XIV—XV стст. фарміруецца саслоў'е шляхты, і нарады вялікага князя і рады з шырокім колам феадалаў набываюць сістэматычны характар. Спачатку на сойме маглі прысутнічаць усе шляхціцы, а з 1512 г. устанаўліваецца правіла — павятовая шляхта выбірала на сойміках па два дэпутаты (паслы) ад кожнага павета. На агульны (вальны) сойм збіраліся: вялікі князь, паны-рада, каталіцкія і праваслаўныя біскупы, паслы ад павятовай шляхты і некаторыя іншыя асобы. Галоўная роля на сойме належала радзе. На сойме вырашаліся важнейшыя пытанні: выбранне вялікага князя, пытанні вайны і міру, міжнародныя адносіны, устанаўленне падаткаў, прыняцце законаў. Соймы праходзілі ў Вільні, Навагрудку, Брэсце, Гродне і іншых гарадах Вялікага княства Літоўскага. Статут 1566 г. шмат увагі надае дзейнасці сойма (раздз. 3, арт. 5, 6 і інш.).

***СОЙМІК (СЕЙМІК)***, агульны сход павятовай шляхты, або шляхты ваяводства. Статут 1566 г. заканадаўча аформіў дзейнасць соймікаў, усклаў на іх абавязак абмяркоўваць мясцовыя пытанні перад вальным соймам, выбіраць дэпутатаў сойма і павятовых суддзяў. Збіраліся часам агульныя для некалькіх ваяводстваў соймікі — генеральныя.

***СПІКНЕННЕ***, змова, хаўрус.

***СТАНЫ***, пэўныя групы насельніцтва, саслоў'і. Статут гаворыць аб свецкіх і духоўных станах, аб людзях шляхецкага стану і простага стану. Закон абавязваў разглядаць судовыя справы ад **«вышнего стану ажъ и до нижнего тыми одными правы писаными»** (раздз. 1, арт. 1).

***СТАРАНА АДПОРНАЯ (пазваная)***, адказчык у судовым працэсе.

***СТАРАНА ПОВАДАВАЯ***, ісцец.

***СТАРАСТА (староста)***, службовая асоба мясцовага кіравання, глава павятовай адміністрацыі, член гродскага (замкавага) суда.

***СТАРАЦ***, службовая асоба сялянскага самакіравання, член копнага суда, а таксама ніжэйшы прадстаўнік панскай адміністрацыі.

***СТАЦЫЯ***, адна са старажытных дадатковых павіннасцяў людзей простага стану, якая складалася з натуральнага (пазней грашовага) падатку на ўтрыманне князя і іншых службовых асоб у час іх праезду (у XVI ст. збіралася часам незалежна ад праезду). Спаганялася таксама на ўтрыманне войска на месцах дыслакацыі (раздз. 2, арт. 21—22 і інш.).

***СУДАВОДСТВА***, вызначаны працэсуальным законам парадак вядзення грамадзянскіх і крымінальных спраў. Працэсуальны закон вызначае прынцыпы судаводства, паўнамоцтвы суда, правы і абавязкі іншых удзельнікаў працэсу і г.д.

***СУДДЗЯ***, асоба, якая выконвае судовыя функцыі. Спачатку ў Вялікім княстве Літоўскім суддзямі былі ўсе члены вялікакняжацкай адміністрацыі (цэнтральнай і мясцовай), а таксама феадалы ў адносінах да залежнага насельніцтва. У XVI ст. у выніку судовай рэформы з'яўляюцца выбарныя, аддзеленыя ад адміністрацыі суды з суддзямі-прафесіяналамі. Статут 1566 г. замацоўвае дзейнасць першага аддзеленага ад адміністрацыі суда земскага, у склад якога суддзі (суддзя, падсудак і пісар) выбіраліся пажыццёва, а таксама дзейнасць спецыяльнага суда па зямельных спрэчках шляхты — падкаморскага. Закон рэгламентуе прававы статус суддзяў і вызначае іх адказнасць за парушэнне закону.

***СУДОВАЯ РЭФОРМА XVI ст. НА БЕЛАРУСІ***, адна з рэформаў (разам з зямельнай, адміністрацыйна-тэрытарыяльнай і інш.), у выніку якой была рэфармавана ўся судовая сістэма Вялікага княства Літоўскага і былі створаны новыя суды для шляхецкага саслоўя: Галоўны суд (Трыбунал) — вышэйшая апеляцыйная інстанцыя дзяржавы і мясцовыя суды — земскія, падкаморскія, каптуровыя.

Яны дзейнічалі на новых, больш прагрэсіўных прынцыпах судовага ладу і судаводства — аддзялення судовай улады ад выканаўчай, выбарнасці суддзяў і інш.

***СУДОВАЯ СІСТЭМА***, сукупнасць усіх судоў дзяржавы, якія маюць агульныя задачы, звязаны паміж сабой адносінамі па ажыццяўленню правасуддзя. Судовая сістэма залежыць, як правіла, ад асаблівасцей тэрытарыяльнай арганізацыі дзяржавы.

***СУДОВАЯ УЛАДА***, у адпаведнасці з тэорыяй падзела ўладаў, самастойная і незалежная сфера публічнай улады (разам з заканадаўчай і выканаўчай), якая ўяўляе сабой сукупнасць паўнамоцтваў па ажыццяўленню правасуддзя — разгляду і вырашэнню крымінальных, грамадзянскіх і інш. спраў у вызначаным законам працэсуальным парадку, а таксама сістэму дзяржаўных органаў, якія ажыццяўляюць адзначаныя паўнамоцтвы. Статут 1566 г., замацаваўшы утварэнне першага аддзеленага ад адміністрацыі земскага суда, паклаў пачатак працэсу падзела ўладаў.

***СУДОВЫ ЛАД***, 1) сукупнасць нормаў, якія вызначаюць задачы, прынцыпы арганізацыі і дзейнасці, структуру і кампетэнцыю судоў; 2) сістэма судовых устаноў.

***СЯРЭБШЧЫНА***, дзяржаўны грашовы падатак на ваенныя мэты, памер і парадак збору якога вызначаўся соймам; часам проста грашовы падатак.

***ТАЛАКА***, старажытны народны звычай калектыўнай дапамогі ў гаспадарчых работах. Калі праца вымагала шмат работнікаў (будаўніцтва, касьба, збор ураджаю і інш.), запрашаліся сваякі, суседзі, аднавяскоўцы. Пасля працы спраўлялася вячэра, на якой спявалі талочныя песні. З фарміраваннем прыгоннага права феадалы ўвялі прымусовую талаку, якая пераўтварылася ў цяжкую павіннасць для сялян. Аб гэтым гаворыць, напрыклад, «Устава на валокі» 1557 г.

***ТРЭСЦІ***, праводзіць вобыск, абшукванне.

***ТУБЫЛЬЦЫ***, жыхары пэўнай мясцовасці ў Вялікім княстве Літоўскім, жыхары дзяржавы, у адрозненне ад «чужаземскіхъ, прыбылыхъ» людзей, «заграничниковъ». Закон удакладняе: «прыбылые из иншыхъ панствъ и тубылцы» і рэгламентуе ад імя вялікага князя: «въ держаньи и пожываньи и вѣчностей жадныхъ чужоземцомъ и заграничникомъ ани сусѣдомъ таго панства давати не маемъ; але то все мы и потомки наши... давати будуть повинни только Литвѣ а Руси, родичомъ старожитнымъ и врожонцамъ Великаго Князства Литовского и иныхъ земль

тому Великому Князству належачихъ» (раздз. 2, арт. 25, 26; раздз. 3, арт. 9).

***ТЭСТАМЕНТ***, аднабаковы прававы акт (завяшчанне), складзены адносна ўласнай маёмасці на выпадак смерці. У Статуце 1566 г. упершыню цэлы раздзел «О тестаменьтѣхъ» прысвечаны парадку афармлення завяшчальных запісаў. У ім гаворыцца аб асобах, якія маюць права складваць тэстаменты, і аб выключэннях з гэтага права: «шаленыя, кацеры, невольнікі» і інш., аб сведках, якія прысутнічаюць пры «справованью тестаментовъ» і г.д. Асаблівую ўвагу закон надаваў дамашняй форме завяшчанняў і парадку прызнання тэстаментаў сапраўднымі (раздз. 8, арт. 1—8).

***УВЯЗАННЕ***, увод ва ўладанне маёмасцю, які рабіўся па падставе распараджэння вышэйшых органаў улады або судовага рашэння. Статут асаблівую ўвагу надае парадку ўвода ва ўладанне маёнткамі «за долги або за иншую прычыну» (раздз. 9, арт. 15).

***УНЯСЕННЕ***, маёмасць, якая ўносілася нявестай у новую сям'ю. Складвалася з пасагу і выправы.

***УРАД (вряд)***, органы ўлады, кіравання, суда; агульнадзяржаўная, мясцовая, судовая і інш. адміністрацыя. Складаўся з пэўнай колькасці службовых асоб (враднікаў).

***УСТАВА***, нарматыўна-прававы, распарадчы акт, пастанова пэўных органаў у Вялікім княстве Літоўскім.

***ФАЛЬВАРАК***, феадальны маёнтак, які апрацоўваўся залежнымі сялянамі. Прадукцыя фальварка ў большасці ішла на ўнутраны і знешні гандаль, што сведчыла аб пачатку перахода ад натуральнай да рыначнай гаспадаркі.

***ФОЛЬГА***, паблажка, патуранне, паслабленне.

***ФУНДАЦЫЯ***, ахвяраванне цэрквам, манастырам, навучальным і іншым установам зямельных угоддзяў, маёнткаў, грошай, каштоўнасцяў і інш.

***ХАЛУПНІКІ***, малазямельныя і беззямельныя сяляне, маёмасць якіх, як правіла, складалася з дрэннай хаты (халупы), і таму яны вымушаны былі займацца сялянскім рамяством або наймацца на працу.

***ХАРУГВА***, вайсковы сцяг; вайсковая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім, якая выступала пад уласным сцягам.

***ХАРУНЖЫ (харужы)***, вайсковая службовая асоба. Харунжы земскі з'яўляўся сцяганосцам дзяржаўнага войска, харунжы дворны — прыдворны сцяганосец. Статут больш за ўсё надае ўвагу абавязкам павятовых харунжых — уліку ваеннаабавязанага насельніцтва, правядзенню аглядаў войска і інш. (раздз. 2, арт. 5, 6, 11, 12, 18 і інш).

***ЦІВУН***, службовая асоба мясцовай або дварцовай адміністрацыі, якая ведала гаспадарчымі справамі, а таксама судом.

***ЦЭХІ***, аб'яднанні рамеснікаў па прафесіям.

***ЦЯГЛЫ ЧАЛАВЕК***, феадальна залежны чалавек, асноўным абавязкам якога была паншчына.

***ЧУЖАЗЕМЦЫ***, жыхары іншых дзяржаў, у адрозненні ад тубыльцаў — жыхароў Вялікага княства Літоўскага.

***ЧЫНШ (цынш)***, грашовыя ці натуральныя плацяжы. У Вялікім княстве Літоўскім чынш быў асноўнай павіннасцю чыншавых сялян, пераважна ў грашовай форме.

***ЧЭЛЯДЗЬ***, найбольш бяспраўная частка феадальна-залежнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, большасць з якіх жыла пры дварах феадалаў. Закон гаворыць аб нявольнай чэлядзі (айчызнай, купленай, палоненай). Па Статуту 1566 г. рэгламентуюцца тры крыніцы папаўнення чэлядзі нявольнай: нараджэнне ад нявольнікаў, палон, самапродаж. Жаніцьба на нявольнай жанчыне таксама мела наступствам няволю для мужчын і іх дзяцей (раздз. 12, арт. 13). Калі хто-небудзь у галодны год выгнаў з дому сваю чэлядзь, яна станавілася вольнай (раздз. 12, арт. 13). Статут гаварыў аб магчымасці завяшчаць маёмасць чэлядзі нявольнай, аднак папярэдне падараваўшы ёй свабоду.

***ШАЛЕНЫ***, псіхічна хворы чалавек, які, як правіла, не падлягаў крымінальнаму пакаранню за злачынства.

***ШАЦУНАК***, ацэнка маёмасці, пісьмовы дакумент з ацэнкай маёмасці.

***ШКРУТЫНІУМ***, папярэдняе следства, выведванне, якое здзяйснялі па крымінальных справах спецыяльныя дзяржаўныя службовыя асобы.

***ШЛЮБ***, абавязванне, абяцанне, дамова (**«Мы, Господар обецуемъ і шлюбуемъ...»** — раздз. 1, арт. 1); жаніцьба.

***ШЛЯХТА***, прывілеяванае саслоў'е ў Вялікім княстве Літоўскім, прававы статус якога складваўся на працягу XIV–XVI стст. Раздзел 3

Статута 1566 г. прысвечаны шляхецкім вольнасцям: палітычным, эканамічным і асабістым правам шляхты. Фактычна ж увесь Статут перш за ўсё гаворыць аб абароне правоў шляхецкага саслоў'я. У чацвертым раздзеле замацоўваецца права шляхты судзіцца спецыяльнымі шляхецкімі судамі, аддзеленымі ад адміністрацыі. Статут упершыню рэгламентаваў права свабодна і цалкам распараджацца нерухомай маёмасцю. Жыццё, здароў'е і гонар шляхціца належалі судовай абароне. Асноўным абавязкам шляхты з'яўлялася вайсковая служба, парадак нясення якой рэгламентаваўся ў раздзеле 2 Статута.

***ШЫХ***, вайсковы строй, парадак вайсковага збору. Статут вызначаў парадак шыхавання — вайсковага збору паводле чыноў і званняў, а таксама адказнасць за яго парушэнне (раздз. 2).

***ЮРЫДЫКІ***, часткі тэрыторыі горада з залежным насельніцтвам, якія знаходзіліся пад адміністрацыйна-судовай уладай асобнага феадала або царквы.

# ЗМЕСТ

*Навуковае выданне*

**ДОЎНАР** Таісія Іванаўна
**САТОЛІН** Уладзімір Мікалаевіч
**ЮХО** Язэп Аляксандравіч

# СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА 1566 ГОДА

Галоўны рэдактар *Я.К. Кукушкін*
Рэдактар *А.Л. Мельнікава*
Карэктар *А.М. Чамаханенка*
Тэхнічны рэдактар *В.У. Кузьміна*
Мастак *А.Г. Званароў*
Камп'ютэрная вёрстка *Г.М. Бялкоўскай*

Падпісана ў друк 10.03.2003. Фармат $70\times90^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Пецярбург. Друк афсетны. Ум.друк.арк. 25,74. Ул.-выд.арк. 20,11. Тыраж 1000. Заказ 1476.

Выдавецтва «Тэсей» ТАА. Ліцэнзія ЛВ № 36 ад 10.09.02. 220002, Мінск, вул. В. Харужай, 31а, п. 511, тэл. 210-13-89, 284-88-63, e-mail: tesey@belsonet.net.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка на УП «Мінская фабрыка каляровага друку». 220004, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

